


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

12 САКАВІКА 1999г. № 10/3990 КОШТ 12 000 РУБ.

## "УЛАДЫ ПАВІННЫ ЗРАЗУМЕЦЬ..."

***Юрый СУРАЎЦАЎ: "Сёння праблем шмат, але на першае месца я паставіў бы наступную: як дабіцца таго, каб нашыя ўлады ўвогуле змаглі зразумець эксклюзіўнасць нацыянальна арыентаванай культуры, яе незвычайную важнасць як для ўнутранай, так і знешнепалітычнай стабілізацыі. Без нацыянальна зарыентаванай інтэлігенцыі не будзе ні трываласці, ні развіцця творчага патэнцыялу любой дзяржавы, не будзе міжнароднага прызнання і павагі, а, значыць, не будзе і эфектыўнай знешняй палітыкі".***



## ТЫ ЛІШНІ, ТЫ ВОЛЬНЫ...

***Штрыхі да творчага партрэта лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Уладзіміра НЯКЛЯЕВА***



## ГУЛЬНЯ Ў ХОВАНКІ

***Апавяданне Анатоля КАЗЛОВА***



## ДАЙ ГАЛОДНАМУ ВУДУ, А НЕ РЫБУ

***Ігнат ДУБРОЎСКІ: "Ёсць адзінае выйсце — рэфарміраваць сельскую гаспадарку з незавершанага ў завершаны тып вытворчасці, якая будзе выпускаць не сыравіну, а гатовую да спажывання прадукцыю і паўфабрыкаты".***



## ПОДЗВІГ КАБЗАРА

***Да 185-годдзя з дня нараджэння Тараса ШАЎЧЭНКІ***



### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Ідзе падпіска на наш штотыднёвік на другі квартал 1999 года. На "ЛіМ" можна падпісацца ў любым паштовым аддзяленні. Кошт падпіскі на месяц — 70 тысяч рублёў, на квартал — 210 тысяч рублёў.*

**Наш індэкс — 63856.**




*Саліруе Павел БЯЛЯЎСКІ.*



*Яўгенія ЛЯТУН.*

# Назавём іх... героямі



*Заслужаны артыст Украіны Энвэр ІЗМАЙЛАЎ.*

Героі бываюць не толькі ў спорце, на жніве ці ў антычнай міфалогіі. Сапраўдныя музыканты — таксама героі. Сумняваецеся? Дык успомніце семантыку гэтага высокага слова: самаахвярнасць, здатнасць прыцягваць агульную ўвагу і выклікаць захапленне, быць галоўнай дзейнай асобай — хіба не пра іх?

Яны пераадолелі мноства фінансавых і арганізацыйных праблем, каб зноў сабрацца разам, на ўжо шостым Міжнародным фестывалі джаза ў Мінску. І зноў уразілі праўдзівасцю, шчырасцю, шчодрасцю свайго мастацтва. Дзівоснага мастацтва джаза, у якім усё вызначаецца талентам, творчай інтуіцыяй, у якім высокая тэхнічнасць не заменіць тонкага партнёрскага ўзаемаразумення, а "кніжная" акадэмічная адукаванасць — прыроднага адчування жывой сістэмы блюзавых выразных сродкаў... Яны — сапраўдныя зоркі, бо ў адрозненне ад папулярных куміраў, спанатраных у маніпуляванні фанаграмамі, яны твораць жывую музыку і гатовыя, не зважаючы на мізэрную аплату сваёй працы, граць, імправізаваць, бісіраваць гадзінамі, гадзінамі...

А публіка (ёй давялося памагацца за месца нават... на падлозе!) слухала б іх, здаецца, суткамі. Найвіртуозныя імправізацыі Э. Ізмайлава, які ўражваў незвычайнымі прыёмамі грання на гітары, а часам і на дзвюх, вымушалі забыцца на час. Крымскае трыо пад яго́ным кіраўніцтвам пачаставала джазавых гурманаў экзотыкай татарскага блюза, фальклорам балканскага рэгіёна, музыкай узбекскага базара і класічным свінгам. Не менш экзотыкі, віртуознасці, эксцэнтрычнасці было ў мастацтве гасцей з Малдовы — трыо "Trigon" з лідэрам А. Штэфанецам. Але сапраўднай творчай асновай фестывалю сталіся выступленні беларускіх джазменаў.

Класічны джаз — гэта і школа высокага густу, і яго паказчык. Біг-бэнд Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам прафесара М. Фінберга парадаваў прэм'ерамі джазавай класікі, якую дагэтуль мы чулі, бадай, толькі з кружэлак легендарных вялікіх аркестраў. Складаныя партытуры, маштабныя маляўнічыя палотны, насычаныя імклівымі рытмічнымі, тэмпавымі, танальнымі пераменамі, кантрастамі шматлікіх сола і туціўных фактур, — як бліскуча яны прагучалі! Якія эфектныя "рыфы" выдае саксафон В. Ямуцеева, які прыгожы яркі гук у трамбона Д. Бударына, як самазабыўна імправізуе малады ўдарнік А. Славінскі, як фантастычна "прамаўляе" на сваім залатым інструменце, працуючы сурдзінай, трубач В. Шчарыца — "першая скрыпка" біг-бэнда! А якою кранальнай была падчас фестывалю сустрэча на канцэртнай сцэне з мэтрам беларускага фартэпіяннага джаза, лаўрэатам многіх конкурсаў А. Эскіным і "ўзыходзячай зоркай", клавішнікам К. Гарачым!

Мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі маэстра М. Фінберг імкнецца ствараць спрыяльныя ўмовы для творчай самарэалізацыі артыстаў.

*(Працяг на стар. 2)*



*Біг-бэнд пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Міхала ФІНБЕРГА.*

*Фота У. САПАГОВА і А. ПРУПАСА*



## КОЛА ДЗЁН

***У сталічным гандлі з'явіліся свежыя памідоры і агуркі. Іх можна купіць адпаведна за 400 тысяч і 480 тысяч рублёў за кілаграм. Цэны "кусаюцца", але што сёння не кусаецца... Праўда, калі з'явіліся памідоры і агуркі, прапалі яйкі і сыр.***

***А ў Расіі Дзярждума прагаласавала за вяртанне гімна Савецкага Саюза...***

### *АПЫТАННЕ ТЫДНЯ*

Лабараторыя сацыялагічнага даследавання "Новак" правяла чарговае апытанне рэспандэнтаў па Беларусі і ў Мінску. Па выніках апытання на сённяшні дзень у нашай краіне ніводная сям'я не жыве "вельмі добра". 3 працэнты сем'яў лічаць, што яны жывуць "добра". 16,9 працэнта акрэслілі сваё становішча як "вельмі кепскае" і 33,6 працэнта — як "сярэдняе". Прадчуванні далейшага пагаршэння эканамічнага становішча непакояць 46,7 працэнта апытаных сем'яў, "значнага пагаршэння" чакаюць 9,3 працэнта рэспандэнтаў. Саюз Беларусі і Расіі ўхваляюць 43 працэнты апытаных і супраць шчыльнага саюза — 44,3 працэнта. На шырокі недавер да саюза з Расіяй моцна ўплывае боязь ваеннага аб'яднання. Мець агульную армію згаджаюцца толькі 2 працэнты рэспандэнтаў. Уласнаму, неаб'яднанаму ні з кім войску цалкам даверае 60,7 працэнта беларусаў.

### *ВІЗІТ ТЫДНЯ*

У нашу краіну прыехала місія Міжнароднага валютнага фонду, якая прабудзе ў нас да 23 сакавіка. За гэты час яна мае намер правесці перамовы ў міністэрствах эканомікі, фінансаў і шэрагу іншых устаноў. Па выніках сустрэч МВФ прымае рашэнне даваць нашай краіне крэдыты ці не.

### *АРЫШТ ТЫДНЯ*

Супрацоўнікі КДБ арыштавалі дырэктара ЗАТ "Кампанія Мінскага аптовага рынку" Ігара Савіцкага і ягонага намесніка Валерыя Бажкова, якія абвінавачваюцца ў атрыманні хабару ў памеры 1000 долараў ад адной камерцыйнай фірмы, якая прасіла "паспрыяць" рэалізацыі сваёй прадукцыі. Гэта ўжо не першая скандальная гісторыя, звязаная з Мінскім аптовым рынкам. І ці апошняя...

### *ЛІЧБЫ ТЫДНЯ*

Кожны год зімой ва ўсім свеце людзі хварэюць на грып. Не выключэнне і наша краіна. З пачатку эпідэміі на грып і вострыя рэспіраторныя інфекцыі ў Беларусі захварэлі амаль 700 тысяч чалавек. Зарэгістраваны ўжо 4 смяротныя выпадкі. Удзельная вага сярод захварэўшых дзяцей да 14 гадоў складае 38 працэнтаў, у той час як раней іх колькасць дасягала 57—60 працэнтаў. Спецыялісты ўпэўнены, што зменшыць колькасць хворых на грып сярод дзяцей дазволіла своечасовае ўвядзенне каранцінных мер у школах.

### *ЗВЕСТКІ ТЫДНЯ*

Па звестках Міністэрства статыстыкі і аналізу РБ на пачатак гэтага года з 10 203,8 тыс. насельніцтва Беларусі жанчыны складалі 5443,1 тыс. чалавек. Найбольшая колькасць жанчын (83 працэнты) занятыя ў сістэме аховы здароўя і сацыяльнага забеспячэння. Другое месца па колькасці жаночага ўдзелу (79,6 працэнта) займае адукацыя, далей ідуць страхаванне (75,4 працэнта), гандаль і сістэма грамадскага харчавання (74,8 працэнта).

### *ПРАГНОЗ ТЫДНЯ*

Вялікія снегапады ў лютым і ў апошнія дні даюць спецыялістам падставы зрабіць прагноз наконт вясенняй паводкі. Асноўныя праблемы будуць звязаны з пачаткам крыгалому на трох рэках — Бярэзіне, Сожы і Дняпры. Затапленне пагражае 52 населеным пунктам Магілёўшчыны, а гэта больш як дзве тысячы жылых дамоў. Па прагнозах сіноптыкаў, крыгалом на рэках Магілёўскай вобласці пачнецца прыкладна 15-20 сакавіка. Чакае паводка і Палессе.

### *КОШТЫ ТЫДНЯ*

Не за гарамі лета — пара адпачынку, і таму ў друку з'явілася інфармацыя аб коштах пуцёвак у санаторыі, прафілакторыі і дамы адпачынкаў нашай краіны. Кошты ўражваюць. Мяркуйце самі: толькі ў І квартале гэтага года кошт пуцёўкі на аздараўленне на тэрыторыі Беларусі складае ў сярэднім 23 млн. рублёў для санаторыяў, 21 млн. — для санаторыяў-прафілакторыяў і 18—19 млн. — для дамоў адпачынку. Як гаворыцца, не з нашымі заробкамі...

### *РАШЭННЕ ТЫДНЯ*

Камітэт пагранічных войск і Міністэрства замежных спраў РБ прынялі рашэнне, згодна з якім з 1 красавіка многія ўладальнікі "савецкіх" замежных пашпартоў павінны са сваімі "чырвонымі пашпарцікамі" развітацца. Несапраўднымі будуць лічыцца пашпарты, у якіх дадаткова ўклеены белыя лісткі, а тыя дакументы, якія не абцяжараны "ўклейкамі", застануцца сапраўднымі да 31 снежня 2001 года.

### *КАНФІСКАЦЫЯ ТЫДНЯ*

Супрацоўнікамі Жлобінскага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю арыштаваны 6 фальшываманетчыкаў з Расіі, у якіх канфіскавана 100 тысяч падробленых долараў. Злачынцы планавалі прадаць гэтыя падробкі з розніцу 2 да 1. Дзе дакладна былі зроблены гэтыя грошы, міліцыя не ведае, але ім вядома адно: фальшываманетчыкі прыехалі ў нашу краіну з Масквы, самі яны родам з Дагестана, а некаторыя нават служаць у спецпадраздзяленнях расійскай арміі.



ДАТЫ

# "Пушкінскі тыдзень" "Пушкінскага года"

Ён пакрысе набывае сваю адметнасць — год, якому наканавана ўвайсці ў гісторыю сусветнай культуры, як год 200-годдзя Пушкіна. І няхай пакуль юбілейныя мерапрыемствы яшчэ не сталі масавымі — такімі ім быць бліжэй да лета, калі і нарадзіўся адзін з найвялікшых паэтаў чалавецтва, усё ж многае робіцца. Ужо праводзяцца ў розных гарадах выстаўкі, прысвечаныя жыццю і творчасці паэта, адкрываюцца школьныя музеі. Выдавецтвы клапоцяцца, каб своечасова выйшлі кнігі Пушкіна, якія запланаваны да юбілею. У прыватнасці, пабачыць свет аднатомнік яго выбраных твораў у перакладзе на беларускую мову. Змест кнігі складуць як ранейшыя пераклады, так і новыя, выкананыя непасрэдна да юбілею. Дарэчы, творы Пушкіна па-беларуску выдаваліся неаднойчы. З найноўшых выданняў — двухтомнік, што з'явіўся ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" некалькі гадоў назад. Ён прыгожа, з густам аформлены, выкананы на высокім паліграфічным узроўні.

Працуе Нацыянальны аргкамітэт па падрыхтоўцы і правядзенні мерапрыемстваў, прысвечаных 200-годдзю з дня нараджэння Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна. Нядаўна ў Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь пад старшынствам намесніка прэм'ер-міністра Уладзіміра Замяталіна прайшло яго чарговае пасяджэнне.

У краіне мяркуецца правесці "Пушкінскі тыдзень". Пачнецца ён 24 мая — у Дзень славянскага пісьменства і культуры, а завершыцца Рэспубліканскім святам пушкінскай паэзіі ў Мінску, якое запланавана на 6 чэрвеня — дзень нараджэння паэта.

"Пушкінскі тыдзень" будзе насычаны мерапрыемствамі. У яго рамках запланаваны літаратурныя святы ў вёсцы Цялуша Бабруйскага раёна, на славутым возеры Свіцязь у Навагрудскім раёне, а таксама ў іншых месцах Беларусі, якія звязаны з жыццём Аляксандра Сяргеевіча і яго сваякоў. 200-годдзю з дня нараджэння Пушкіна будзе прысвечана навуковая канферэнцыя "Пушкін — беларуская культура — сучаснасць", якая пройдзе 26—27 мая ў Доме дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі. На гэты форум збяруцца вядучыя спецыялісты Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, вышэйшых навучальных устаноў нашай краіны, а таксама ўстаноў культуры. Будуць запрошаны вучоныя-пушкіністы з Расіі, Польшчы, Украіны, Літвы.

У рамках "Пушкінскага тыдня" адбудуцца літаратурна-мастацкія выстаўкі. На гэты час прыпадзе падвядзенне вынікаў шматлікіх творчых конкурсаў, прысвечаных юбілею Пушкіна. А яшчэ ў адзін з дзён у сталіцы адкрыецца помнік Аляксандру Сяргеевічу, падораны Мінску кіраўніцтвам Масквы.

Кульмінацыяй Тыдня, як і ўсяго Пушкінскага года, стане ўрачыстае пасяджэнне ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета — 4 чэрвеня. У ім прымуць удзел кіраўнікі краіны, афіцыйная дэлегацыя з Расіі, прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса і грамадскасці рэспублікі. Пасля ўрачыстага пасяджэння адбудзецца вялікі святочны канцэрт.

Тым самым беларусы яшчэ раз засведчаць сваю прыхільнасць да аднаго з самых выдатных паэтаў, які, з'яўляючыся сынам сваёй краіны, адначасова належыць усяму чалавецтву.

**Н. К.**



КОНКУРСЫ

# Год пачаўся перамогай

На працягу студзеня ў Харваціі адбыўся музычны марафон, які складаўся з фестывалю і міжнароднага конкурсу для дзяцей, юнацтва і больш дарослых піяністаў-выканаўцаў. Ладкавала гэтыя культурныя падзеі Еўрапейская асацыяцыя педагогаў фартэпіяна — уплывовая і папулярная арганізацыя, якая існуе ўжо 20 гадоў. Яна аб'ядноўвае 38 нацыянальных асацыяцый.

У Беларусі адным з чальцоў EPTA (European Piano Teacher's Association) і яе віцэ-прэзідэнтам з'яўляецца Уладзімір Няхаенка — дэкан, дацэнт кафедры спецыяльнага фартэпіяна Акадэміі музыкі. Яго імя вядомае ў музыканцкім асяроддзі і за межамі Беларусі — у асноўным, дзякуючы нястомнай і плённай педагагічнай дзейнасці. Апошнія гадоў 5-6 вучні Уладзіміра Мікалаевіча не перастаюць здзіўляць і радаваць усё новымі ўзнагародамі за поспехі на самых прэстыжных фартэпіянных конкурсах. І вось сёлетні год таксама пачаўся перамогай: III прэмію на Першым міжнародным юнацкім конкурсе піяністаў у Харватыі атрымаў выхаванец У. Няхаенкі, вучань 11 класа каледжа Васіль Нетук.

Гэта ўжо не першае лаўрэацкае званне ў творчай біяграфіі В. Нетука. Нагадаем, што ён быў адзначаны III прэміяй на І Міжнародным конкурсе імя С. Пракоф'ева ў Маскве, ІІ прэміяй на IV Міжнародным конкурсе імя У. Крайнева ў Харкаве, іншымі ганаровымі ўзнагародамі, якія заклалі добры падмурак для развіцця выканальніцкай кар'еры 16-гадовага музыканта.

Конкурс у Харватыі сабраў піяністаў з 11 краін, і не толькі еўрапейскіх. Прастора былога Саюза была прадстаўлена чатырма выканаўцамі — з Беларусі, Расіі, Летувы і Эстоніі. Перад журы, у склад якога ўвайшлі сямёра шаноўных спецыялістаў на чале са старшынёй Альберта Партушэсам, паўстала нялёгкая задача: з усіх канкурсантаў абраць чатырох найбольш дастойных. Жорсткія ўмовы спаборніцтва з бляскам вытрымаў юны Васіль Нетук.

Віртуознасць выканання, уласцівая яму, асабліва ярка выявілася ў тэхнічна складаных творах Ф. Ліста — "Кампанэле" соль-дыез мінор з цыкла "Вялікія эцюды паводле Паганіні" і Другой "Венгерскай рапсодыі", якая прагучала з мала вядомай кадэнцыяй С. Рахманінава. Вялікае захапленне слухачоў выклікала эфектна выкананая В. Нетукам фартэпіянная транскрыпцыя У. Алоўнікава экстатычна-экспрэсіўнай "Оргіі фанатыкаў" з балета "Свята і цені" Г. Вагнера. Гэты беларускі твор меў ашаламляльны поспех.

Але галоўнымі вартасцямі маладога канкурсанта з'явіліся сталасць думкі і інтэрпрэтатарскі падыход у выкананні музыкі вялікага В. Моцарта, што было адзначана спецыялістам у прыватнай гутарцы пасля выступлення Васіля. Яму ж упершыню давялося іграць такія буйныя па маштабах моцартаўскія фартэпіянныя цыклы, як Саната до мінор і Варыяцыі на тэму менуэта Дзюпора рэ мажор.

У бліжэйшых планах В. Нетука — дапоўніць свой рэпертуар творамі І. С. Баха (сюітамі, партытамі) і ажыццявіць шэраг цікавых творчых задумак.

**Валянціна АЛЕФІРЭНКА**

**P. S.** Нядаўна ў класе У. Няхаенкі з'явіўся яшчэ адзін лаўрэат: студэнт-пяцікурснік Канстанцін Красніцкі заваяваў на Міжнародным конкурсе ў Загрэбе 1 месца.

**В. А.**



*На здымку: Уладзімір НЯХАЕНКА з Васілём НЕТУКАМ і Канстанцінам КРАСНІЦКІМ.*
*Фота У. САПАГОВА.*

# Назавём іх... героямі

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

Цікава раскрываюцца іх таленты ў квінтэце пад кіраўніцтвам А. Каліноўскага з удзелам Д. Бударына, І. Мішуры, А. Славінскага, С. Аляксандрава, у джаз-квартэце "Новае пакаленне", дзе граюць М. Ласкутоў, С. Канавалаў, В. Шыянаў, Ц. Бірукоў.

Зрэшты, як неадночы казаў маэстра, увесь калектыў — гэта сапраўдны аркестр салістаў, і сённяшні іх тэхнічны ўзровень дазваляе граць практычна ўсё. Праблема ў тым, што граць, бо з развіццём камп'ютэрнай тэхнікі на мяжы вымірання апынулася прафесія джазавага аранжыроўшчыка. Сёння літаральна "націсканнем кнопкі" вырашаюцца тыя мастацкія задачы, якія вымагаюць ад кампазітараў і майстроў інструментоўкі глыбокіх тэарэтычных ведаў, практыкі, эстэтычнага густу... Дзякуй Богу, у маладзейшага пакалення музыкантаў прачынаецца дух творчасці. Прынамсі, было ўсцешна слухаць кампазіцыі А. Каліноўскага ды С. Аляксандрава, дзе ёсць і высокая спанатранасць у штрыхавой культуры джазавага выканання, і лірычны дар меладыстаў, і цікавасць да працы з беларускім фальклорам.

І калі ўжо казаць пра перспектывы айчыннага джаза, варта добрым словам згадаць ансамбль Беларускага універсітэта культуры пад кіраўніцтвам У. Бялова. Тут ёсць свая пакуль яшчэ зусім маладая зорачка — Я. Лятун, джазавая вакалістка з адметным прыродным дарам, які вымагае далікатнай апрацоўкі...

А больш грунтоўная размова наконт праблем і перспектыў мае адбыцца ўвосень, калі мяркуецца правесці ўжо другі Беларускі фестываль эстрадных аркестраў.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

ТВОРЧАСЦЬ

# Такія розныя імгненні...

За 30 гадоў сваёй прафесійнай кампазітарскай дзейнасці Рыгор Сурус стварыў адметны музычны свет. Свет, сатканы з многіх, многіх імгненняў, у якіх адлюстраваліся хвіліны задумення, лірычных успамінаў, грамадзянскага пафасу, гарэзлівага настрою, захаплення народнай самабытнасцю і мудрасцю... І ўся гэтая "стракатасць імгненняў" зніта ваная рэдкасным для сучасных нашых творцаў жыццярадасным, аптымістычным, захопленым светаўспрыманнем кампазітара.

Творчасць Рыгора Суруса — гэта і арыгінальная вакальна-сімфанічная сюіта "Сваток" на беларускія народныя тэксты, і адметны музычна-тэатральны твор "Несцерка", і "Судны час", у якім першаасnова — макаёнкаўскі "Трыбунал" — набыла пераканальнае жанравае пераасэнсаванне, паўстала геранічнай камедыяй. Гэта і мноства жанравых п'ес — аркестравых, камерна-інструментальных. Гэта і вялікі пласт музыкі для дзяцей, педагагічны рэпертуар, які таленавітыя юныя выканаўцы робяць канцэртным. Гэта і эстрадная кампазіцыі: лірычныя, імпульсіўныя, забаўныя...

"Як светла, няўрымсліва, панюнацку непасрэдна падаецца жыццё ў яго музычных вобразах!" — падумалася падчас чарговай філарманічнай прэм'еры Рыгора Суруса. Выконвалася яго інтэрмецца "На прагулцы": у суправаджэнні Камернага канцэртнага аркестра народнай і папулярнай музыкі пад кіраўніцтвам Віктара Валатковіча захоплена і віртуозна салiравала акардэаністка Вікторыя Старыкава. Гэта быў подых сапраўднай творчасці, маладосці, свежасці!

І ўспомнілася ўжо іншы твор, які не так даўно ўвайшоў у наш культурны досвед: "На Купалле", канцэрт Р. Суруса для сімфанічнага аркестра. Характэрная для кампазітара і зразумелая для слухача праграмнасць. Імкненне па-свойму паглядзець на спрадвечныя традыцыі. Няўрымслівы, непадказальны "сурусаўскі почырк", што прыцягвае ўвагу, прымушае ўслухоўвацца ў музычныя імгненні, з якіх тчэцца вобразнае палатно твора...

Бывае так, што сімфанічныя партытуры або аркестрава-харавыя фрэскі робяцца прыступкай да працы кампазітара над буйным цыклічным або музычна-тэатральным опусам. Я нічога не ведаю пра творчыя планы Р. Суруса, і толькі магу сабе дазволіць меркаваннездагадку наконт таго, што свет канцэрта "На Купалле" будзе яшчэ доўга трымаць у палоне ўласную мастацкую фантазію кампазітара.

**С. Б.**




*На здымку: пасля нядаўняй прэм'еры — заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Р. СУРУС, салістка В. СТАРЫКАВА і дырыжор В. ВАЛАТКОВІЧ.*

*Фота У. САПАГОВА*

# Пад знакам славянства

Славянства. Колькі разоў зараз гучыць гэтае слова, колькі адценняў, значэнняў, экспрэсіі ўкладвае ў яго кожны, хто яго прамаўляе!.. Для некаторых такі тэрмін стаў ледзь не сінонімам вялікарускасці ці носіць значэнне супрацьпастаўлення ўсяму іншаму свету. Ды, дзякуй Богу, далёка не для ўсіх.

Пад знакам славянства праходзіла і вечарына народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча, на якую ў Дом літаратара сабраліся прыхільнікі таленту Ніла Сымонавіча. І, слухаючы ў яго цудоўным перабасабленні вершы балгарскіх, славенскіх, сербскіх паэтаў, думалася пра вялікі духоўны свет, які яднае нашы народы, высокі гуманізм і любоў да сваёй культуры і мовы, якімі былі прасякнуты вершы нашых братоў.

Нездарма адзін з гледачоў, які трапіў на вечарыну, заўважыў, што і ў вершах, і ў перакладах гучыць сапраўдная вера, вера, без якой чалавеку цяжка на зямлі.

Пад тры гадзіны доўжылася выступленне Н. Гілевіча, але гледачы не хацелі адпускаць яго са сцэны. Давялося разам пагадзіцца на працяг такіх сустрэч, бо ў перакладчыка ў запасе яшчэ шмат пераўвасабленняў на беларускую мову твораў украінскіх, рускіх, польскіх і іншых аўтараў.

Такім чынам, сёлета ў Доме літаратара плануецца цэлая серыя імпрэз, прысвечаная лучнасці славянскіх літаратур, братняй дружбе нашых народаў.

**Г. ЯКУБОЎСКІ**

# "Цунамі" паэтычных радкоў...

"Вечны араты Аркадзь Куляшоў ідзе па небе і асыпае нас зорамі". Гэтымі словамі Уладзіміра Някляева завяршыўся літаратурна-музычны вечар, прысвечаны 85-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова, які днямі адбыўся ў храме паэзіі. Аркадзь Куляшоў, як адзначыў Уладзімір Някляеў, быў адным са жрацоў гэтага храма.

Прычасціцца да паэзіі слыннага песняра прыйшло шмат моладзі, інтэлігенцыі. З успамінамі пра яго выступілі старшыня камісіі па спадчыне народнага паэта Генадзь Бураўкін, вучань і паплечнік Аркадзя Куляшова Мікола Аўрамчык, удзячны спадчыннік свайго слаўтага земляка Алесь Пісьмянкоў, пісьменніца Валянціна Коўтун. Эсэ пра творчасць Аркадзя Куляшова прачытала Галіна Булыка. Выкладчыца БДУ Людміла Хрышчановіч прысвяціла сваё выступленне гісторыі кахання Аркадзя Куляшова і Сашы Карыткінай — гераіні вершаў і выдатнай песні Ігара Лучанка "Алеся". Гэтую і другую песню, напісаную на верш Аркадзя Куляшова "Калі вясною закукуе...", выканаў пад акампанемент аўтара песні вядомы спявак Іван Краснадубскі.

У выкананні Мікалая Казініна, Марыі Захарэвіч, Галіны Дзягілевай і Валерыя Анісенкі цудоўна прагучалі вершы Аркадзя Куляшова. Фальклорны гурт "Ліцьвіны", якім кіруе ўнук Куляшова Уладзімір Берберaў, парадаваў новымі песнямі і высокім прафесіяналізмам. Прачулыя словы пра бацьку сказала пісьменніца Валянціна Куляшова, якая прыйшла на вечар з унучкай Алесяй.

Дваццаць адзін год няма з намі Аркадзя Куляшова. Калісьці, на вечары Пімена Панчанкі, ён заклікаў усіх берагчы сэрцы паэтаў. Эмацыянальнасць, моцная энергетыка рана спапялілі ягонае сэрца. Рана мы праводзілі аднаго з самых выдатных нашых нацыянальных паэтаў у апошні шлях — "да акіяна". Але вечная яго паэзія, "цунамі" яго паэтычных радкоў заўсёды будзе ўздымаць нашы душы.

**Валянціна СКАРЫНКІНА**



*На здымку: унук Куляшова Уладзімір Берберaў*

*Фота А. ПРУПАСА*

АБСЯГІ

ГОМЕЛЬ...

## Творчыя гарызонты горада

У Гомелі шмат палацаў культуры, клубаў, бібліятэк, працуюць тры тэатры, краязнаўчы музей з мастацкім аддзелам, выставачная зала абласной арганізацыі Саюза мастакоў, цырк. Але сённяшняя рэчаіснасць прад'яўляе новыя патрабаванні да паляпшэння адпачынку гамяльчан. У гэтай справе вялікую ролю павінны адыграць удасканаленне матэрыяльнай базы ўстаноў культуры, рэарганізацыя іх дзейнасці. Гарвыканкам на сваім нядаўнім пасяджэнні прыняў канкрэтнае рашэнне дзеля аздараўлення культурна-эстэтычнай атмасферы горада. У абласную камунальную ўласнасць для размяшчэння тэатра лялек перададзены будынак кінатэатра "Спартак". На баланс аддзела культуры гарвыканкама прыняты Палац культуры арэнднага вытворчага будаўніча-мантажнага аб'яднання "Гомельпрамбуд", на базе якога адкрыецца гарадскі цэнтр адпачынку, дзе будзе выставачная зала, запрацуюць творчыя клубы. Плануецца адкрыццё гарадской карціннай галерэі. Ствараецца спецыяльны фонд, сродкі ад якога будуць выкарыстоўвацца для фінансавання праграм развіцця культуры і мастацтва Гомеля.

## Мелодыі вясны

У абласным грамадска-культурным цэнтры выступілі вядучыя акцёры Беларускага тэатра музычнай камедыі. Сярод іх — вядучы саліст, заслужаны артыст Беларусі Аляксей Ісаеў. У канцэртнай праграме — сцэны з аперэт Штрауса, Кальмана, Легара, Аляксандрава, Мілюціна, старадаўнія рамансы і папулярныя эстрадныя шлягеры. У гэтым жа цэнтры адбыўся і сольны канцэрт народнага артыста Беларусі Яраслава Еўдакімава.

## ВНУ — сельскай школе

У Чачэрскім раёне ёсць вялікая вёска Палессе. Славіцца яна сваімі талентамі. Здаўна тут у пашане песні і танцы, дзейнічае вядомы народны хор. Вучыцца мудрасці жыцця і падрастаючае пакаленне. Тутэйшыя юнакі і дзяўчаты — вельмі дапытлівыя. У мясцовай школе добрая бібліятэка. Нядаўна яе паліцы папоўніліся новымі мастацкімі і навуковымі кнігамі. Іх прывезлі са сваёй бібліятэкі супрацоўнікі Беларускага дзяржаўнага універсітэта транспарту. Устаноўлены сувязі паміж гэтай гомельскай ВНУ і школай будуць умацоўвацца і пашырацца.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

ВІЦЕБСК...

## "Родныя мясціны не забываюць..."

На Віцебшчыне прайшлі дні літаратуры, прысвечаныя Еўдакіі Лось. Яны пачаліся ў мясцовым дзяржуніверсітэце, дзе ладзілася падобнае свята. Са словам пра паэтку выступіў Анатоль Канапелька. Давід Сіманавіч падзяліўся ўспамінамі пра сустрэчы, паказаў пісьмы і фотаздымкі з асабістага архіва. Гучалі запісы жывога голасу паэтэсы: "Родныя мясціны не забываюць нідзе і ніколі. Я гаварыла і гавару пра гэта ўсё жыццё, пра гэта пішу вершы. Я ганаруся, што паходжу з Віцебшчыны..."

Ля помніка Е. Лось, які адкрыты ў Віцебску тры гады таму, таксама гучалі словы любові і павагі. Вечарына адбылася і ў бібліятэцы, якая носіць імя паэткі. А Віцебскі літаратурны музей падрыхтаваў выставу.

12 сакавіка дні літаратуры завяршыліся вялікім святам на радзіме Е. Лось ва Ушачах.

**Святлана ГУК**

ГРОДНА...

## Свята фотамастацтва

Фестываль фатаграфіі, прысвечаны 160-годдзю гэтага віду мастацтва, праходзіць у Гродне. Адным з яго мерапрыемстваў стала адкрыццё фотавыставы "Аўгустоўскі канал. Залатая восень-98" у абласным гісторыка-археалагічным музеі. Выстава стала вынікам міжнароднага фотапленэру, які напрыканцы мінулага года наладзіў мясцовы фотаклуб "Гродна". У пленэры прынялі ўдзел вядучыя майстры двух беларускіх фотаклубаў — "Мінск" і "Гродна", а таксама саюза фотамастакоў Польшчы. Сярод іх такія вядомыя творцы, як Генрых Рагазінскі, Віктар Волкаў, Ян Спалван, Яўген Казюля, Міхаіл Анішчанка і іншыя.

На выставе прадстаўлены работы 18 аўтараў. І кожны з іх стварыў свой адметны і непаўторны вобраз "Аўгустоўскага канала", гэтага гістарычнага помніка непадалёк ад Гродна, які злучаў басейны Нёмана і Віслы. Дарэчы, Аўгустоўскі канал з'яўляецца аднагодкам фатаграфіі. Сёлета таксама адзначаецца яго 160-годдзе.

## Культура беларусаў Панямоння

Фундаментальнае выданне, прысвечанае гісторыі і сучаснаму стану традыцыйнай мастацкай культуры беларусаў, рыхтуецца ў Беларускім інстытуце праблем культуры. Яно будзе складацца з шасці тамоў, кожны з якіх прысвечаны асобнай вобласці рэсублікі. На Гродзеншчыне распачата праца па зборы матэрыялаў для тома, прысвечанага культуры беларусаў Панямоння. Ужо складзены карты фальклору і рамёстваў раённай вобласці, на якіх абазначаны населеныя пункты, дзе захавалася жывое традыцыйнае народнае мастацтва. Ва ўсіх гэтых гарадках, вёсках і нават на хутарах павінны пабываць удзельнікі творчага калектыву падчас запланаваных імі экспедыцый. Будуць збірацца і вывучацца абрадавая і пазаабрадавая песня, народная проза і замова, танец, гульні, каляднае і сямейная абраднасць, промыслы і рамёствы, інструментальная музыка, народны строй.

Навуковы калектыў узначальвае кандыдат мастацтвазнаўства Тамара Варфаламеева, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай акадэміі навук. З гродзенскага боку ў ім працуюць дырэктар абласнога метадычнага цэнтра народнай творчасці Аляксандр Лойка і яго галоўны спецыяліст Алена Храмкова.

**Лілія НАВІЦКАЯ**

МАГІЛЁЎ...

## "Кантакт" выходзіць на кантакт

У абласным цэнтры адбылася прэзентацыя клуба міжнароднага супрацоўніцтва "Кантакт" у доме дзіцячай і юнацкай творчай "Эверэст". Першы дзень работы клуба быў прысвечаны польскай культуры. А ўвогуле такія мерапрыемствы плануецца праводзіць раз у два-тры месяцы. Кожнае з іх будзе прысвечана аднаму з народаў, прадстаўнікі якіх пражываюць у нашай рэспубліцы. Наступная сустрэча ў клубе "Кантакт" адбудзецца ў красавіку, яе тэма — яўрэйская культура.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

ФЕСТЫВАЛІ

# А Беларусь у нас адна...

У мінулым нумары мы паведамлялі пра пачатак ІІІ Усебеларускага фестывалю нацыянальных культур. Пра яго змест і асаблівасці расказвае вядучы спецыяліст Міністэрства культуры Анатоль БАБІЦКІ:

**— Навізна ІІІ фестывалю нацыянальных культур вызначаецца тым, што ў яго структуру плануецца ўвесці пленэр фота- і выяўленчага мастацтва, у фестывальным відэатэатры — паказ лепшых стужак відэафільмаў, адкрыццё фестывальнай алеі "Сяброўства", арганізацыя старадаўніх гандлёва-гульнёвых атракцыёнаў (жырмундская рыбалка, воранаўскі чыгун, атракцыён "Не ляпніся ў лужыну", птушыны атракцыён і інш.).**

**Закончыцца фестываль водным святам на рацэ Нёман "Бывай ХХ стагоддзе, нас кліча ХХІ".**

**Трэба дадаць, што канцэптуальную аснову ІІІ Усебеларускага, як і папярэдняга фестывалю, распрацаваў загадчык кафедры Беларускага універсітэта культуры, кандыдат педагагічных навук П. Гуд.**

Стартаваў фестываль вялікім канцэртам у Палацы прафсаюзаў. Гэта было ва ўсіх сэнсах стракатае відовішча: спевы змяняліся танцамі, акадэмізм — эстрадай, следам за азербайджанскай і ўкраінскай мовамі гучалі руская і яўрэйская. Карэйскія вееры і цыганскія спадніцы ўвогуле выглядалі экзотыкай.

Канцэрт не адразу дасягнуў належнай "тэмпературы". Дзеці заскакалі на балконе дзесьці з паловы, калі з малдаўскай песняй выйшаў Мікола Барынскі. Цёпла сустрэла зала прафесійны вакальны гурт з Полацка "Блукаючыя зоркі". Пад напуры з яўрэйскіх народных мелодый цяжка было ўседзець на месцы.

Як і належыць, адкрывалі і завяршалі ўрачысты канцэрт беларускія гурты: "Неруш" і "Шматгалоссе". З прамовамі выступілі арганізатары, а таксама нязменны старшыня фестывальных журы М. Дрынеўскі і прадстаўнік Упраўлення культуры Гродзенскага аблвыканкама Д. Волчак.

У ІІІ Усебеларускага з'явілася свая візітоўка — песня "Беларускі дом", якую напісалі Сяргей Панізнік і Віктар Войцік. Прыпеў у ёй гучыць так:

***Гляджу з прыветнага акна:***
***Наўкруг — зямля сяброў.***
***А Беларусь, як і любоў,***
***На ўсё жыццё — адна!***

Гэтае пачуццё аднаго дому яднае ўсіх, хто поплеч з намі жыве, працуе, спадзяецца на лепшае.

## Добры пачатак

**Ваенна-шэфская камісія Саюза беларускіх пісьменнікаў і Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь прыйшлі да цікавага пагаднення: у гонар 55-ай гадавіны вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў правесці ў воінскіх гарнізонах рэспублікі шэраг сустрэч пісьменнікаў з вайскоўцамі.**

**Першая такая сустрэча адбылася. Група літаратараў — удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны Іван Кудраўцаў, Алесь Махнач і Паўлюк Пранузa, а таксама пісьменнікі Навум Гальпяровіч, Анатоль Сульянаў і Яўген Каршукоў наведалі Гвардзейскі аб'яднаны вучэбны цэнтр у г. Барысаве, дзе рыхтуюць малодшых вайсковых спецыялістаў. Наведанне вучэбнага Цэнтра задаволіла абодва бакі. Гаспадары пазнаёмілі гасцей з вучэбным Цэнтрам, а пісьменнікі выступілі з франтавымі ўспамінамі і сваімі творамі перад навучэнцамі.**

**Сустрэча была адметная яшчэ і тым, што гасцей запрасілі паўдзельнічаць у вайсковай гульні "Эрудыт". Зусім нечаканымі аказаліся пытанні аб творчасці Алеся Махнача і Паўлюка Пранузы. І ўжо зусім расчуліла пісьменнікаў сакавітае беларускае слова, якое гучала са сцэны: выканаўцы спявалі народныя песні, чыталі вершы беларускіх паэтаў.**

**Я. ІВАНОЎ**

## На беразе паэзіі..

**Нягледзячы на суровы лютаўскі характар сёлетняй зімы, па-сапраўднаму ўтульна і па-сямейнаму цёпла адчувалі сябе госці і ўдзельнікі паэтычнай вечарыны пад дахам "Беларускай хаткі".**

**У гэты вечар на паэтычным беразе, у адным паэтычным чаўне аказаліся разам аж чатыры паэты: Алесь Бакач, Міхась Скобла, Іван Чыгрын і Генадзь Бураўкін.**

**Вядомы беларускаму чытачу як складальнік анталогіі аднаго верша "Агледзіны", малады паэт з Баранавіч Алесь Бакач не толькі цікава і змястоўна распавёў пра сваю выдавецкую дзейнасць, але і пазнаёміў прысутных са сваімі новымі вершамі.**

**Як заўсёды з поспехам і своеасаблівым "багдановічаўскім" шармам выступіў Міхась Скобла. Слухачы на нейкі час трапілі ў незвычайны магічны палон паэтычнага слова, мастацкай метафары, якой ён дасканала валодае.**

**Дарэчы, М. Скобла прадставіў гасцям "хаткі" і наступнага ўдзельніка вечарыны — паэта Івана Чыгрына. І невыпадкова. Бо менавіта Міхась Скобла быў рэдактарам новай кнігі І. Чыгрына "Бераг", якая нядаўна выйшла ў выдавецтве "Беларускі кнігазбор". Такім чынам, у межах вечарыны адбылася міні-прэзентацыя згаданага зборніка.**

**Напрыканцы сустрэчы вершаваную эстафету прыняў Генадзь Бураўкін. Генадзь Мікалаевіч большую частку свайго выступу гаварыў мовай паэзіі. Дыяпазон паэтычнага гучання быў найшырокі: ад палымяных грамадзянскіх "вершагневаў" да пранікнёнай "аўтэнтычнай" лірыкі выдатнага майстра мастацкага слова.**

**Вёў вечарыну, кіраваў і "прычальваў" паэтычны човен песенным эпілогам гаспадар "Беларускай хаткі" паэт і бард Эдуард Акулін.**

**Н. К.**

## І снегапад, і "Смехапад"...

**Нягледзячы на густы і працяглы снегапад, утульна і весела было ў гэты дзень у Цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы Мінска. На прэм'еру кнігі Уладзіміра Мазго "Смехапад" прыйшлі сам аўтар і галоўны рэдактар выдавецтва "Юнацтва" паэт Міхась Пазнякоў.**

**Міхась Паўлавіч падзяліўся са школьнікамі выдавецкімі планамі на гэты год, адказаў на шматлікія пытанні.**

**Уладзімір Мазго прачытаў свае новыя творы, расказаў аб працы над кнігай. Гучалі на сустрэчы вершы, песні, казкі, загадкі, якія былі прыхільна сустрэты юнымі чытачамі.**

**Н. К.**

КОНКУРСЫ

# "Беларусь" і "Радзіма" — сінонімы

Не так даўно сусед папрасіў мяне дапамагчы ягонаму сыну напісаць школьнае сачыненне. Ты, маўляў, журналіст — табе гэта не цяжка. "Якая тэма?" — пацікавіўся я. "Беларусь і Расія — славянскія сёстры", — быў адказ. Згадзіўшыся на ролю кансультанта, я ў сціслай форме прадставіў суседу рэтраспектыву беларуска-расійскіх стасункаў ад часоў цара Івана III да прэзідэнта Барыса Ельцына. Пасля кароткага маўчання мой "замоўца" сказаў, што за такое сачыненне ягонага сына выганяць са школы. "Дык хай напіша на іншую тэму. Калі я вучыўся ў школе, памятаю, нам давалі некалькі тэм на выбар". "Выбару няма. Тэма адна, і яна абавязковая".

...Наколькі я ведаю, "сачыненне" тое было ў рэшце рэшт спісана слова ў слова з перадавіцы газеты "Советская Белоруссия". Гэты вымушаны плагіят атрымаў ацэнку "выдатна"...

Дрэнная тая ўлада, якая не думае пра заўтрашні дзень. Пра беларускую ўладу гэтага нельга сказаць. Яна думае пра моладзь. Пра тых, хто заўтра-паслязаўтра прыйдзе на выбарчыя ўчасткі. Пра электарат.

Аднак кожнае грамадства багатае разнастайнасцю думак. Не ведаю, ці нараджаецца ў спрэчках ісціна — але ўпэўнены: бясспрэчных ісцін не існуе. Тым болей ніхто не можа мець на ісціну манаполіі. У нашай краіне, акрамя дзяржаўных устаноў, вывучэннем гісторыі займаюцца і грамадскія структуры. У прыватнасці Архіў найноўшае гісторыі, што пры Беларускім гуманітарным фондзе "Наша Ніва". Прыгаданы фонд пры ўдзеле Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, пры метадычнай дапамозе Цэнтра KARTA (Варшава) і падтрымцы Фундацыі Стэфана Баторыя (Варшава) ладзіў у траўні—снежні мінулага года конкурс "Паўсядзённае жыццё ў Беларусі: 1945—1965". Гэта першы конкурс у праграме "Блізкая гісторыя". Браць у ім удзел маглі вучні, пачынаючы ад сёмага класа ўключна. Важным было тое, каб на момант абвяшчэння конкурсу ягоны ўдзельнік быў школьнікам.

Паўсядзённае жыццё — гэта тое, што звычайна застаецца па-за ўвагай "фундаментальнай" гістарыяграфіі, занятай палітычнай, эканамічнай, ваеннай гісторыяй. Бо калі гаворка ідзе пра расы, класы, этнасы і нацыі, дык звычайнага, паспалітага, чалавека папросту не бачна. "Маштаб" не той... Але паўсядзённае жыццё жывіць літаратуру і мастацтва. Творы, прадстаўленыя на гэты конкурс, у большасці ўяўлялі сабою сінтэз гісторыі (як навукі) і літаратуры (як формы). Іх можна было б аднесці да так званай "дакументальнай прозы" — жанру, сёння надзвычай распаўсюджанага.

Формы выканання прац былі розныя: тэкст, аўдыёкасеты з запісам апытанняў і ўспамінаў. Была праца, выкананая ў выглядзе спецвыпуску газеты для школьнікаў. Працы дапаўняліся дакументамі і фотаздымкамі. Праца журы праходзіла ў тры этапы. На першым этапе адсейваліся работы, якія тэматычна альбо храналагічна не адпавядалі конкурсу. У другі тур выйшла 111 прац, з якіх адбіраліся працы для ўзнагародаў. Трэці тур — размеркаванне ўзнагародаў. 4 працы атрымалі першую ўзнагароду, 9 — другую ўзнагароду, 19 — трэцюю. Асобна былі заахвочаныя апекуны прац-пераможцаў і найбольш актыўныя рэгіянальныя каардынатары конкурсу.





"Паперы з бабулінай скрыні", "Гісторыя звычайнага калгаса: гаспадарка і людзі", "Дзейнасць падпольнай маладзёжнай антысавецкай арганізацыі ў горадзе Лідзе", "Гісторыя полацкага аэрадрому", "З гісторыі Беларусі, ці Як мой дзед жаніўся", "...Нельга нішчыць святое", "Дваццацігоддзе марных спадзяванняў", "Мінск у 1945 годзе" — гэта назвы некаторых работ, адзначаных узнагародамі.

Мінск, Койданава, Наваполацк, Бабруйск, Магілёў, Лёзна, Смілавічы, Пружаны — некаторыя мясціны, адкуль на конкурс былі дасланыя працы.

Першая ўзнагарода — мультымедыйны камп'ютэр, другая — фотаапарат "Samsung" і дыктафон "Sony", трэцяя — дыктафон "Sony". Акрамя таго, узнагародамі заахвочаныя — камплектамі кніжак на гістарычную тэматыку, падпіскаю на незалежныя беларускія выданні ("Спадчына", "Наша ніва", "Наша слова", а таксама выданнямі рэгіёнаў, дзе жывуць удзельнікі конкурсу) і касетамі з запісамі беларускага року (NRM, "Народны альбом", іншыя) былі адзначаны ўсе 111 прац, што выйшлі ў другі тур.

Конкурс "Паўсядзённае жыццё ў Беларусі: 1945—1965" можна назваць разгорнутым адказам на папулярнае некалі пытанне "З чаго пачынаецца Радзіма?" Відавочна, што для новага пакалення Радзіма пачынаецца не са штурму Зімняга ці крамлёўскіх зорак. Для маладых — сінонімы "Радзіма" і "Беларусь".

Наступны конкурс, які збіраецца правесці Архіў найноўшае гісторыі, будзе прысвечаны тэме помнікаў. Дакладней: якія помнікі патрэбны Беларусі. Гэты конкурс будзе сумеснай беларуска-ўкраінскай культурніцкай акцыяй. Пра гэта ўжо ёсць дамоўленасць. Не застануцца ўбаку і нашы польскія калегі.

Хтосьці з вялікіх сказаў, што працэй зразумець чалавецтва ўвогуле, чым асобнага чалавека. Усвядоміўшы клопаты, трывогі і каштоўнасці будзённага жыцця, няцяжка перайсці і да гістарычных абагульненняў. Магчыма, сярод узнагароджаных на гэтым конкурсе ёсць тыя, хто яшчэ напіша сапраўдную гісторыю Беларусі і сцвердзіць беларускі погляд на сусветную гісторыю.

**П. ВАСІЛЕЎСКІ**

*На здымках У. САПАГОВА: 20 лютага, клуб "АкВарыум"; Уладзімір АРЛОЎ ад імя журы ўзнагароджвае юных гісторыкаў.*

ВАРУНКІ

# Пастаўлена кропка?

Недзе ў сярэдзіне 80-х у тагачаснага кіраўніцтва БССР узнікла ідэя рэканструкцыі часткі Даўгабродскіх (так званых Вайсковых) могілак. Той часткі, дзе пахаванні часоў Вялікай Айчыннай. Рэч у тым, што афіцыйныя святыні, да якіх у Дзень Перамогі і ў Дзень Вызвалення начальства ўскладала кветкі — абеліск на плошчы Перамогі, Курган Славы, Хатынь — гэта сімвалічныя надмагіллі. А варта было б іншы раз пакласці кветкі і да магіл сапраўдных. Даўгабродскія могілкі для гэтай справы падыходзілі, найперш таму, што знаходзяцца ў цэнтры горада.

Мастацкай распрацоўкай ідэі займаўся вядомы скульптар, адзін з аўтараў Хатынскага мемарыяла Валянцін Занковіч. Быў распрацаваны праект, але да рэалізацыі справа не дайшла. У краіне змянілася палітычная сітуацыя. Адкрыта загаварылі пра рэпрэсіі сталінскай пары, адтуль "перакідваўся мост" у сучаснасць — у камуністычнай улады захісталася глеба пад нагамі. Стала не да ваенных помнікаў. Асабліва ў святле перагляду гісторыі другой сусветнай вайны і ўсведамленні той акалічнасці, што Савецкі Саюз нароўні з нацысцкай Германіяй вінаваты ў распальванні сусветнага пажару 1939—1945 гадоў. У перыяд паміж 1988 і 1994 гадамі больш актуальнай успрымалася (нават часам на ўрадавым узроўні) тэма ўшанавання памяці ахвяр Сталіншчыны. Аб праекце Валянціна Занковіча на пэўны час забыліся.

Але нядаўна ідэя зноў была рэанімiравана. Быў нават праведзены конкурс, і ў лютым падведзены ягоныя вынікі. Аўтарытэтная камісія, у якую ўваходзілі вядомыя скульптары, архітэктары, супрацоўнікі Міністэрства культуры, прыйшла да высновы, што, "беручы да ўвагі канкрэтную сітуацыю па месцазнаходжанні аб'екта, трэба лічыць у прынцыпе непрымальнымі праектныя прапановы, накіраваныя на ўзвядзенне маштабных манументальных пабудоў, звязаных з раскопкамі і актыўнымі будаўнічымі работамі на тэрыторыі мемарыяльных могілак".

Былі названы прычыны, што прымусілі прыняць менавіта такое рашэнне. Па-першае, нельга парушаць Закон аб помніках гісторыі і культуры. Паколькі могілкі маюць статус помніка нацыянальнага значэння, усе работы на гэтай тэрыторыі магчымыя толькі са згоды органаў аховы гісторыка-культурнай спадчыны і толькі на падставе папярэдніх навукова-абгрунтаваных даследаў. А якраз такія даследы адсутнічаюць.

Па-другое, могілкі ўжо маюць актыўны кампазіцыйны акцэнт — царкву Аляксандра Неўскага (пабудавана ў 1890 годзе). Узвядзенне дадатковых, актыўных у горадабудаўнічым сэнсе манументальных комплексаў немэтазгодна.

Трэцяе, мы не маем маральнага права ладзіць на тэрыторыі могілак работы, звязаныя з перазахаваннямі і раскопкамі. Між тым, як аўтары прапанаваных на конкурс праектаў, зыходзячы з неабходнасці раскопак і перазахаванняў па іншай, чым зараз ёсць, схеме.

Ніводны з прапанаваных праектаў не можа быць прыняты да рэалізацыі. Таму ад прысуджэння прэмій адмовіліся. Мінскаму гарвыканкаму рэкамендавана наладзіць праектныя і рамонтныя работы, каб прывесці могілкі ў прыстойны выгляд і размясціць памятны знак "Абаронцу Айчыны", які б **тактоўна** ўваходзіў у структуру аб'екта.

Здаецца, пастаўлена кропка. Не будзем перайначваць тое, што склалася гістарычна, але **тактоўна** дапоўнім мемарыяльны комплекс сучасным памятным знакам. Рашэнне ўзважанае, карэктнае. Іншая справа, ці згодзяцца з ім аўтары адхіленых праектаў, і ці не будзе "сілавым рашэннем" інстанцыі, што стаіць над міністэрствам, усё ж такі пабудаваны на Даўгабродскіх могілках мемарыял накшталт "Брэсцкай крэпасці-героя"?

**П. В.**

***Як мы ўжо паведамлялі, у Мінску на факультэце міжнародных адносінаў БДУ не так даўно адбыўся "круглы стол" пад назваю "Беларуска-расійскія дачыненні: праблемы і перспектывы", у якім бралі ўдзел вядомыя беларускія і расійскія навукоўцы. Карэспандэнт "ЛіМа" пагутарыў з адным з удзельнікаў гэтага мерапрыемства — рускім пісьменнікам і аналітыкам Юрыем СУРАЎЦАВЫМ.***

**— Юрый Іванавіч! Якія, на вашу думку, у святле актыўных апошнім часам інтэграцыйных працэсаў існуюць праблемы ў беларуска-расійскіх культурных дачыненнях?**

...кія часы ўнутры Беларусі, ні тым больш у эміграцыі не было забытае. Сфармавалася пэўная традыцыя, якая выжыла пад спудам фасаднай савецкай уяўнай дзяржаўнасці і дасягнула да перабудовачных часоў, дзе і атрымала ўрэшце рэальнае ўвасабленне.

Дарэчы, "кадры" сённяшніх вашых нацыянальных адраджэнцаў выспявалі ў лоне тых "адлі жных" 60-х, калі ў дыскусіях аб сваім рэнесансе, што пачаліся ў савецкіх рэспубліках, стала паціху разбурацца ідэалагічная догма, якая дагэтуль моцна перашкаджала адраджэнскаму пафасу. Што, маўляў, не было ні ў кога раней, акрамя рускіх, сваёй уласнай дзяржаўнасці, і што сапраўдную дзяржаўнасць дала народам СССР толькі савецкая ўлада і камуністычная партыя.

**— А што, на вашу думку, было галоўным стымулам нацыянальнага адраджэн...**

...цэсу. Пасля развалу СССР такая аднолькавасць знікла. Постсавецкая прастора апынулася і ў культурным сэнсе гетэрагеннай.

Напрыклад, у Прыбалтыцы нацыянальна-адраджэнскі рух сваю справу ўжо зрабіў. Ён там паступова сыходзіць, бо свае задачы — палітычныя і этнакультурныя — выканаў. Цяперашнія задачы іншыя — грамадзянска-палітычная стабілізацыя, у тым ліку стабілізацыя этнічных стасункаў унутры гэтых краінаў, а таксама эканамічная, ваенна-палітычная стабілізацыя, уваходжанне ў еўрапейскія структуры, у тым ліку ў НАТА. Расія разглядаецца імі ў лепшым выпадку як партнёр, у горшым — як патэнцыяльная небяспека.

У краінах Цэнтральнай Азіі і Азербайджане досвед савецкага аўтарытарызму не адкінуты. Ён трансфармаваўся на традыцыйна патэрналісцкі, характэрны для ўсходніх цывілізацыяў лад. Дзяржава разумеецца там як сіла, што стаіць над грамадствам. Роля...

— Я перакананы, што адказваць на гэтыя пытанні сцвярджальна не трэба. І не толькі таму, што не хочацца. А па аб'ектыўных прычынах. Па-першае, як я ўжо адзначаў вышэй, цяпер у Беларусі зусім іншы палітычны кантэкст. Па-другое, я лічу, свой патэнцыял беларускае адраджэнне яшчэ не страціла. А, як гэта ні парадаксальна, за апошнія неспрыяльныя для сябе гады павялічыла. Прычым нацыянальны патэнцыял назапашваецца сёння найперш у новых пакаленнях і таксама ў раней не вельмі закранутых нацыянальнай ідэяю сацыякультурных пластах беларускага грамадства.

Мінусы сённяшніх уладаў у сферы эканомікі і грамадзянскіх правоў, прычым мінусы настолькі важкія, што ўлады Беларусі спадзяюцца на "внедрение" сваё ў Расію, як на выйсце з гэтых цяжкасцяў — вось гэта ўсё, на маю думку, будзе павялічваць адраджэнскі патэнцыял, а не змяншаць яго. І прычым, як гэта не выглядае парадаксальна, зусім не ў супрацьвагу прарасійскаму курсу беларускіх уладаў. Хутчэй, наадварот. Бо па вялікім рахунку гэтая "прарасійскасць" і культурна-духоўная звязка з Расіяй — увогуле надзённая неабходнасць для Беларусі пры любых варунках. Гэта важна практычна ва ўсіх аспектах існавання Беларусі і, на маю думку, ахоплівае не толькі колы, блізкія да прэзідэнта Лукашэнкі. Такога кшталту "прарасійскасць", якая будзе спрыяць умацаванню на Беларусі беларускага, узаеманеабходная як беларусам, так і рускім.

# Юрый СУРАЎЦАЎ: "Улады павінны зразумець неабходнасць захавання і развіцця нацыянальнай культуры!"

— У Дэкларацыі аб аб'яднанні Беларусі і Расіі ў саюзную дзяржаву, якая прынята ў канцы снежня 1998 года ў Маскве, справядліва адзначана супадзенне інтарэсаў у гуманітарнай галіне і непарыўнасць духоўнай і культурнай блізкасці нашых народаў. Але, нягледзячы на актыўныя інтэграцыйныя палітычныя працэсы паміж нашымі краінамі, мастацка-культурныя кантакты нашых народаў, узаемасувязі этнакультур не ўзмацніліся, а рэзка зменшыліся. Хаця яны, безумоўна, цалкам не перапыніліся. Згадаем той жа "Славянскі базар", які шчодра фінансуе ваш урад, а цяпер гэтае мерапрыемства будзе фінансавацца і з бюджэту Саюза Беларусі і Расіі (СБР). Нядаўна ў Маскву з гастролямі наведваўся ваш Рускі драматычны тэатр на чале з Барысам Луцэнкам. Ён меў там, дарэчы, нечуваны поспех і атрымаў цудоўныя водгукі маскоўскай прэсы. Рэзка зменшыліся, на жаль, пісьменніцкія, літаратурныя кантакты. Напрыклад, колькасць літаратурных узаемаперакладаў зменшылася на цэлы парадак. І ўвогуле ўсе факты сённяшняга нашага культурнага супрацоўніцтва — толькі крыхі ад таго, што было раней.

**— Якія найбольш значныя сёння праблемы беларускай і рускай нацыянальна зарыентаванай творчай інтэлігенцыі?**

— Сёння гэтых праблем шмат, але на першае месца я паставіў бы наступную: як дабіцца таго, каб нашыя ўлады ўвогуле змаглі зразумець эксклюзіўнасць нацыянальна арыентаванай культуры, яе незвычайную важнасць як для ўнутранай, так і знешнепалітычнай стабілізацыі. Гэта вельмі сур'ёзнае пытанне для дзвюх нашых краін у сённяшнім іх надзвычай складаным эканамічным і палітычным становішчы. Без нацыянальна зарыентаванай інтэлігенцыі не будзе ні трываласці, ні развіцця творчага патэнцыялу любой дзяржавы, не будзе міжнароднага прызнання і павагі, а значыць, не будзе і эфектыўнай знешняй палітыкі. Гэта павінна быць зразумелым любому чалавеку пры ўладзе, адказнаму за прагрэс сваёй краіны. Ну і, безумоўна, немагчымае стварэнне трывалай і сістэмнай беларуска-расійскай культурнай прасторы, што адзначана ў згаданай Дэкларацыі...

**— Дарэчы, а што залежыць ад самой творчай інтэлігенцыі ў справе стварэння такой прасторы?**

— Гэта цікавая тэма... Я глыбока перакананы, што ключавым паняццем для яе раскрыцця будзе паняцце нацыянальнага адраджэння, пад сцягам якога, дарэчы, і адбываліся ўсе перамены не толькі ў культурным, але і палітычным жыцці новаўтвораных на тэрыторыі былога СССР суверэнных дзяржаў. Пытанні беларускага нацыянальнага адраджэння і станаўлення беларускай дзяржаўнасці даволі блізкія мне, і я пісаў пра гэта ўжо не раз. І найперш я хацеў бы закрануць некаторыя гістарычныя аспекты.

Хваля беларускага нацыянальнага адраджэння, што пачалася на пачатку XX стагоддзя, прынамсі, да 1917 года, не ўключала ў сябе патрабаванне аб выхадзе Беларусі са складу Расіі і ўтварэнне незалежнай беларускай дзяржавы. Але вяршынныя палітычнае патрабаванне сваёй дзяржаўнасці ні ў савец...

**...ня ў рэспубліках СССР у канцы 80-х, пачатку 90-х гадоў?**

— Рэч у тым, што ўсе нацыянальныя адраджэнні на тэрыторыі СССР у многім асаблівыя, бо яны ўзніклі на адмысловай гістарычнай глебе вызвалення ад таталітарнай уяўнай інтэрнацыяналісцкай дзяржаўнасці. Сам тып гэтай дзяржаўнасці пасля вайны, што сапраўды згуртавала народы перад тварам агульнага ворага, чым далей тым больш сябе дыскрэдытоўваў. Якраз гэта і было галоўным стымулам нацыянальнага адраджэння 80—90-х гг. у СССР, у тым ліку і на Беларусі. Той стымул уключаў у сябе і матыў дэрусіфікацыі.

Бо, што б ні гаварылі пра русафобію сённяшніх расійскіх неаімперцы і як бы ні мелі рацыю тыя нацыянальна зарыентаваныя палітычныя і культурныя дзеячы былых рэспублік СССР, якія з вадою гатовыя выплюхнуць і дзіця, усведамлена атаясамляючы Расійскую імперыю, КПСС і рускі народ у цэлым (той жа Зянон Пазняк гэта не перастае паўтараць і сёння), русіфікацыя ў савецкія часы, безумоўна, існавала. А пачынаючы з канца 20-х яна праводзілася мэтанакіравана, не спыняючыся ні перад чым... Абвешчаная Сталіным формула новай савецкай культуры як сацыялістычнай, а ў першым варыянце — як пралетарскай па змесце, а нацыянальнай па форме, трактавалася як следаванне рускай культуры, бо найнагутны пралетарыят быў, па сутнасці, толькі ў Расіі. Потым гэтая формула не толькі ў цэнтры, а і ў кіраўніцтвах рэспублік зрабілася малапісьменнай з пункту гледжання эстэтыкі, бо разрывала сам змест. А галоўнае, яна выкарыстоўвалася як палітыка-ідэалагічная зброя для падаўлення нацыянальна-дэмакратычных элементаў культуры. Сацыялістычнасць на справе стала супрацьстаяць нацыянальнаму.

**— Нацыянальнае, паколькі яно было так ці інакш звязанае з ліберальна-дэмакратычным рухам, увогуле стала разглядацца як варожае сацыялістычнаму...**

— Так, тады нават з'явіўся пачварны тэрмін "нацдэмаўшчына", які вам, беларусам, вядомы болей за іншых. Даходзіла да таго, што Якубу Коласу, ужо класіку беларускай літаратуры, на першым з'ездзе пісьменнікаў СССР даводзілася апраўдвацца, што ён, аказваецца, быў раней дэмакратам і недаацэньваў значэнне пралетарыяту...

**— Нацыянальна-адраджэнскія рухі ў рэспубліках СССР, узнікшы на адным грунце і маючы пэўнае падабенства, відаць, мелі і нейкія адметнасці?**

— Нацыянальнае адраджэнне ў рэспубліках СССР перад яго развалам пачыналася і да пэўнага моманту развівалася аднолькава. Барацьба за дзяржаўнасць мовы тытульнага этнасу, потым за большую самастойнасць у выбары эканамічных і гаспадарчых перспектыў і г. д. Ад ідэі этнакультурнага характару справа рухалася да ідэй палітычнага характару і паступова да вяршыні гэтых ідэй — сваёй дзяржаўнасці. Безумоўна, з дамінаваннем правоў тытульнай нацыі, хаця і дэкларавалася на ААНаўскі лад раўнапраўе ўсіх астатніх. Гэта, праўда, Беларусі датычылася найменш. Элементы этнакратычнага характару ўнутрана супярэчылі дэмакратычнай сутнасці гэтага прагрэсіўнага пра...

...дзяржаўнай улады — як гаспадара эканамічнага жыцця і ўсёй грамадскай рэальнасці падкрэсліваецца асаблiва. А апраўдваецца спецыфічнасцю так званага ўсходняга менталітэту. Гэты менталітэт, на думку сённяшніх лідэраў гэтых рэспублік, патрабуе шляхоў руху да цывілізаваных нормаў настолькі памяркоўных, што наогул становяцца прывіднымі тэрміны дасягнення такіх нормаў. Дэмакратычныя рухі ў гэтых краінах не толькі слабыя, але яны яшчэ і ўсведамлена аслабляюцца аўтарытарнаю, а ў некаторых выпадках і дэспатычнаю ўладаю.

**— А еўрапейская Беларусь не становіцца, на ваш погляд, у гэты шэраг?**

— Так, сапраўды, самая блізкая саюзніца Расіі Беларусь у значнай ступені мае многія вышэйпералічаныя прыкметы. Але ў вас, безумоўна, ёсць і свая выразная спецыфіка. Найперш палітычны, эканамічны, а самае галоўнае, традыцыйна-культурны кантэкст, у якім развіваецца сёння Рэспубліка Беларусь.

Што да краін Цэнтральнай Азіі, то трэба яшчэ адзначыць, што нацыянальнае адраджэнне (а яно том таксама абвешчана) абапіраецца ў іх на культ вялікіх этнапродкаў. Напрыклад, ва Узбекістане плошчу Леніна ў Ташкенце перайменавалі ў плошчу Цімура...

**— А дзе ўсё ж такі ў гэтай шырокай палітры месца нацыянальным адраджэнням Беларусі і Расіі?**

— Гэта два асаблівыя выпадкі з усіх. Мара вялікіх нашаніўцаў, мара Вацлава Ластоўскага і Янкі Купалы ў 1919 годзе, што Беларусь можа існаваць як сапраўдная дзяржава, волю лёсу рэалізавалася на пачатку 90-х гадоў XX стагоддзя. Але праз некалькі год пасля набыцця незалежнасці, калі працэс дзяржаўнага будаўніцтва пачаў набіраць абароты, да улады прыйшлі палітычныя колы, якія (дарэчы, гэта адзіны выпадак сярод новаўтвораных на постсавецкай прасторы дзяржаваў) пачалі зверху, уразрэз са спадзяваннямі нацыянальна арыентаванай інтэлігенцыі, афіцыйна адпрэчваць лозунгі нацыянальнага адраджэння і ледзь што не падкрэслена наўмысна адраджаць савецкую спадчыну. Пры гэтым, безумоўна, актыўна разыгрывалася руская карта. Балазе, некаторыя лідэры новай хвалі беларускага нацыянальнага адраджэння давалі для гэтага падставы. Але хіба ж адраджэнцы, у прынцыпе, былі супраць беларуска-расійскіх узаемасувязяў?

Так, у нас сапраўды ёсць неразвітасць этнакультурнай самаідэнтыфікацыі значнай часткі насельніцтва. Усё гэта і складае тую, магчыма, і аб'ектыўную, аснову выпадку, калі ўлада, што сама сабою ўяўляе пад'ём нацыянальнага адраджэння, дасягнутай дзяржаўнай самастойнасці, як бы адмовілася ад гэтага лозунга і гэтых ідэй і пачала адкат.

**— Як вы лічыце, а ці не канчаткова пацярпела паразу беларускае адраджэнне? Ці не падобная гэтая сітуацыя на тую страшную, трагічную паразу, што пацярпела беларусізацыя ў канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў і аказалася такім чынам адкінутая далёка назад, прычым усур'ёз і надоўга?**

**— Але ж, скажам шчыра, яе празмерная "канцэнтрацыя" на самым версе паставіла сёння нашую суверэннасць на край бездані?**

— Мы часта драматызуем сітуацыю без вялікіх падстаў. Але нават калі і дапусціць, што будзе вырашана пытанне аб аб'яднанні Беларусі і Расіі ў адну дзяржаву, ці канфедэрацыю, намер пра што быў выказаны ў Дэкларацыі, то і тады справа беларускага адраджэння не знікне. Калі, паўтару, перспектыву беларускага нацыянальнага адраджэння будуць разумець, адчуваць і падтрымліваць у Расіі.

**— Што ж, дзякуй вялікі, супакоілі... А якую вы маеце на ўвазе Расію?**

— Я маю на ўвазе найперш дэмакратычную Расію. Бо я ўпэўнены, што нават моцна дыскрэдытаваная псеўдадэмакратычнымі ўладалюбцамі і алігархамі дэмакратыя ў Расіі не згіне. А самае галоўнае, падтрымку беларускаму нацыянальнаму адраджэнню павінна аказаць афіцыйная Расія.

**— Якія памылкі, на вашу думку, дапусціла нашае нацыянальнае адраджэнне новай хвалі, што моцна паўплывалі на сённяшні стан?**

— Я лічу, што вялікай памылкай беларускіх нацыянальна-адраджэнскіх колаў было тое, што яны далі разыграць рускую карту сваім палітычным апанентам. Тут яны, мне здаецца, моцна пралічыліся, бо беларусы першапачаткова не могуць быць антыруска і антырасійска настроеныя. Як, дарэчы, моцна праліч ыліся нашыя расійскія дэмакраты, што аддалі патрыятычны сцяг у рукі таму ж Зюганаву і камуністам. Гэта іх каласальны стратэгічны пралік.

**— Больш падрабязна раскажыце, калі ласка, аб праблемах рускага адраджэння, праблемы ўласна Расіі...**

— Што датычыць рускага нацыянальнага адраджэння, то сапраўдныя патрыёты Расіі сыходзяцца сёння на тым, што, нягледзячы на ўсе праблемы цяперашняга развіцця, Расія павінна адрадзіцца як вялікая дзяржава. Бо перадумовы для гэтага захаваліся, нягледзячы на сённяшні драматычны крызіс, тым болей на тое, што некаторыя (найперш добра вядомы Збігнеў Бжэзінскі) сёння ўжо лічаць яе за рэгіянальную дзяржаву трэцяга свету, хоць і валодаючую пакуль значным, але ўсё больш старэючым ядзерным арсеналам. Расія, я лічу, насуперак пану Бжэзінскаму, застанецца вялікай дзяржавай. Яна або не можа існаваць як вялікая дзяржава, або не можа існаваць як Расія!

**— А ўвогуле, што гэта такое, вялікая дзяржава? І пры якіх умовах Расія, якая на вачах усяго свету сёння разваліваецца, можа застацца вялікай дзяржавай?**

— Давайце прымем відавочнае. Вялікая дзяржава — гэта дзяржава, чыё палітычнае, эканамічнае, ваеннае і таксама культурнае ў шырокім сэнсе існаванне прызнаецца многімі ў свеце, як неабходнае і карыснае свету ў цэлым. Расія не разбурыцца як дзяржава ўвогуле і не перастане быць вялікай дзяржавай пры дзвюх умовах.

Першая. Калі яна пераадолее неаімперскія тэндэнцыі ўнутры і знешне, тэндэнцыі разумення сваёй вялікадзяржаўнасці як сінонімa сілы, што палохае свет.

Другая. Калі Расія пераадолее неразуменне, а то і раўнадушша ў дачыненні да іншых нацыянальных адраджэнняў у гуманістычным, ліберальна-дэмакратычным, а не

*(Працяг на стар. 12)*

## "Каб не пагасла зорачка надзей..."

**Паэзія жыве нават у наш цяжкі час. Калі проза жыцця бярэ верх над усім, яна становіцца і для аўтараў, і для чытачоў духоўнай аддушынай, што дапамагае выстаяць, лішні раз упэўніцца — прыгажосць калі і не ўратуе свет, дык, ва ўсякім разе, зробіць яго больш вабным. І яшчэ што важна: вершы ўсё часцей пішуць прадстаўнікі не "лірычных" прафесій. Пацвярджэнне — і творчы лёс аўтара гэтай**




**кнігі. Мікалай Віняцкі — не маладзён (13 сакавіка яму спаўняецца 60 гадоў). Нарадзіўся ў вёсцы Чыгірынка Кіраўскага раёна. Скончыў Мінскі палітэхнікум, стаў тапографам. Гэты арыенцір у далейшым вызначыў яго жыццё, якое М. Віняцкі прысвяціў тапографа-геадэзічнай і картаграфічнай дзейнасці. Нават Беларускі дзяржаўны універсітэт і аспірантуру пры Беларускім тэхналагічным інстытуце давялося заканчваць, як кажуць, без адрыву ад вытворчасці. Цяпер кандыдат тэхнічных навук М. Віняцкі з'яўляецца галоўным рэдактарам Беларускага картографа-геадэзічнага аб'яднання "Белгеадэзія". А паэзія — для душы. Вершы піша са школьных гадоў. Друкаваўся ў часопісах "Маладосць", "Акно", "Падарожнік", газетах "Чырвоная змена", "Добры вечар", у "Народнай газеце", "ЛіМе". Некалькі гадоў назад выйшла яго першая кніга паэзіі "Пад крылом лебядзіным..." Цяперашняя, пра якую гаворка, — другая. Як і першая, пабачыла свет дзякуючы падтрымцы многіх устаноў і арганізацый, а таксама асобных людзей (у першую чаргу М. Віняцкі выказвае ўдзячнасць "знакамітаму геадэзісту рэспублікі Аляксандру Пятровічу Пігіну, персанальная фінансавая падтрымка якога была самай важнай..."). А даў жыццё кнізе "Беларускі кнігазбор". Творам папярэднічае прадмова "Вугал судакранання з рэчаіснасцю", напісаная рэдактарам аддзела паэзіі часопіса "Маладосць", лаўрэатам Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа Віктарам Гардзеем. Вядомы паэт, разважаючы пра творчасць М. Віняцкага, згадвае і яго першы зборнік. Гаворачы пра тэматычную блізкасць ранейшых твораў і цяперашніх, В. Гардзей разам з тым адзначае: "Калі ад ранейшага вопыту Мікалая Віняцкага што і засталося, то гэта непадкупнасць пачуцця, незвычайная чуйнасць да чалавечага гора і пакут, яркае, метафарычнае бачанне свету". М. Віняцкі ў трывожным роздуме пра тое, што ёсць, было, але, бадай, у большай ступені іго непакоіць, што чакае чалавецтва наперадзе. Трывожны роздум не пакідае спадзявання на лепшае:**

*Каб не пагасла зорачка надзей,*
*Што свеціцца ў душы, мігіцць імгненнем, —*
*Ты ношу ўсклаў на плечы з тых імгненняў,*
*Што ад Святла, Любові, вартых дзей...*

*І не бяды, што з клопату часцей*
*Бянтэжыць вострыя розум тваё сумленне,*
*Як плоць і мозг прасякнуты сумленнем,*
*Якое з кожным днём усё чысцей.*

**Мікалай Віняцкі не проста піша вершы, а звяртаецца да найбольш складаных жанраў паэзіі. У прыватнасці, санета. У кніжцы змешчана і шэсць вянкоў санетаў, аб'яднаных назвай "Загойвай боль, сінь яснавокай зоркі...", якія лучыць той жа роздум аўтара аб заўтрашнім дні, але найперш Беларусі. Карыстаецца М. Віняцкі і такімі, як на сённяшні дзень, у нечым "экзатычнымі" жанрамі — квазітрыялет, раманс-трыяда, трыялет чатырохактовы, пра якія больш ведаюць тэарэтыкі літаратуры, чым самі паэты. Але авалодванне складанымі паэтычнымі жанрамі — не самамэта. М. Віняцкі напаўняе іх новым, сучасным зместам. Як, напрыклад, рубаі, у якіх асэнсоўвае біблейскія матывы:**

*Канае ў небыццё пакутны век дваццаты,*
*І блізіцца ўжо Божы Суд і час расплаты*
*За фарысейства, гнюсную ману, за здраду...*
*За ўсё адкажаце, прадажныя Пілаты!..*

**Лявон ЮРЧЫК**

# Ты лішні, ты вольны...

### ШТРЫХІ ДА ТВОРЧАГА ПАРТРЭТА ЛАЎРЭАТА ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ БЕЛАРУСІ *Уладзіміра* НЯКЛЯЕВА

## 1. Пралог ад аўгура

Калі праводзіць аналогіі з антычнасцю, паэта можна прыпадобніць натхнёнай піфіі — прарочыцы, што вяшчала, не ўсведамляючы сама сваіх прароцтваў, бо праз яе наўпрост гаварыла само бажаство.

У такім выпадку крытык няйнакш як аўгур, таксама прарок, але іншага кшталту — уважліва разглядаючы вантробы выпатрашаных жывёл-ахвяраў — галубоў ды баранчыкаў — аўгур рабіў прагноз накont волі нябёсаў па тым ці іншым пытанні. Кажуць, што падчас вынясення свайго вердыкту аўгуры пазбягалі глядзець адзін аднаму ў вочы — каб не зарагатаць і не сапсаваць эфекту ад прадказання.

Канешне, шкада вышэйзгаданых баранчыкаў ды галубоў, але цана ісціны заўсёды невымерна высокая. Мабыць, і пісьменніку шкада свайго твора, калі яго пачынае анатаміраваць руплівы літаратуразнаўца, расчляняючы на метафары і сюжэтныя лініі. Лягчэй перанесці агульны водгук, так бы мовіць, экстэр'ерны.

Але не можа наш брат крытык пераадолець у сабе пакліканне вівісектара. Каб не толькі "плоць" верша вывучыць да драбніцаў, але — і гэта самае цікавае — зразумець душу верша, яго псіхіку.

Што праўда, не кожны твор паддаецца такому даследаванню проста таму, што часам не мае душы, нагадвае сабою гамункулуса — штучна створаную істоту. Але калі маем справу з творамі, якім уласцівая складаная псіхалогія, як тут утрымацца ад аўгураўскіх высноваў-прароцтваў. Няхай не ўсе яны збудуцца. Але згодна тэорыі верагоднасці хоць часткова ды патрапяць у мішэнь пад назвай ісціна.

## 2. Снабачанні як жанр

У беларускай літаратуры імя паэта Уладзіміра Някляева стаіць неяк адасоблена. У яго творчасці і асобе спалучаюцца катэгорыі як бы і неспалучальныя. З аднаго боку, Уладзімір Някляеў, несумненна, паэт элітарны, "вышэйшай пробы", з другога боку, гэта не шкодзіць папулісцкаму боку яго творчасці, складанню тэкстаў папсовых песень, "вершаў-надзёнак"... З аднаго боку, Някляеў — паэт нібыта і "прыдворны", афіцыйны (прызнаўсі, ніяк не могуць дараваць яму ў культурніцкіх колах віртуозна выкананай паэмы пра БАМ). А з другога боку, захоўвае імідж незалежнага, крыху багемнага паэта, ад якога можна прычакаць любой нечаканкі.

Прычым пры ўсіх абвінавачваннях у вышэйзгаданай "папулісцкай дзейнасці" на самай справе паэта вызначае менавіта немітуслівасць, важкасць таго, што ён робіць — па колькасці выдадзеных кніг і атрыманых прэмій Някляева даўно абагналі іншыя паэты, нярэдка меншага маштабу. Да таго ж першы свой зборнік, "Адкрыццё" (1976 г.), паэт выдаў у досыць сталым, трыццацігадовым узросце. Затое кожная яго кніга робіцца сапраўды падзеяй.

Думаецца, паэт і таму ўспрымаецца неадназначна (і крытычныя матэрыялаў пра яго творчасць напісана куды менш, чым магло б быць напісана), што яго творчасць не паддаецца уніфікацыі. Можна, канешне, штучным чынам знайсці яму папярэднікаў сярод класікаў айчыннай літаратуры (хаця хутчэй — сярод літаратуры сусветнай), але сакрэт любога феномена перш за ўсё — у яго самадастатковасці за кошт бясконца складанай унутранай структуры, унутранага свету, адкуль бярэцца энергія для знешняга выяўлення.

Паэзія Уладзіміра Някляева вызначаецца псіхалагічнасцю, сюжэты вершаў і паэм нагадваюць снабачанні. Іх сімволіка з цяжкасцю паддаецца расшыфроўцы, калі не браць пад увагу менавіта псіхалагічны момант іх узнікнення. Менавіта асабісты міф — тая прастора, адкуль да паэта прыходзяць вобразы яго паэзіі, не заўсёды, можа быць, дакладна ўсвядомленыя і ім самім. Карл Густаў Юнг называе асабісты міф "неўсвядомленым сцэнарыем той п'есы, якую свядомасць разыгрывае пры актыўным удзеле архетыпаў калектыўнага неўсвядомленага". Асабісты міф ляжыць у аснове ўчынкаў чалавека. Ён выяўляецца ў яго снабачаннях і фантазіях наяве, правакуе нечаканыя для блізкіх учынкі. Сувязь з падсвядомым дае магутную энергію. Менавіта такой энергіяй прасякнутыя творы Уладзіміра Някляева — нават вышэйзгаданыя "надзёнкі". Эмацыянальная агрэсія, вышэйшае дасягненне мастацкага твора — здольнасць уводзіць чытача ў той эмацыйны стан, які закладзены ў творы, — безумоўна прысутнічае ў яго вершах. Такой здольнасцю валодаюць рэдкія, тыя, хто застаецца ў літаратуры. Бо гэтую здольнасць немагчыма выпрацаваць, набыць, зразумець.

## 3. Вада

Архетыпы калектыўнага неўсвядомленага вандруюць ад асабістых снабачанняў у фальклор, з народных казак — у мастацкія творы. Паэзія Уладзіміра Някляева прасякнутая імі. Падобная насычанасць архетыпавымі матывамі назіраецца хіба што ў рускага паэта Юрыя Кузняцова. Для разумення сімволікі асабістага міфа неабходна ведаць, што ён адлюстроўвае падзеі, якія адбываюцца ў межах псіхікі канкрэтнага індывідуума, тыя канфлікты, якія ўзнікаюць пры сутыкненні свядомага і несвядомага светлых і цёмных бакоў асобы чалавека, а сэнсам гэтай несупыннай, бязлітаснай барацьбы з'яўляецца імкненне асобы да гарманізацыі самое сябе, да разумення і прыняцця ўсіх сваіх якасцяў і ўласцівасцяў, перш за ўсё — індывідуацыя праз далучэнне да Неўсвядомленага. Архетыпавы сімвал Неўсвядомленага — вада: мора, возера, рака і г. д. Гэты вобраз прысутнічае практычна ва ўсіх значных творах Уладзіміра Някляева. Ужо ў першай кніжцы — "Адкрыццё" — *"Сны" /Азёрамі плешчуцца ля галавы, / Азёрамі белых і чорных дажджоў, /Азёрамі вады і крыві"* (Герніка"). Паэт, супрацьпастаўлены прафанійнаму свету, мроіць пра блакітных дэльфінаў (у дадзеным выпадку дэльфін асацыіруецца з рыбінай — сімвалам Самасці, індывідуалізаванай асобы). Прычым трансфармуючыся ва ўспрыманні паэта, з'явы прафанійнага (звыклага) свету набываюць уласцівасці таемнага свету Неўсвядомленага, калі машыны "плывуць праз дождж дэльфінамі" ("Дэльфінскае"). На трамвайным прыпынку, дзе паэт чакае спаткання з каханай жанчынай, *"астравы азёрныя маўчалі / І возера затойвала дыханне"*("Трэці трамвай"). Паэт атаясамляе вобраз возера, студні з адчуваннем унутранай свабоды, цэласнасці асобы ("Студня", "Зямля", "Просьба"). Асабліва выразнасць архетыпы набываюць у паэме "Маланка", якой аўтар даў падзагаловак "Аповесць пра каханне" ("Знак аховы", 1983 г.). Падзеі паэмы адбываюцца на беразе мора. З морам зліваецца каханне, вобраз жаноцкасці — Анімы, якую належыць гэтаксама інтэграваць у сябе, каб дабіцца гарманізацыі асобы. І мора ж тоіць у сабе змрок, бездань, якая паглынае каханне. Мора — стыхія, якую трэба разгадаць, улагодзіць, прынесці ёй ахвяру. Усе стыхіі, якія дзейнічаюць у паэме — зямлі (дух пячор), агню (Маланка, Пярун), паветра — віхура, вецер, — спалучаюцца ў стыхіі Мора-Неўсвядомленага. Герой паэмы "Маланка" не змог разгадаць таямніцу Неўсвядомленага, страціў магчымасць далучыцца да свету стыхійных духаў. Герой пазнейшай паэмы Уладзіміра Някляева — "Гарбун" ("Наскрозь", 1985 г.) — паспрабуе скарыстацца гэтай магчымасцю. На пачатку паэмы гарбун — сімвал неразвітой асобы (архетып гарба мае двайную трактоўку — пакаранне, знак прыналежнасці да Цэню (гарбаты вядзьмак Гогаля, ведзьмачкі Франсіска Гоі), і — складзеныя крылы, сімвал невыкарыстанага патэнцыялу (Карлік-Нос Гауфа). Герой паэмы "Гарбун" знаходзіць волю на беразе ракі, знаходзіць там першае каханне — прыдуркаватую дзяўчыну Ванду, сімвал неразвітой Анімы. У канцы паэмы герой, "распрастаны", які пазбавіўся гарба і аднача- сова жыццёвых ілюзій, перабягае па крыгах, як аўтар дае зразумець, шырокую, стыхійную раку і дасягае супрацьлеглага берага. У гэтым жа зборніку ў паэме "Наскрозь" аўтар атаясамляе паэзію з акіянам, з вадой у розных яе праявах, калі ад меры стыхійнасці, неўтаймаванасці залежыць мера таленту. У паэме "Прошча" ("Прошча", 1996 г.) сакральнае возера Прошча — займае цэнтральнае месца.

***На возеры тым, на блакітнай вадзе***
***Бялеюць лілеі.***
***Душа мая там, як на Боскім судзе,***
***Баліць і святлее.***

***Яе тое возера ў воды сваё***
***Празрыста ўлюбіла.***
***Да дна таго возера не дастае***
***Нячыстая сіла.***

***Святлее ў тым возеры храм на гары,***
***Званіцай высокай.***
***І спіць на званіцы званар да пары***
***Глыбока,***
***Глыбока.***

Возера-Неўсвядомленае хавае ў сабе магчымасць духоўнага ачышчэння, творчы патэнцыял, увасоблены ў вобразе Званара на затопленай званіцы. Спазнанне Неўсвядомленага дае магчымасць развіць ва ўсёй паўнаце свой талент, набыць голас — Звон. Асоба адчувае сваю непарыўную сувязь з возерам. Але адначасова прысутнічае ўсведамленне таго, што ў возеры хаваецца незразумелая хтанічная сіла, сіла хаосу. Інтэграцыя Неўсвядомленага, прынцце свайго Цэню — тых бакоў сваёй асобы, якія звычайна не ўспрымаюцца свядомасцю, падаўляюцца ёю, выклікае такія магутныя канфлікты ў псіхіцы, якія не кожная асоба здольная вытрымаць. Таму вада ў паэме ператвараецца ў кроў. У той момант, калі ахвярай Персоны, сацыяльна значнай асобы, якую ўвасабляе ў паэме Князь, робіцца красуня-Мілавіца, са дна возера "з крывавым усхліпам калода ўсплыла — і меч на калодзе". Стыхія, якая вырвалася з Неўсвядомленага, затапляе Храм і Званіцу, паглынае дух творчасці — Званара і цёмную Аніму — вядзьмарку Матруну. Персона-Князь не можа зліцца з Неўсвядомленым, у вобразе каршуна ён лётае над Прошчай.

## 4. Князь і вар'ят

У паэзіі Уладзіміра Някляева часта супастаўляюцца вобразы Персоны — увасаблення сацыяльнага поспеху, улады, эмацыянальнай закрытасці, — і асобы, сацыяльна зведзенай да гранічнай бездапаможнасці і безабароннасці, але адкрытай для эмоцый і душэўных канфліктаў і такім чынам у перспектыве маючай трансфармавацца ў асобу-Самасць, вышэйшую праяву духоўнай гармоніі.

Персона — гэта і Аўтаінспектар, які супрацьстаіць Паэту ў паэме "Размова з аўтаінспектарам", гэта і Пярун — Персона, даведзеная да абсалюту, якая супрацьстаіць закаханаму ў Маланку герою (паэма "Маланка"), гэта і Князь з паэмы "Прошча", які супрацьстаіць бязногаму Званару. У паэме "Гарбун", дзе вельмі празрыста паказаны шлях асобы да Самасці, Персона мае дваістую трактоўку. Гэта ўрач Галіна Львоўна, якая адначасова ўвасабляе вобраз станоўчай Анімы-жаноцкасці. Як і належыць Персоне ў снабачанні, яе вобраз схематычны, скульптурна застылы. Безумоўна, яна стаіць на высокіх ступенях сацыяльнай лесвіцы, дасягнула вышынь у развіцці свайго інтэлекту. Галіна Львоўна-Персона пазбаўляе Гарбуна таго, што ставіць яго па-за соцыумам, не дае рэалізавацца як асобе — гарба. Фізічны недахоп для герояў паэзіі Някляева часта з'яўляецца прычынай жыцця па-за соцыумам, жыцця духоўнага, на мяжы з падсвядомасцю. Званар вымушаны не сыходзіць са званіцы, таму што пазбаўлены ног. Вар'ятка Куліна (верш "Куліна" са зборніка "Знак аховы"), вар'ятка Матруна (з паэмы "Прошча"), вар'ят, які капае магілу неіснуючаму брату (верш "Вар'ят" з кнігі "Прошча") пастаўленыя лёсам па-за соцыумам, надзеленыя той воляй, якой прагне Паэт:

***Добра быць не бацькам і не сынам,***
***І ні дзядзькам, і ні братам быць.***
***Анікому нічарта не вінным,***
***Жыць у краме,***
***у аддзеле вінным,***
***Дзе ў чарзе — уся радня стаіць.***

*("Прошча")*

Але ўсе гэтыя героі непарыўна звязаны з Цэнем. Гарбун на пачатку аповеду не з'яўляецца ўвасабленнем дабра. Ён агрэсіўны, нават страшны, нібыта пазбаўлены ўзросту. Толькі паступова, праз уплыў на розных ступенях Анімы, Гарбун прыходзіць да індывідуацыі, ён набывае звычайнае, прынятае ў соцыуме імя, набывае рысы станоўчага характару. У паэме "Прошча" вар'ятка Матруна — цёмная Аніма — атручвае прыгажуню Мілавіцу, падбівае народ на бунт. Званар, персанаж амаль застрашлівы, палае звярынай нянавісцю да Князя, таксама падбухторвае на бунт — правакуе хаос. Вар'ят з аднайменнага верша капае магілу для брата. Прычым паэт заклікае:

***Не замінайце вар'яцець вар'яту.***
***Тым больш, што ён капае, а не вы.***

Паэт атаясамляе сябе не з Персонай, а з пазасоцыумнымі персанажамі, звязанымі з Цэнем, з Неўсвядомленым. Але ён не можа выйсці з-пад улады Персоны. Яе воб-

раз мае магічную ўладу над лірычным героем, не дае яму цалкам зліцца з Прошчай, з Маланкай, гарманізавацца з самім сабою. Гэты канфлікт, бадай, самы глабальны ў творчасці Уладзіміра Някляева.

## 5. Яна

У міфах існуе чатыры архетыпы жаноцкасці, чатыры Анімы: інстынктыўная Ева, спакуслая Алена, прасвятляючая нябёсным каханнем Марыя і, нарэшце, Сафія, нябёсная мудрасць. Толькі спазнаўшы сваю Аніму, асоба героя можа зрабіцца цэласнай. У паэзіі Уладзіміра Някляева прысутнічаюць усе праявы Анімы, як станоўчай, так і адмоўнай. Жаноцкасць успрымаецца паэтам як вялікая таямніца, як звяно сувязі з Неўсвядомленым. Жанчыны ў яго паэзіі пазбаўленыя канкрэтных рысаў, яны менавіта сімвалы, увасабленні жаноцкага пачатку. Маланка, таямнічая каханая героя з аднайменнай паэмы, напрамую атаясамляецца з прыроднай стыхіяй. Праз яе каханне герой мусіць стаць вечным, гэтаксама зліцца з прыродай. Але ён не здолеў інтэграваць у сябе хтанічную інстынктыўную сілу. Прага да інтэграцыі з Анімай выказана вельмі празрыста:

*І явай сон той быў ці не —*
*Яна ўвайшла ў мяне праз грудзі*
*І разарвалася ўва мне.*

У паэме "Гарбун" духоўны рост героя вызначаюць розныя стадыі кантакту з Анімай: інстынктыўнае каханне прыдуркаватай Ванды-Евы — першая стадыя кахання абуджае душу героя, дае першапачатковы штуршок яго шляху да самасці. Наступная ступень — сустрэча з праведніцай Таццянай, каханне ўсвядомленае, але ўсё яшчэ не адухоўленае, каханне-пакута да Прыўкраснай Алены. Гэтае пачуццё прыводзіць героя да кантакту з вышэйшай праявай жаноцкасці — урачом Галінай Львоўнай. Аніма-Сафія, мудрасць, пераўтварае героя, прымушаючы яго добраахвотна прайсці праз пакутлівую ініцыяцыю — эксперыментальную аперацыю і рэабілітацыйны працэс. Пасля героя, які пазбавіўся адмеціны Ценю — гарба, распрастаўся, даводзіцца перажыць боль адлучэння ад эратычнай Алены. Толькі ў гэтым выпадку ён мае права ісці далей. Герой прыняў дапамогу Анімы, але па-ранейшаму застаўся самотным. Аўтар дае зразумець, што герою належыць яшчэ прайсці доўгі шлях да індывідуацыі, а для гэтага, ён мусіць вярнуцца ў зыходную кропку — да радзімы, мацярынскага пачатку, і на новым узроўні, на новым вітку рушыць да індывідуацыі.

Лірычны герой паэзіі Уладзіміра Някляева сутыкаецца з рознымі ўвасабленнямі Анімы, але несумненна адно — ён адчувае вялікі ўплыў яе на сябе, адчувае яе ўладу і неразгаданасць, дваістасць. *"Можа, ЯНА не ТАЯ?"* — задаецца не маючым адказу пытаннем паэт ужо ў першым сваім зборніку (верш "Трэці трамвай"). Жанчына ведае сапраўдную сутнасць асобы і падзеі, яна заўсёды вядзьмарка. У гэтым сэнсе паказальны верш са зборніка "Прошча" "Пакінуўшы свята на свяце...": герой выходзіць са святочнай хаты і глядзіць праз вакно на сваіх родных і гасцей (зноў сімвал прагі пазасоцыумнага становішча)

*І толькі жанчына адна*
*Адчула мой позірк сірочы,*
*Заўважыла цень у акне*
*І глянула так на мяне,*
*Так вочы ўтаропіла ў вочы,*
*Нібыта яна распазнала*
*Ці вылюдка, ці ведзьмака —*
*І ў жаху застыла рука,*
*Якой на мяне паказала.*

Падобным чынам Неўсвядомленае нярэдка прадстаўляе нам у снабачаннях вобраз Маці, перад якой дзіця адчувае заўсёдную віну, якая ведае ўсё пра сваё дзіця і мае ўладу караць яго. Тэма віны ўвесьчасна сустракаецца ў вершах паэта. Віны пракаветнай, затоенай, але нясцерпна балючай — гэта віна перад Вялікай Маці, часам персаніфікаванай у вобразах бабулі, маці, каханай, жонкі, дачкі, але часцей прадстаўленай вобразам жанчыны ўвогуле, Анімы.

*Не дазволь пайсці мне... Затрымай...*
*Рукі на грудзях скрыжуй стамлёна...*
*Хай сабе не варты я праклёну —*
*Праклінай.*
*Праклінай, галосячы пра страты,*
*Адзіноту, здраду і тугу.*
*Не магу я*
*Быць*
*Не вінаватым!*
*Чуеш, не магу!*

У паэме "Індыя" Аніма мае імя Марыя, згодна архетыпу гэта адначасова Маці і Дзева. Яна мае дзве сутнасці: нябёсную і зямную. Марыя ахвяруе нябёснай сутнасцю дзеля зямнога кахання да Паэта і гіне. (*За ёй падняўшыся ўгару — Адзін спускайся ўніз з гары я*). Герой не прайшоў прапанаваны Анімай-Марыяй шлях да індывідуацыі. Як і з Маланкай, ён расстаецца з Марыяй, атрымаўшы ў вечную спадчыну пачуццё віны і пустэчу няздзейсненых надзей.

Амбівалентнай з'яўляецца і Аніма паэмы Прошча. Паколькі Аніма — гэта не проста жаноцкасць, гэта сама Душа, самое Жыццё, яна сама па сабе не дабро і не зло, утрымлівае і боскі, і дэманічны пачатак. І ўсё, што звязана з ёю, — магічна. У паэме дзве гераіні — прыгажуня Мілавіца, светлая Аніма, і вар'ятка Матруна, цёмная Аніма. Мілавіца — дачка каваля. Каваль у сусветнай міфалогіі — гэта архетып Духа агню. Гэтак жа і гераіня паэмы "Маланка" была дачкой Перуна, дачкой Агню. Светлую Аніму знішчае ўвасабленне Персоны, Князь. Матруна звязаная са стыхіяй вады, возерам Прошча. Яна дапамагае знішчаць светлую Аніму-Мілавіцу. І яна ж з'яўляецца натхняльніцай помсты за смерць Мілавіцы. Таму што цёмная і светлая Аніма па сутнасці сваёй — адно цэлае. Званар, персаніфікацыя асобы Паэта, зліваецца з цёмнай Анімай, якая дае яму замест вады напіцца крыві. Але інтэграцыя адбываецца на неўсвядомленым, стыхійным узроўні. Званар і Матруна спяць на затопленай званіцы. Звон маўчыць, і гэта сведчанне таго, што індывідуацыя асобы не адбылася.

## 6. Архетып Духа

У міфалогіі архетып Духа мае шмат увасабленняў: стары чалавек, мудрэц, настаўнік, чароўная жывёла ці нават прадмет, населены духам. Дух дае герою парады, дапамагае яму, альбо шкодзіць, помсціць. Прысутнічае гэты архетып і ў паэзіі Уладзіміра Някляева. Прычым ён зліваецца з вобразам Бацькі, і мае прыроду неспазнавальную і пагрозную. Калі вобраз Маці выклікае ў героя пачуццё віны, то вобраз Бацькі — жаданне супрацьстаяць яму. Хаця гэтае супрацьстаянне, як правіла, безвыніковае. Пярун усё роўна не здымае таемнага праклёну — забірае сваю дачку Маланку. Бацька прыдуркаватай Ванды, інстынктыўнай Анімы, першага кахання Гарбуна, забівае яе. Свамі, настаўнік-гуру з індыйскага храма — вобраз, здавалася б, станоўчы — тым не менш, выступае як няўмольны суддзя і не адказвае герою на глабальныя пытанні, адпрэчвае яго ад нябёснай дарогі. Дае яму з сабой толькі прыгаршчу попелу ад спаленай Марыі-Анімы, як матэрыяльнае ўвасабленне віны героя. Цікавы прыклад персаніфікацыі Духа ў прадмеце дае верш са зборніка "Адкрыццё" "Трэці трамвай", дзе ў ролі дарадчыка і суддзі выступае менавіта трамвай, вызначальнік лёсу героя, той, што прывозіць Аніму і забірае яе. Часам жа Дух выступае ў вобразе Голасу, які задае герою пытанні, зноў жа — абвінавачвае яго. У гэтым плане характэрная паэма "Саракавіны", дзе Дух — пражыты паэтам саракавы год.

*— Ты хто? — спытаўся я ў Саракавога.*
*— Я проста Голас, — ён сказаў.*
*— Фантом.*

Нярэдка паэт называе архетып Духа Богам — з маленькай ці вялікай літары ("Землятрус", "Зона" са зборніка "Прошча"). Паэт вядзе з ім несупынны дыялог-спрэчку, спрабуе апраўдацца ў неназыванай, неканкрэтызаванай віне, але ад пачатку ведае, што апраўдацца не ўдасца. Прызнаннем сваёй віны заканчваецца амаль кожны спароджаны асабістым міфам твор паэта. Волю ад гэтай віны паэт бачыць у абстрагаванні як ад Персоны, так і ад Неўсвядомленага, ад уплыву Анімы, ад парадаў Духа. Быць самадастатковым у той сваёй прыроднай сутнасці, якую ўвасабляе:

*Калі ты званар ці калі ты паэт,*
*Жыві на званіцы.*

*Няхай на зямлі хоць патоп, хоць пажар,*
*Хоць ліха ды войны.*
*Калі ты паэт ці калі ты званар,*
*Ты лішні, ты вольны.*

*Няма ў цябе тут ні сяброў, ні радні,*
*Няма і не трэба.*
*Усё тваё там, дзе сляпыя агні*
*Халоднага неба.*

Сыход героя з дому, ацаляльнае аддаленне ад звыклага свету з'яўляецца адным з чатырох архетыпавых сюжэтаў сусветнай міфалогіі (і літаратуры адпаведна). Але ацаляльнасць гэтага сыходу ілюзорная. Канфлікт, які разыгрываецца ў псіхіцы асобы аўтара, спароджаны менавіта прагай гэтай ілюзорнай волі і патрабаваннем падсвядомасці выпрацавацца ў цэласную асобу — пазбавіцца ўплыву Персоны, віны-боязі перад Анімай, антаганістычнай боязі Духа і да т. п. Але, прынамсі, паэт не баіцца "зазіраць у вочы сваім хімерам" і вядзе дыялог са Стыхіяй Неўсвядомленага, дыялог, які не кожнаму па сіле.

## 7. Пасляслоўе ад крытыка

Наколькі вядома, ніводзін са стваральнікаў знакамітых псіхалагічных школаў не дасягаў у межах свае ўласнае асобы поўнай гармоніі. Нават наадварот. Чым больш раздзіралі яго ўнутраныя канфлікты, тым больш пераканаўчыя рэцэпты для іх пераадолення ён прыдумляў.

Думаецца, гэта дзейсна і для літаратуры.

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

ВІНШУЕМ!

# Дарогі і песні

## Аляксею СЛЕСАРЭНКУ — 80

Яшчэ не так даўно часцяком на сцэну выходзіў сярэдняга росту чалавек, вытрымліваў належную паўзу, пасля чаго з яго вуснаў ліліся пранікнёныя радкі:

***Глядзіць у вокны зімні вечар.***
***Кладзецца мрок на цесны двор.***
***Мароз-мастак рукой старэчай***
***На шыбах піша свой узор...***

Гэта пачатак паэмы Якуба Коласа "Рыбакова хата". Слухачы жылі ў чароўным харастве паэзіі, адчувалі найтанчэйшыя нюансы беларускага слова, не зводзілі ўдумлівых і шчаслівых вачэй з чытальніка, а калі літаратурны канцэрт заканчваўся, доўга апладзіравалі артысту...

Заслужаны дзеяч культуры Беларусі Аляксей Слесарэнка выконваў не толькі цэлыя кампазіцыі на два аддзяленні па паэмах Якуба Коласа "Рыбакова хата" і "Сымон-музыка". Найчасцей ён выступаў з так званай зборнай праграмай і знаёміў слухачоў з многімі творамі Аляксандра Пушкіна, Адама Міцкевіча, Міхаіла Шолахава, Аляксандра Твардоўскага, Францішка Багушэвіча, Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кандрата Крапівы, Аркадзя Куляшова, Петруся Броўкі, Максіма Танка, Максіма Лужаніна, Кузьмы Чорнага, Івана Шамякіна, Аляксея Пысіна, Рыгора Барадуліна, Сымона Блатуна і многіх іншых майстроў мастацкага слова.

З чытаннем іх твораў аб'ездзіў амаль усю Беларусь.

Ды не толькі ў нашай краіне добра ведаюць Аляксея Аляксеевіча, а на Украіне, у Малдове, Латвіі, Маскве... І дзе б ён ні выступаў, з кім бы ні сустракаўся, яму заўсёды спадарожнічаў поспех. Вось, напрыклад, што пісалі ў 1955 годзе ў Саюз пісьменнікаў Беларусі работнікі Усерасійскага тэатральнага таварыства, праслухаўшы кампазіцыю па "Рыбаковай хаце": "Выкананне цудоўнай беларускай паэмы маладым беларускім чытальнікам зрабіла вельмі прыемнае ўражанне на маскоўскіх спецыялістаў мастацкага слова. Прастата, шчырасць, цеплыня і прывабнасць выканання разам са сціпласцю і адсутнічаннем наўмысных прыёмаў выклікалі прыхільнасць аўдыторыі да артыста Аляксея Слесарэнкі і зрабілі цалкам даходлівым і зразумелым беларускі тэкст для большасці слухачоў, а мяккае вымаўленне і несумненная музычнасць выканаўцы ўзмацнілі нацыянальную прыгажосць цудоўнага арыгінала".

Нарадзіўся Аляксей Слесарэнка 7 сакавіка 1919 года ў Кіеве. У 1924 годзе яго бацькі вярнуліся на Беларусь. А неўзабаве яго, вучня Брагінскай сярэдняй школы, запрасіла кінафабрыка Белдзяржкіно ў Ленінградзе здымацца ў ролі Мірона ў фільме "Палескія рабінзоны", пасля чаго А. Слесарэнка быў накіраваны на вучобу ў Маскву ў кінаакцёрскую студыю, здымаўся ў вядомых фільмах "Бежын луг", "Вясёлыя хлопцы"...

У час Вялікай Айчыннай вайны А. Слесарэнка быў на фронце, камандаваў стралковым узводам, ад Вялікіх Лук дайшоў да Берліна. Пасля дэмабілізацыі ў 1953 годзе выступаў як чытальнік Беларускай дзяржаўнай філармоніі, у 1954—1956 гадах працаваў дырэктарам Бюро прапаганды мастацкай літаратуры пры Саюзе пісьменнікаў Беларусі. Тры гады вучыўся на завочных курсах мастацкага чытання пры Усесаюзным доме народнай творчасці, выступаў як чытальнік і адначасова ў 1962—1974 гадах быў навуковым супрацоўнікам Літаратурнага музея Якуба Коласа.

Мастацкае слова ён палюбіў з дзіцячых гадоў, а шлях да сапраўднага майстэрства прайшоў доўгі і складаны. Ён шмат вучыўся ў жыцця, людзей, кніг. Выкладчык беларускай мовы і літаратуры Брагінскай сярэдняй школы Лукаш Дуброўскі, маладыя кінарэжысёры з "Белдзяржкіно" Іосіф Бахар і Павел Малчанаў, сусветна вядомыя кінарэжысёры Аляксандр Даўжэнка і Сяргей Эйзенштэйн, буйнейшы тэарэтык і практык мастацкага чытання, прафесар, заслужаны артыст РСФСР Васіль Сярожнікаў, народны паэт Беларусі Якуб Колас — кожны з іх па-свойму прывучалі А. Слесарэнку шчыра любіць, высока цаніць, глыбока разумець сапраўднае мастацтва. Менавіта Якуб Колас, упершыню сустрэўшыся ў 1950 годзе са Слесарэнкам, у той час афіцэрам, па-бацькоўску раіў заўсёды быць простым, шчырым перад народам: "На якую б вышыню ні ўзнесла вас хваля прызнання, не губляйце прастаты, сумленнасці і шчырасці перад народам. Памятайце, непасрэднасць — глеба творчасці. Людзі заўсёды адчуваюць, ці па-сапраўднаму любіць іх мастак, ці толькі стараецца паказаць выгляд".

У кнізе "Дарогі і песні" А. Слесарэнка расказвае аб уражаннях ад сваіх спатканняў з рознымі людзьмі ў час выступленняў. Вядомы чытачам і такія кнігі, як "Дарагія аблічы" і "Жыццё ў мастацтве" (першая выдавалася і на ўкраінскай мове, а другая — па-руску), якія былі высока ацэнены крытыкай і грамадскасцю не толькі нашай рэспублікі, але і па-за яе межамі.

Абедзве яны напісаны на багатым фактычным матэрыяле. У іх добра суседнічаюць архіўныя звесткі і асабістыя назіранні аўтара. Перад чытачом паўстаюць ва ўсёй шматграннасці іх таленту знакамітыя акцёры, рэжысёры, аператары, майстры мастацкага слова. Сярод іх Якуб Колас, Аляксандр Даўжэнка, Сяргей Эйзенштэйн, кінааператар Эдуард Цісэ, майстры сцэны Павел Малчанаў і Мікалай Ворвулеў, выдатны кінаакцёр, наш зямляк Пётр Алейнікаў, буйнейшы тэарэтык і практык мастацкага чытання Васіль Сярожнікаў. І пра кожнага з іх А. Слесарэнка расказвае цікава і займальна, знаёмячы чытачоў з іх творчай лабараторыяй.

Скончыць хочацца гумарыстычнымі радкамі І. Курбекі, які калісьці гэтак сказаў пра юбіляра:

***Пісьменнік.***
***Артыст.***
***Філосаф.***
***Смелы прамоўца.***
***Аматар і носьбіт***
***Дасціпнага слоўца.***
***Не машэннік.***
***Немашыннік.***
***Не дачнік.***
***Часам —***
***Нядачнік.***

***Як ні лічы,***
***Ні бяры —***
***Любяць цябе***
***Сябры!***
***Паслухай:***
***Смела і ўмела***
***Ты, Аляксей,***
***Па-ранейшаму***
***Праўду***
***У народзе***
***Сей!***



**Мікола БАЗАРЭВІЧ**

•

*Спасціг вялікіх, і шматлікіх,*
*Любіў бясконца, што рабіў,*
*Ерэтыкам бываў вялікім,*
*Сябе-чытальніка здабыў.*
*Ажыццявіўся й іншым чынам:*
*Раскрыўся ў прозе, як акцёр,*
*Эстэт і эрудыт айчынны:*
*Не знойдзецца другіх, магчыма,*
*Каго б так музы прыручылі,*
*А ён і сёння ваганцёр...*

**Валерый СТРАЛКО,**
**Валерый КУХАРАЎ**



**ЧАСАПІС**

# “Обращение к сердцу”

**Так назваў сваю чарговую кнігу паэзіі Станіслаў Валодзька, імя якога, канечне ж, аматарам паэзіі вядомае. Родам ён з Астравеччыны, вершы пачаў пісаць у школьным узросце. У 1974 годзе з’явіліся першыя публікацыі С. Валодзькі ў раёнцы “Астравецкая праўда”. У 1983 годзе, калі выдавецтва “Мастацкая літаратура” выпусціла калектыўны зборнік “Сцяжына”, знайшлося ў ім месца і “першай кніжцы” С. Валодзькі “На хвалях хвалявання”. Часта можна было сустрэць імя паэта і ў рэспубліканскай перыёдыцы: часопісах “Беларусь”, “Маладосць”, “Крыніца”, “Вясёлка”, “Бярозка”, “Пралеска”, у штотыднёвіку “Літаратура і мастацтва”. Першая**




**“сапраўдная” кніга С. Валодзькі з’явілася ў 1996 годзе ў “Бібліятэцы часопіса “Маладосць”. “У вачах Айчыны” — гэтую назву можна ўспрымаць у пэўнай ступені і як традыцыйную. Тым не менш у дачыненні да С. Валодзькі яна набыла куды больш глыбокі сэнс, бо паэт пераехаў на сталае жыхарства ў Латвію, дзе жыве па сённяшні дзень. А ў сэрцы засталася не толькі памяць аб родных мясцінах, у сэрцы па-ранейшаму жыве жаданне апяваць край маленства, пісаць пра яго людзей, “перагортваць” старонкі нацыянальнай даўніны. І пастаянна жыць “у чаканні Айчыны”. Аднак адарванасць ад Беларусі для С. Валодзькі — паняцце хутчэй за ўсё адлегласнае. І ў Латвіі ён адчувае сябе беларусам, знаходзіць шмат аднадумцаў па духу. І па-ранейшаму піша вершы на роднай мове. А кніга С. Валодзькі, пра якую ідзе гаворка, — перакладная. Дарэчы, С. Валодзька не першы раз выходзіць на сустрэчу з рускамоўным чытачом. У Латвіі яго творы вядомыя па публікацыях у газетах “Латгалес Лайкс”, “Динабург”, “Миллион”, “СМ”, “Панорама Латвии”. А ў 1995 годзе даўгаўпілскае выдавецтва “Латгалесрэклама” выпусціла калектыўны зборнік вершаў для дзяцей “Бусинки”, адным з аўтараў якога быў і С. Валодзька. Ён сам пераклаў свае вершы для маленькіх. Выступае ён і адным з перакладчыкаў кнігі “Обращение к сердцу”, якая таксама пабачыла свет у Даўгаўпілсе. Дала ёй жыццё друкарня “АВ”, атрымаўшы фінансавую падтрымку ад некалькіх калектываў і арганізацый. Творы С. Валодзькі пераўвасобілі па-руску даўгаўпілскі паэт Аляксей Салаўёў, пецярбургскія паэты Дзмітрый Мазгулін і Алег Казакоў, а таксама Навум Цыпіс і Барыс Крывялевіч з Мінска, Тамаш Лаўрыновіч з Гродзеншчыны. Адкрываецца ж кніга факсіміле аднаго з вершаў С. Валодзькі ў аўтарскім перакладзе:**

*Порою видите меня*
*Идущим голову склоня.*
*Взгляд опуская на траву,*
*Под ветер памяти*
*Живу, —*
*Ни перад кем-то шею гну, —*
*Свой крест несу,*
*Свой воз тяну.*
*И этим самым*
*Мой поклон —*
*Кого люблю я испокон...*

**Прадмову “Старатель счастья” напісаў Эдуард Мекш — доктар філасофіі, які з’яўляецца і рэдактарам зборніка. На яго думку, кніга С. Валодзькі — “кніга роздуму” аб пачатку жыцця і культуры, гістарычных супярэчнасцях і сучасных канфліктах і лёсах людзей, якія не вызначылі сваю жыццёвую пазіцыю”.**

**Лявон ЮРЧЫК**

## ПАЭЗІЯ

### Паўлюк ПРАНУЗА



#### На ўскрайку старасці

*Ён перажыў баі, бамбёжку*
*І нават зведаў Калыму,*
*На ўскрайку старасці падножку*
*Жыццё падставіла яму.*

*Далі адчуць сябе раненні,*
*І стома пройдзеных дарог.*
*Яго трымае, як збавенне,*
*Адно: зрабіў усё, што мог.*

*Райцэнтр. Бальнічная палата.*
*Пакутліва мінаюць дні.*
*Жыццё! Ты пашкадуй салдата,*
*Да ўнукаў, да сыноў вярні.*

●

*На Палессі дымяцца балоты,*
*Рассцілае агонь свой абрус.*
*Атруцілі мы землі і воды,*
*Стала чорнаю ты, Беларусь.*

*Чым жа дыхаць у Салігорску?*
*Ветка, Добруш — як прывід начы.*
*Сіраценюць сумотныя вёскі.*
*Чым ім можна дапамагчы?*

#### Мая зямля

*Ты — светлая,*
*Зялёная,*
*Лясная і*
*Азёрная.*
*Балюча:*
*Ад Чарнобыля*
*Ты хворая*
*і чорная.*

●

*Маладосць несла цяжкую ношу,*
*Не люляў мяне ў радасці лёс.*
*Праз паходы, нягоды, парошу*
*Свой салдацкі я гонар пранёс.*

*Мала зведаў спачынку, прывалаў,*
*Дні і ночы ў зацятых баях...*
*Беларусь! Ты мне сілы давала,*
*Асвятляла цярністы мой шлях.*

#### Пагроза

*Узыходзіць спакойнае сонца.*
*Пах мядовы. Чаромхавы пах.*
*Невідочны лютуе стронцый*
*На лугах, на палях, у садах.*

#### Былыя жывуць партызаны...

*Палеткі не ўсе узараны,*
*Пустуюць зямліцы шматкі,*
*Былыя жывуць партызаны,*
*Ссівелыя франтавікі.*

*А дзе іх унукі і дзеці,*
*Які яны выбралі шлях?*
*Перабудовачны вецер*
*Разнёс іх па гарадах.*

*Зямля — іх былая матуля —*
*Сумотна шуміць бур’янам.*
*Хто ж яе к сэрцу прытуліць,*
*Сагрэе любоўю, цяплом?*

### Міхась ПЯНКРАТ



#### Чэрвеньшчыне

*Ці над рэчкай туман, ці раса над лугамі, —*
*Заўсёды хвалююся я.*
*Да мяне ты прыходзіш блакітнымі снамі,*
*Чэрвеньшчына мая.*

*Колькі сцежак-дарог у жыцці перамераў, —*
*Дзе бегам, а дзе спакваля.*
*І заўсёды ў цябе, дарагая, я верыў,*
*Чэрвеньшчына мая.*

*Часам цяжка было,*
*часам слёзы — палынам.*
*Дзе ж вы, сябры, дзе ж ты сям’я?*
*Ты гукала мяне, як сына,*
*Чэрвеньшчына мая.*

*І якія б мяне ні сустрэлі нягоды,*
*Клянуся, любімая, я*
*Да цябе вярнуся і ужо назаўсёды,*
*Чэрвеньшчына мая...*

#### Я сказаў і ты сказала...

*Я аднойчы летняй цішынёю*
*Гаварыў з табой, а ты — са мною.*
*Я сказаў: “Лугі, лясы і поле —*
*Падарую ўсё табе раздолле!..”*
*Ты сказала: “Любы, не прымаю, —*
*Ты мне дорыш тое, што я маю...”*

*Я аднойчы восенню адною*
*Гаварыў з табой, а ты — са мною.*
*Я сказаў: “Вось з гэтае травінкі*
*Падарую я табе расінку!..”*
*Ты сказала: “А навошта гэта?*
*Яна ж сонцам, любы, не сагрэта...”*

*Я аднойчы белаю зімою*
*Гаварыў з табой, а ты — са мною.*
*Я сказаў: “Каханая дзяўчынка,*
*Падарую я табе сняжынку!..”*
*Ты сказала: “Дык яна ж растае!*
*Для чаго ж тады сняжынка тая?..”*

*Я аднойчы спеўнаю вясною*
*Гаварыў з табой, а ты — са мною...*
*Ты сказала: “Мой харошы, любы,*
*Падаруй мне кветачку да шлюбу...”*

*Вось і ўсё. Так многа і так мала!*
*Я сказаў і ты сказала...*

#### Сабачая статыстыка

*Усё ў нас знікае,*
*губляецца,*
*гіне,*
*Усё ў нас не гэтак,*
*усё ў нас не так:*
*Змяншаецца колькасць дзяцей у краіне,*
*Затое расце пагалоўе сабак...*

#### Не спяшайце, сябры...

*О, юбілеі — святы вялікія,*
*Калі старасць юнацтва клікае,*
*Калі госці ў танцах кружацца,*
*А табе, юбіляр, ўсё нядужыцца.*
*Усё нядужыцца і няможацца,*
*А хваробы растуць і множацца.*
*Каму слёзна, а каму весела...*
*Вось чаму галаву павесіў я.*
*Сябры мае і “сябры”-прытворшчыкі*
*Хвалу мне пяюць, як нябожчыку.*
*Не гадаў жа ніколі, не думаў я,*
*Што жыццё пражыву амаль геніем.*
*Ну навошта ж хвала, панегірыкі?*
*Гумарысты старэюць і лірыкі,*
*А да гурту, браткі, і сатырыкі...*

*Дзень на дзень жыву спадзяваннем,*
*Не спяшайце, сябры, з адпяваннем...*

### Аркадзь НАФРАНОВІЧ



#### Каб жыць з душой у згодзе

●

*І збірала пустое ў пустым...*
У. НЯКЛЯЕЎ

*Што за карысць з пустога у пустым —*
*Аб пустаце пустая і турбота:*
*Хіба там зазвініць якая нота,*
*Над комінам хіснецца ранні дым?*

*Мо там запахне мятаю пакос,*
*Ці запяе салоўка гімн чаромсе?*
*І да чаго там думкай узнясёмся,*
*Калі ні зор, ні сонца, ні нябёс?*

*Збіраць пустое ды ячэй у пустым —*
*У Бога дзён і так для нас нягуста.*
*Жыццё само — бы у чарзе стаім*
*Да касы, у якой заўсёды пуста.*

●

*Усё ляцяць кудысьці дні*
*Праз дождж і снег, праз сонца промні.*
*На кожнай новай вышыні*
*Лепш супыніцца і прыпомніць,*

*Якія пройдзены шляхі,*
*Узважыць каб затым пры людзях*
*Сваю і славу, і грахі*
*На чуйных шалях правасуддзя.*

*Для душ няўрымслівых спакой*
*Заўчасная смерці раўназначны.*
*Работай шчыраю, жывой*
*Жыццё да лепшага іначыць.*

*Сіл свежых пачарпнуць з крыніц.*
*У спадарожнікі ўзяць вецер,*
*І ачышчаць сябе ад смецця*
*Агнём маланак-бліскавіц.*

●

*Драбнее зерне дабраты,*
*І кволыя яе усходы*
*Ідуць у колас не заўсёды.*
*Дый той часцей за ўсё пусты.*

*Затое зло ў зямлю кругом*
*Ідзе галінністым карэннем.*
*І сеецца яго насенне,*
*Каб свет напоўніць новым злом.*

●

*Святло і змрок — паперамена верх*
*Бяруць яны у барацьбе адвечнай.*
*...У снах над намі кружыць мілы стэрх,*
*Наяве ж —*
*з груганнём праклятым стрэчы.*

*Цяжар зямных пакут, ружовасць мар,*
*Жыццё часцей нам — пеклам,*
*зрэдку — раем.*
*Рассейваюць вятры завесу хмар —*
*І сонца душы ласкай атуляе.*

*І мы, спазнаўшы безліч розных страт,*
*Адолеўшы нялёгкія дарогі,*
*Скіроўваем за гарызонт пагляд,*
*Дзе нас чакаюць новыя трывогі.*

●

Ігару ПРАКАПОВІЧУ

*Паэт пабудаваў уласны дом*
*Не абы-дзе, а ля сваіх вытокаў.*
*Бярозы залілі яго святлом,*
*Глядзіць у вокны сонца добрым вокам.*

*Струменяць сцены непаўторны пах*
*Гаючай, як бальзам, смалы-жывіцы.*
*Сябры не раз тут будуць у гасцях —*
*І вершамі напоўніцца святліца.*

*Над комінам слуп дыму да нябёс.*
*“К пагодзе яснай”, —*
*кажуць у народзе.*
*Паэт да родных берагоў прырос —*
*І жыць яму з душой сваёй у згодзе.*

*Спазнаючы работы шчырай плён*
*І радасці, і роспачы хвіліны,*
*З людзьмі тут разам будзе несці ён*
*Цяжар штодзённых клопатаў Айчыны.*

●

*Бяжыць, плыве мая Віцьба*
*Пад шэпат адвечны трысця.*
*Вось так праплываюць лічбы*
*Гадоў маіх — вешак жыцця.*

*Бег часу ніяк не спыніш,*
*Ці варты чаго, ці не варт.*
*Бы ўчора я браў толькі старт,*
*А ўжо — і забегу фініш.*

ПРОЗА

# ГУЛЬНЯ Ў ХОВАНКІ

АПАВЯДАННЕ

Анатоль КАЗЛОЎ



ЁН ЖЫЎ СНАМІ. Жыў у снах. Кожную раніцу прачынацца было жахліва. На памежжы сну і явы (ён адчуваў гэту танюткую павуцінку падзелу) цела ў яго пакрывалася ліпучым і халодным потам, а ў скроні сякерай-калуном цюкала кроў, павекі станавіліся цяжка-набрынялымі, быццам у іх упырсквалі расплаўлены свінец. Ён ляжаў, не расплюшчваючы вочы, хвіліну, другую. Слухаў надрыўнае скрыгатанне ліфта ў шахце дзевяціпавярховага дома. Яму было самотна і крыўдна, брыдка і адзінока. Не хацелася зноў, як і ўчора, пазаўчора, тыдзень таму, падымацца з цёплай пасцелі, галіцца, сёрбаць зёлкавую гарбату і ўлівацца ў плынь шэрых твараў-масак на аўтобусным прыпынку. Рабіцца такой жа, як сотні, тысячы іншых, шэрай прымітыўнай маскай, на якой не ўздрыгвае аніводны мускул. Замбіраваны горад з хворымі людзьмі. І ён быў адным з аморфных зомбі. Ва ўсялякім разе ў тыя хвіліны, калі ўліваўся ў плынь іншых гараджан. Гнятлівая пустата і абыякавасць. Каменныя твары, панельныя і цагляныя дамы. Нізкае халоднае неба. Галалёд тратуараў і асфальту. Мокры густы снег...

Дзіўна і незразумела: чаму нават сонечныя дні не скрашваюць людскую шэрасць. Не запальваюць у вачах гараджан светлых іскрынкак. Твары ў большасці мяняюцца толькі з-за акуляраў. Начэпленыя на насы чорныя, зацемненыя, люстраныя шклінкі яшчэ больш робяць іх падобнымі на ідалаў.

Дзе душа? Штодня ён узіраецца, углядаецца цішком у шэрыя непранікальныя маскі-твары ў аўтобусах, метро, на вуліцах і праспектах. Паўсюль адно і тое ж. Страшна, але ён адчувае, што праз некалькі імгненняў пасля таго, як сам далучаецца да натоўпу, уліваецца ў бягуча-цечны струмень штодзённага жыцця, ён міжволі робіцца такой жа Маскай. Шэрай і абыякавай, бяздушнай і жорсткай. Горад здаецца вялізнай майстэрняй, на сцяне якой запраграмаваны майстар-умельца памясціў тысячы, мільёны масак. Яны небяспечныя... Але для каго? Паўсюль дэманічныя маскі з мёртвымі вачыма, з вачыма рыбы. Да іх, здаецца, нельга прывыкнуць. Але гэта толькі здаецца. Напачатку. Пакуль у тваіх грудзях тлее, так, тлее, а не гарыць ужо, вугельчык рамантызму, любові. Не згасла надзея на дабрыню і спачуванне. Пакуль у крыві засталася, няхай ужо крыху і склератычная, памяць пра дзяцінства з бязмежным глыбокім і зорным небам, з начнымі шорахамі на гарышчы хаты, з брэхам сабак і рыканнем сытых кароў на вячэрняй пыльнай дарозе. Пакуль яшчэ не забыў кожную рысачку на спрацаваных, пакручаных гадамі руках маці. І не страчана яшчэ ў памяці ціхая і лагодная, заўсёды бяскрыўдная яе ўсмешка ў куточках ясных вачэй. Але гэта пакуль...

Сон. Жыць у сне. Гэта адзіная аддушына. Светлая палоска. Вясёлка на шэра-туманным купале неба.

Ён здзіўляецца дзецям, калі бачыць іх на вуліцах. Яны маленькія старыя людзі: заклапочаныя, паспешлівыя, абыякавыя і... істэрычныя.

Сямідзесяцігадовы дзед і дзядок у сем гадоў. Яны ідуць побач, трымаюць адзін аднаго за руку. Аднолькавыя вочы, падобная хада... і абыякавасць да ўсяго і ўсіх. Дзеці нараджаюцца старымі, а старыя ўжо больш не дзяцінеюць. Смешна? Страшна? Абсурдна?

"Не, усім усё роўна, — думае ён. — Толькі ж абыякавасць — найстрашнейшая хвароба. Ад яе, як і ад СНІДу, не знойдзены пакуль лекі, і наўрад ці змогуць шэрыя маскі парупівіцца пра такія лекі. Чужая ж душа — пацёмкі... прорва, багна..."

Ён паспешліва, як і ўсе астатнія, як большасць гараджан, крочыць па выбоістым тратуары, глядзіць перад сабою, глядзіць у нікуды, інтуітыўна збочвае, каб не сутыкнуцца са стрэчнай маскай, перабягае следам за бяздомным сабачанём дарогу, хаваецца ад паўночна-заходняга ветру за слюдзіста-шкляной перагародкай на аўтобусным прыпынку. Сабачанё вынюхвае каля сметніка спажыву. Пуста. Нічога спажыўнага. Вінавата азіраецца, акідвае галодна-стомленым позіркам людскі гурт.

"Што ім, ды і мне, да цябе, сабачанё? Да цябе, бяздомная істота. Вас тысячы па ўсім горадзе, выкінутых на вуліцу перад самай зімою. Ты яшчэ не акалеў, радуйся." — Сабака, здаецца, пачуў яго думкі-словы. Яны сустрэліся позіркамі.

"Божа мой, у ягоных вачах няма азлобленасці, у іх не праглядваецца ані кроплі варожасці... Сабачанё шкадуе мяне, яму горка бачыць усіх нас. Нашыя непраглядныя маскі. Божа мой найвышні, што ж гэта робіцца на белым свеце? Што?!"

Аўтобус — метро. Метро — аўтобус. Вечарам чарга ў краме. Тэлевізар — кроў і гвалт. Паўсюль валадарыць смерць. Да яе мы, людзі-маскі, паспелі ўжо звыкнуцца. Памірае нехта там, далёка на вуліцы, нам гэта нават не казыча нервы. А як інакш? Так, відаць, і павінна быць.

"Мы пазбаўлены якой бы то ні было веры... — ён цяжка ўздыхае, няспешна крочыць у ванны пакой, уключае гарачую ваду. Яна пеніцца, шыпіць, бурбалкі вялікімі пухірамі разбягаюцца ў бакі, лопаюцца, а на іх месца набягаюць другія, ад якіх праз імгненне не застаецца і напамінку. — Мы хворыя, усе да аднаго. Толькі дзе той мудры чалавек-доктар, які б паставіў правільны дыягназ. Адзін — на ўсіх... Хутчэй у ваду, цёплую і ачышчальную. Трэба змыць перад сном маску з твару, разняволіць цела, якое, здаецца, таксама працята наскрозь флюідамі абыякавасці і зла, ахутанае чорным, не бачным саванам."

Ён залазіць у ванну. Асцярожна апускаецца ў лагодную ваду. Заплюшчвае вочы. Сёння яму нават не хочацца чытаць. Стомленасць. Ад чаго? Відаць, ад усяго і ўсіх, а найбольш ад самога сябе. Ілюзорнасць будучыні паступова гасне ў яго душы, прэтэнцыёзнасць танчэе. Светлая палоска ягонага "Я" няўмольна цьмянее, быццам летні надвячорак, які незаўважна пераходзіць у ноч.

"Якая мая прыродная праграма? З мяне, як з паршывай авечкі, кожны хоча выдзерці касмык... Навошта? Дзеля чаго? Няўжо ім лягчэй, калі пакутуе бліжні, калі нагортваюцца няпрошаныя слёзы, калі даўкі камяк крыўды падступае пад горла?"

"Усё праходзіць, усё мінае, — чуе ён няўлоўны голас розуму. — Так жывуць усе! Хрысціянскія прынцыпы забытыя. На зло цяпер адказваюць злом, а на подласць — подласцю."

Вада расслабляе, здымае напружанасць, і нервы ўжо не такія агаленыя, псіхіка ўраўнаважваецца...

"Выратаванне ў сне. — Так ён думае. — Але ж усё жыццё нельга праспаць, — пачынае ён спрачацца сам з сабою. — Хачу выпіць. Шклянку гарэлкі адным дыхам."

"Ну і што? Думаеш — весялей зірнеш на свет, людзей, жыццё? Не займайся самападманам, — усё той жа голас мозгу. — Ты слабак. Зломлены."

"Кім, чым?" — не пагаджаецца ён.

"Жыццём. Такіх большасць."

"А ў чым сіла? Перагрызаць горла першаму, хто патрапіцца? Адбіраць кавалак у жабрака, выбіваць мыліцы з-пад пашак у калекі? У гэтым сіла, га?"

"Калі патрэбна, то і так, — нашэптвае голас. — Такое жыццё паўсюль: над табою, пад табой, справа і злева — куды ні зірні. Ты проста не хочаш плысці разам з часам."

"З такім, як цяпер, — не хачу. Мне не дадзена прыродай, не навучаны я ні матуляй, ні бацькам няволіць, закабальваць бліжніх."

"Тых, каго завеш шэрымі маскамі? Вар'ят."

"Я адзін з іх гэтых масак."

"Ты пажартуй са сваімі так званымі сябрамі, як яны "пажартавалі" з табою. Пабачыш — лягчэй стане."

"Гэта дробязь, не вартая ўвагі."

"Дробязь? Ты так думаеш? А з іх жа, дробязей, складаецца жыццё. Што, я не правы?"

Ён адчуў, што спрачацца няма сэнсу. Пустое. І ўсё ж узгаданы "жарт" сяброў у душы развярэдзіў крыўду. Загарэліся распараныя гарачай вадой вушы, з-пад адмытай шэрай маскі праступіла чырвань на шчоках, ілбе. Твар палаў ад сораму і крыўды. Подла. Па-за сваёй воляй ён стаў злодзеем. Бязвінны быў гэты жарт, ці наўмысніца?

"Выкарчуй да апошняга карэньчыка адчуванне віны! — не сунімаўся голас. — Гэта перажыткі мінулага. Яны не для сённяшняга дня. Нахабства, распуста, ліслівасць, крывадушша, бездухоўнасць, чэрствасць — вось тыя медалі, якія патрэбна цяпер насіць на грудзях і ў грудзях."

"Праваліся ты ў прорву!" — агрызнуўся ён і вылез з ванны.

Зірнуў на свой твар у люстэрку на сцяне. На гладкай шкляной паверхні ён убачыў замест знаёмага адбітка выскал чэрапа. Паспрабаваў усміхнуцца, але нічога не атрымалася: праваленыя вачніцы-варонкі, шнурок роўных белых зубоў — сціснутых, нібы ўзятых на замок. Ён трасянуў галавою-чэрапам — у люстэрку вымаляваўся твар. Знаёмы і адначасова — чужы. Скулы нервова сцягнуты, куточкі рота апушчаны, дугі броваў збегліся да пераносся, нахмураны лоб застыў гармонікам.

"Чым не афрыканская маска? Яе месца на цаглянай, пабеленай сцяне. Каб палохаць... Каго палохаць? Ну, хоць бы, замест пудзіла варон. Варон на засееным просам лапіку зямлі. Але ж яны нахабнейшыя за вераб'ёў. Нічога не атрымаецца. Як гэта гаварыў мой мудры кумір Уільям Голдзінг: "У чалавеку больш злосці, чым можна растлумачыць адным толькі ўціскам сацыяльных механізмаў"... Як не задзьмуць агеньчык чалавечнасці ў самім сабе?"

Ён стаіць яшчэ хвіліну перад люстэркам у ванным пакоі. У вушах шум марскога прыбою, на губах — саланаваты прысмак. Пачынае трохі ныць патыліца.

— Дзе, сучка, грошы? Зноў пратранжырыла?

— Хадзі сам у краму. Кармі сям'ю за тыя слёзныя капейчыны, што прыносіш.

— Людзі яшчэ менш зарабляюць. Жывуць жа!

— А ты бачыў цэннікі?! Ты іх бачыў?! Валасы дыбам становяцца. Усё, нагі маёй больш у магазінах не будзе. Сам прадукты прынось, а я гатаваць буду. Паглядзім, як з кулака накорміш сям'ю.

— А ты ў мяне дзеля чаго, квактуха?!

— Для пасцелі.

— Ды на цябе шалёны сабака не ўскочыць...

Ён больш не слухае штодзённыя сваркі суседзяў з ніжняга паверха. Панельныя дамы — гэта кітайскія пагады з папяровымі перагародкамі. Хто, як і ён, жыве ў панельных шматпавярховіках, той ведае і зразумее. Вочы не бачаць, што робіцца ў суседзяў, толькі вушы да драбніц усё чуюць.

"Мая кватэрка — мой маленькі свет, у якім бязвольна і пасіўна я дрэйфую."

Ён накідвае на плечы махровы халат, шчыльна прыкрывае дзверы ваннага пакоя, запальвае святло на кухні і падыходзіць да лядоўні. У яго тут заўсёды ёсць адкаркаваная пляшка гарэлкі, пара лімонаў, сыр, шматок масла.

З насценнай шафы ён узяў кубачак для кавы, наліў да самых краёў "Крышталю" і, лёгенька хукнуўшы, перакуліў гарэлку ў рот. Горла апякло халаднавата-гарачым факелам-квачом. Выдыхнуўшы, ён наліў другую порцыю. І адразу ж плёхнуў яе за першай, каб не збегла і не паспела схавацца.

"Выкарчуем гарэлкай у самім сабе зло." — Ён усміхнуўся ў пустэчу начнога вакна. Гадзіннік паволі адлічвае час. Цік-так, цік-так. Секундная стрэлка павольна пераскоквае з рыскі на рыску цыферблата.

"Deja vu.[1]" — Ён прыслухоўваецца да самога сябе. Адчувае лёгкую цёплую хвалю, якая паступова і няспешна агортвае цела.

"Хоць цяпер мой твар-маска расслабіцца. Дасць Бог, ачалавечыцца. Яшчэ не ўсё страчана. Зямля пакуль не перакулілася. Проста, відаць, усе на зямлі перакуліліся з ног на галаву."

"Ідэаліст. — Спачувальны голас розуму. — Адурманіць сябе лёгка, асабліва калі вельмі гэтага хочаш. А калі жыць без ілюзій?"

"Цяжка. Немагчыма. — Ён пакрыўджана скрывіў рот. — Кожнаму чалавеку! Менавіта кожнаму, як паветра, патрэбна вера. Без яе няма жыцця. Без веры — чалавек не чалавек, а самнамбула."

"Ты скажы: якая вера ў людзей-масак? У што, ці ў каго яны вераць?.. У светлую будучыню, шчасце?.. Не! Дужа ж ілюзорна ўсё гэта. Усё, як сам бачыш, з-за гэтага, відаць, сталі маскамі: гіпсавымі ды каменнымі, драўлянымі і з гліны. Ад бязвер'я, ад бездухоўнасці, ад бытавога і сацыяльнага няшчасця. Усё прыгладжана і падагнана пад адзін стандарт. А калі няма асобы, то няма і чалавека. Няма індывідуальнасці — зноў няма чалавека. Замест людзей — шэрая аднародная маса. Вось тады і ператвараюцца твары ў маскі. Ну што, з'еў?"

"Туфта! — ён не пагаджаецца і без шкадобы скрыгоча зубамі. — Мой чэрап — мой прыстанак. Табе лепш маўчаць. Прыціхнуць са сваёй гнілою філасофіяй. Хатні Ніцшэ. Ты б яшчэ Фрэйда ў кампанію прыхапіў. Не забывайся, што пакуль я гаспадар, як галавы так і цела!"

Нябачная істота ў мазгах пагардліва хіхікнула. Голас брыдкі і слізкі, быццам пакінуты на агаленай грудзіне след смаўжа.

"Выпі яшчэ, — падштурхоўвае пад руку схаваная і бяздушная істота з чэрапа. — Тады ўжо не схаваешся пад ружовай прасцінай сну ад жыцця. І там цябе дагоніць штодзёншчына. Нанова пабачыш, як сябар цішком засоўвае ў кішэню тваёй курткі два сыркі. Дзеля жарту. Ты ж праведнік, а ў кішэні неаплачаныя сыркі... Што, сорамна? Табе сорамна, а сябра весяліцца, заходзіцца рогатам, калі цябе ахоўнік праводзіць у падсобку, каб скласці пратакол на злодзея. Смейся! Чаму не смяешся ты? Неардынарна, пагана? То-та і яно. Выпі і прабач захмялеламу сябру. Ён жа, як і ты, — шэрая маска, якая дазволіла сабе маленькі жарцік. Зусім малюпасенькі, з макавае зернейка. — Голас пляшывым карлікам хіхікае ў галаве. — Канфлікт з парокам не вырашальны. Але ж сяброўства павінна быць вышэй за такія дробязі."

Ён, каб адкараскацца ад назойлівага дарадчыка, зноў падыходзіць да лядоўні, налівае ў кубачак пякучага зелля, уключае магнітафон на кухонным стале і прыслухоўваецца да інструменталкі Майка Алдфілда. Гэту порцыю "Крышталю" ён выпівае з расцяжкай, смакуючы, бы лекавы нектар.

"Трэба класціся спаць. Сон — бальзам для душы і цела. Толькі там, у сне, зноў вяртаешся ў бяскрыўднае дзяцінства, дзе ўсё сагрэта ласкай і любоўю. Там, куды ні зірнеш, паўсюль рассцілаюцца сотні залачоных дарог. Гойсай па іх, лятай, рабі кульбіты і ніводнага сіняка на целе, ніводнай драпіны. Там ты абаронены ад усяго і ўсіх рукамі любімага чалавека. Самымі мяккімі і ласкавымі далонямі матулі. Яна вытра няпрошаную слязіну, прыгладзіць неслухі-валасы на галаве. І заўсёды верыш яе праўдзівым, непадманлівым словам: "Усё будзе добра, сынок. На змену зімы прыйдзе лета, а хмарнае дажджлівае неба зменіцца яснай і неабдымнай цеплынёй сонца."

Сон — выратавальная палачка. Мо ўсе людзі-маскі з такой пажадлівасцю чакаюць яго, як і я. Чакаюць, каб скінуць з плячэй неймаверны цяжар дня, каб зняць з твараў ліпучыя маскі і даць скуры дыхнуць свежасцю..."

"Глядзі, каб не заснуў ты летаргічным сном. Ці яшчэ горш — абрынешся ў кому."

[1] *Ужо было (фр.)*

*(Працяг на стар. 12)*



## ЧАСАПІС

### Светлая мелодыя

Пры кожнай нашай сустрэчы ці ў тэлефоннай размове Уладзімір Пугач абавязкова прыгадае, дзе і калі пабываў у ваколіцах сваіх Навасёлак Петрыкаўскага раёна, што цікавага і запамінальнага ўбачыў. І не дзіўна. Змалку ўлюбёны ён у прыроду. Таму і стаў спачатку аграномам, а потым — настаўнікам біялогіі. Уладзімір Мікалаевіч — адзін з самых актыўных аўтараў "раёнкі". Пастаянна дасылае лірычныя абразкі, навелы, эцюды і замалёўкі. Яго творы змяшчаліся таксама ў калектыўных альманахах "Жыві, мая крыніца", "Рачныя напевы" і "Галасы Палесся".

А летась яго зборнік "Флейтавыя гукі" выпусціла выдавецтва "Ураджай". Спонсарам выступіла райінспекцыя прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, якую ўзначальвае М. Юхневіч.

Звыш 120 мініяцюр аб'яднаны ў раздзелы "На прыволлі", "Ляснымі сцежкамі", "Птушыны гоман" і "Ад Пцічы да Арэсы".

Кніга адрасавана найперш дзецям школьнага ўзросту. Яна прыгожа афармлена лінагравюрамі Ф. Тулько.

А. ЛІСІЦКІ

### Жаночы суд жаночым днём

Забаўна, што "Генералы ў спадніцах" з Даўгаўпілса выйшлі на сцэну Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы якраз жаночым днём 8 Сакавіка: п'еса Жана Ануя, сучаснага французскага класіка, адметная жаночай "леваруцыяй" ды судом, які жанчыны даўмеліся зладзіць над мужчынамі. У ролі Лявона дэ Сэн-Прэ, сябра Французскай акадэміі, чыя чарговая прыгода з пакаёўкай зрабілася рухавіком сцэнічнай інтрыгі, выйшаў, дакладней, выстаяў (усю першую дзею — ля хатняга ганебнага слупа!) Міхаіл Самадахаў. Героя цвялілі, крыткавалі і цкавалі, герою даравалі, спачувалі і дапамагалі жонка Ада (Ілона Булажа), дачка Мары-Крысцін (Жанна Лубгане), сын Тато (Віктар Янцэвіч), служанка Фліпот з мужам (Мая Коркліша з Юрыем Лосевым), адвакат Лабелюк (Сяргей Голубеў), а таксама маляўнічае, камічнае трыо судовых — Прэзідэнтка (Уладзімір Дупак) ды засядацелькі (Гунтарс Стафецкіс і Андрэй Шляпкоў).

Акцёрскім гуртам паспяхова распарадзіўся рэжысёр (ён жа і мастацкі кіраўнік тэатра) Валянцін Мацулевіч.

Паказ спектакля адбыўся ў рамках абмену з Купалаўскім тэатрам (мінулым вераснем Даўгаўпілскі дзяржаўны тэатр прымаў спектакль "Ідылія"), а таксама з дапамогай Генеральнага консула Беларусі ў Даўгаўпілсе Васіля Марковіча і консула Валерыя Сысоева.

Ж. Л.

### Мэр цікавіцца культурай

Аляксандр Серафімавіч Якабсон узначаліў Гомельскі гарвыканкам нядаўна. Да гэтага многія ведалі яго як мэра Светлагорска. І ведалі па добрых справах, у прыватнасці, па ягоным захапленні мастацтвам.

Карцінная галерэя (яе, дарэчы, узначальвае сёння паэт Ізяслаў Катляроў), створаная па ініцыятыве А. Якабсона, стала месцам адпачынку многіх жыхароў горада на Бярэзіне, а для вядучых мастакоў рэспублікі стварыла магчымасць дэманстраваць там свае набыткі.

Як ідзе культурнае жыццё ў Гомелі, з якімі цяжкасцямі і праблемамі сустракаюцца культасветработнікі, бібліятэкары, артысты, пісьменнікі, мастакі, музыкі? На гэтыя і іншыя пытанні пажадаў пачуць канкрэтныя адказы мэр. І не толькі адказы, але і прапановы — што трэба зрабіць для таго, каб у другім па колькасці жыхароў горадзе Беларусі ажывілася, набыло другое дыханне культурнае жыццё.

Трэба заўважыць: тое, што хацеў пачуць мэр, ён пачуў. За што і падзякаваў выступоўцам — заслужанай артыстцы рэспублікі Галіне Паўлянок, дырэктару музычнай школы N 5 Алегу Гутараву, старшыні Гомельскага аддзялення Саюза мастакоў Анатолю Отчыку, старшыні абласнога тэлерадыёаб'яднання Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі "Беларусь" Віктару Маючаму, кіраўніку школы бальных танцаў "Палеткі" Галіне Лабанавай і іншым.

— Калі хоць палову праблем, пачутых сёння ад вас, мы вырашым, — сказаў Аляксандр Якабсон, — то гэта будзе зельмі добра...

Мэру адказалі апладысментамі.

Васіль ТКАЧОЎ

ТВОРЧАСЦЬ

***Святло рампы, усмешкі, прыўзняты настрой... Усе ў чаканні канцэрта-спектакля Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі. Калектыў добра вядомы не толькі ў краіне, але і за мяжой. Аб'ездзіўшы паўсвету, ён заваяваў заслужаную славу. А чым парадуе нас сёння, якімі творчымі адкрыццямі? Яго ж узначальвае Валянцін Дудкевіч — чалавек невычэрпнай творчай фантазіі, высокага інтэлекту і тонкага мастацкага густу. Менавіта Дудкевічу ўдалося адрадзіць ансамбль і вярнуць яму колішнюю славу.***

# Танец — гэта дзівосны тэатр!

## МАСТАЦКІ СВЕТ Валянціна ДУДКЕВІЧА

Рэдкі лёс выпаў на долю маэстра. Танцор, рэжысёр, паэт, музыкант, мастак, балетмайстар... Так і здаецца, што талент бурнай плынню памкнуўся з гор і выклікаў да жыцця вялікую сілу ягонага мастацтва. Што ж абумовіла ўзыходжанне да поспеху? Удача, якая ўтварыла сам клімат ягонага жыцця, нягледзячы на асобныя творчыя нягоды, ці нястомная праца і любоў да мастацтва?

Дудкевіч рос у мастацкай атмасферы і пачаў танцаваць з васьмі гадоў. Паралельна навучаўся музыцы. Багацце свайго харэаграфічнага мыслення абавязаны і музыцы, і танцу. Закончыўшы харэаграфічнае вучылішча ў Мінску, ён прыйшоў у трупу нашага Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета і пратанцаваў там 9 гадоў. Аднак будучы багата адораны творчай натурай, якая не можа абмежаваць сябе вузкай спецыялізацыяй, Валянцін Дудкевіч даволі хутка зразумеў, што яму "цесна" ў танцы, класічнай харэаграфіі.

Нечаканае запрашэнне канцэртна-эстраднага бюро Беларускай дзяржаўнай філармоніі на пасаду пастаноўшчыка танцаў у эстрадзе (у 60-я гады — прафесія вострадэфіцытная!) прывабіла яго. Гэта было новым і незвычайным і давала магчымасць праявіць сябе ў вялікай справе. Паколькі вучыцца не было ў каго, ён пачаў сам ставіць танцы, і ставіў някепска. З'явіліся навыкі, расло майстэрства. За час работы было створана мноства праграм для эстрадных канцэртаў, якія прынеслі вядомасць. Сваім з'яўленнем у эстрадзе Дудкевіч быццам "танізаваў" гэты пласт нацыянальнай культуры, прынёс у яго сапраўдны прафесіяналізм і высокі мастацкі густ.

Праца ў эстрадзе дала паўнае задавальненне. Яго захаплялі паездкі, вялікія сцэны, сустрэчы з новай аўдыторыяй. Але як апантаная натура, надзеленая імкненнем да спасціжэння высокіх матэрый, ён паступае ў тэатральна-мастацкі інстытут, а пасля яго заканчэння — у аспірантуру. Ён піша дысертацыю пра беларускае мастацтва 20-х гадоў (Віцебскі перыяд), сабраўшы за час вучобы вялікі і унікальны матэрыял па ўсіх відах мастацтва і зрабіўшы глыбокія абагульненні наконт станаўлення нацыянальнай культуры ў першай чвэрці XX стагоддзя.

Адначасова працягвалася і праца ў філармоніі, якая дазволіла Дудкевічу праявіць сябе ў самых розных амплуа: быў складальнікам праграм "звычайных" і ўрадавых канцэртаў, пісаў тэксты для выканаўцаў і складаў спецыяльныя літаратурныя праграмы, праводзіў навагодні імпрэзы з уласнымі вершамі і граў на фартэпіяна замест адсутнага канцэртмайстра. І, вядома ж, ставіў танцы, быў рэжысёрам шматлікіх канцэртаў і прадстаўленняў.

На пасадзе рэжысёра спецыяльных мерапрыемстваў ён адпрацаваў 5 гадоў. За плячамі засталіся юбілеі Коласа, Багдановіча, беларускіх тэатраў, а таксама ўсім вядомая праграма "Беларусь мая, сінявокая", дзе ён праявіў сябе як высакакласны балетмайстар, сцэнарыст і сцэнограф. Добра адчуваючы вялікія сцэны Масквы і асабліва суперсцэну алімпійскага комплексу, ён увасабляе сваю маштабнасць мыслення і смелыя рэжысёрскія ідэі. За паспяховыя выступленні В. Дудкевіч атрымлівае "вечны" пропуск у спарткомплекс "Алімпійскі".

Спалучэнне нястомнай творчай энергіі і інтэлектуальнага тэмпераменту дазваляла яму рэалізоўваць свой творчы патэнцыял і ў часіну адпачынку. Спрабаваў пісаць кнігу пра культурнае жыццё Мінска, шмат маляваў — і няблага, працаваў па дрэве, збіраючы ў лесе карані, вецце, і пастаянна фатаграфаваў. Ранейшыя захапленні захаваліся дагэтуль. І ў хобі ён адчувае сябе сапраўдным вольным мастаком, не заціснутым рамкамі заказу. Менавіта хобі дапаўняюць партрэт мастака — тонкага, адчувальнага спевака прыроды, праніклівага псіхолага і знаўцы чалавечай душы. Ён дагэтуль захоўвае піетэт перад свабодай творчасці, звернутай да ўнутраных парыванняў.



•

У харэаграфію Валянціна Дудкевіча "вярнулі" ў 1985 годзе, правільней — угаварылі вярнуцца. Да гэтага часу ён ужо меў званне заслужанага дзеяча мастацтваў, зведаў славу рэжысёра, балетмайстра-харэографа, арганізатара. Ён прыйшоў у Дзяржаўны народны ансамбль танца пасля Я. Маёрава і адразу адмовіўся ад прысмаку "аматаршчыны", якая трывала ўмацавалася там на той час. Калектыў чакаў ад новага "художрука" і новага жыцця. Даўно не было гастроляў, што дазваляюць артысту быць "на ўзроўні", юна састарэў рэпертуар, касцюмы, музыка, харэаграфія. Давялося думаць, і думаць шмат. Трэба было аднаўляць славу калектыву, заваяваную яшчэ ў часы Апанасенкі, і знайсці сучасную мастацкую і танцавальную канцэпцыю.

Пачалася ўпартая праца. Ён стаў тым "нервам", без якога не працякала ніводная хвіліна жыцця калектыву. Усё, што рабіў Дудкевіч, дыктавалася мастацкімі мэтамі. Гэтага прытрымліваецца і цяпер. Мастацкі кіраўнік вызначае тэму, падбірае і знаходзіць акцёраў-танцораў, выбірае кампазітараў і мастакоў, ставіць танцы, распрацоўвае сюжэт і сцэнарый, драматургічнае развіццё, працуе над асвятленнем і над касцюмамі, "абмацваючы кожны лапік тканіны", арганізуе сцэну, плануе кампазіцыю канцэрта. Ён жа кіруе рэпетыцыямі. Таму невыпадкова кожны канцэрт ці пастаноўка адлюстроўвае сваёй арыгінальнасцю асабісты саўдзел валявога, разумнага і эрудзіраванага "худрука", які ведае ўсе дэталі творчага працэсу.

Галоўнае і вызначальнае патрабаванне Дудкевіча датычыцца сферы драматургіі — танцавальнай, музычнай, канцэртнай. Валодаючы бездакорным пачуццём тэатра, ён ад самага пачатку працы ў ансамблі імкнецца да стварэння канцэртна-тэатральнага прадстаўлення, ведаючы паводле вопыту мінулых гадоў механізм гэтай імпрэзы. У цэнтры яго тэатральна-канцэртных задум — імкненне цалкам захапіць аўдыторыю, падпарадкаваць яе волі пастаноўшчыка. І яшчэ адна важная ўмова: прыгажосць і адчуванне формы, памножаныя на высокі прафесіяналізм. Прыгажосць ён знаходзіць ва ўсім: у танцавальнай пластыцы, у тварах артыстаў, у касцюмах, сцэнаграфіі. Форма ж — гэта адточанасць, канкрэтнасць драматургічных ідэй, зграбнасць прапорцый. Як сапраўдны рамантык па духу і чалавек духа, ён адчувае пастаянную незадаволенасць усялякай праявай статычнасці — ці тое сталыя традыцыі, ці непарушныя каноны. Праз гэта ў танцы — імправізацыйнасць, што дазваляе артысту выказаць сябе напоўніцу, раскрыць сваё ўнутранае "Я".

•

За 13 гадоў працы ў ансамблі В. Дудкевіч прадставіў вялікую колькасць праграм і танцаў: беларускіх — як традыцыйных, так і жанравых; рускіх, а таксама танцаў іншых народаў, прадстаўнікі якіх жывуць на Беларусі; танцаў народаў свету. Кожная праграма мела сваё значэнне, адлюстроўваючы і эвалюцыю ансамбля, і эвалюцыю мастацкіх схільнасцяў самога маэстра. Усе танцы розныя, непаўторныя, арыгінальныя.

Скажам, у рускім карагодзе, у "Спеве дуброў" балетмайстар звяртаецца да рамантычнай вобразнасці. Пластычны малюнак танцаў выкананы ў лірычным ключы, касцюмы і ўсе астатнія атрыбуты з'яўляюцца, як заўсёды, працягам вобраза. У "Церніцы", у сюіце "На купалле" мы трапляем у свет, дзе пануюць найтонкія рухі душы, дзе драматычны маналог змяняецца перарывістым, недагаворaным прызнаннем. Зусім іначай вырашаны беларуская жанравыя танцы, напоўненыя іскрыстай весялосцю, гумарам і жартам. І ў якім бы стылістычным ключы ні працаваў маэстра, усюды і ва ўсім выразна праступае цэнтральная ідэя яго творчага метаду: сюжэт (змест), драматургія плюс імправізацыя.

Ён непаўторны, нават калі б захацеў паўтарыць сябе. Відаць, гэта ад таго, што свет, куды вядзе сваімі танцамі Дудкевіч, шматаблічны. Гэта свет узлётаў і валявых заклікаў, свет, у якім ёсць і дзеянне, і стан. Гэты свет азораны глыбокімі і шчырымі пачуццямі, напоўнены любоўю да бацькаўшчыны. Апошняе асабліва важна, бо народнае мастацтва, якое хвалюе яго заўжды, Дудкевіч увасабляе на сцэне адмыслова і надзяляе адмысловым значэннем: знаходзіць арыгінальную харэаграфічную лексіку, рэлевантную духу народнага танца, старанна

прадумвае светлавое вырашэнне сцэны і каларыстыку касцюмаў. І галоўнае — тэатралізуе танец, бо танец у народа — гэта дзеянне! У выніку, апынуўшыся на канцэрце, мы паглыбляемся не проста ў танцавальную стыхію — што цудоўна само па сабе, — а і аказваемся захопленымі перыпетыямі выразнага сюжэтнага развіцця, выяўленага мовай танца. Ёсць у такім танцы-спектаклі і галоўныя героі, і мізансцэны, і масоўка, г. зн. усе атрыбуты тэатральнага спектакля з характэрнымі для яго драматургічнымі і кампазіцыйнымі заканамернасцямі.

Арыентацыя на тэатралізацыю канцэртна-танцавальнай праграмы невыпадковая. Яшчэ падчас працы ў эстрадзе Дудкевіч заявіў пра сябе не толькі як харэограф, але і як рэжысёр, надзелены нешэраговым драматургічным пачуццём. Цяпер яго драматургічнае мысленне праявілася яшчэ больш упэўнена і разнастайна. Свой канцэрт маэстра бачыць як працэс, як няўхільнае развіццё па ўзыходзячай лініі, што дазваляе трымаць гледача ў стане неаслабнай цікавасці. У такім канцэрце тэатральна вырашаны не толькі танцы, п'есы, сюіты, але і ўсё цалкам — пачынаючы з першых гукаў прывітальнага сігналу.

Адметна, што ствараючы ці арыентуючыся на "тэатралізаваны канцэрт", Дудкевіч не ставіў задачу стварыць штосьці экстраардынарнае. Не быў ахоплены ідэямі наватарства, самакаштоўнай навізны ні лексікі, ні пастаноўкі. Як і 13 гадоў таму, калі ён прыйшоў у ансамбль не знаёмым з мовай народных танцаў і пачаў ставіць іх як прафесійны харэаограф, г. зн. выяўляючы сябе, так і цяпер ён імкнуўся да самавыяўлення, да ўвасаблення ў танцы ўласнага бачання сучаснага танцавальнага ансамбля. І ў тым, і ў іншым выпадку мінус стаў плюсам. Яго мастацкае "Я", прафесіяналізм і вышыня духу вызначылі новае аблічча калектыву, чыё мастацтва спалучае ў сабе і сучасную танцавальную лексіку, і сапраўдны прафесіяналізм. Яго мова зразумелая кожнаму перш за ўсё таму, што яна сілкуецца нацыянальнымі вытокамі, якія бяруць свой пачатак з беларускай народнай культуры.

•

Вядома, што ідэі адстойвання ў мастацтве чыстай прыгажосці, "самавыяўлення" прыйшлі ў XX стагоддзе з мастацтвам сімвалістаў. Іх погляды паступова сталі папулярнымі ва ўсіх відах мастацкай творчасці, у тым ліку і ў народным танцы. Думаецца, што творчы метад Валянціна Дудкевіча блізкі па сваёй накіраванасці да тых, хто рабіў стаўку на абнаўленне мастацкай формы і эстэтычны густ. Адсюль дзівоснае бачанне новага ў традыцыйным, што выяўляецца ў сінтэзе класічнай і народна-танцавальнай харэаграфіі, у трансфармаванні "музейнай" лексікі дзеля надання ёй эстэтычна актуальных якасцяў. І над усімі гэтымі памкненнямі ўзвышаецца ідэя танцавальнага спектакля ці тэатралізаванага канцэрта, дзе галоўнай фігурай робіцца артыст — танцор і акцёр адначасова.

Падкрэслю: ствараючы той ці іншы танец, задумваючы праграму, Дудкевіч арыентуецца перадусім на выканаўцу.

Так, для яго, для артыста ствараецца харэаграфія, касцюм, шукаецца тканіна (на працягу доўгіх гадоў ансамбль звязваюць цесныя творчыя кантакты са знанай "Скарбніцай"). І вядома ж, для яго ствараецца сюжэт і кампануецца драматургія. Таму адзін з важных крытэрыяў адбору артыстаў у гэты ансамбль — сцэнічныя прыхільнасці ды сцэнічныя дадзеныя (акрамя, вядома, прафесійных якасцяў). Вось чаму сёння Дзяржаўны народны ансамбль танца Беларусі — гэта ансамбль салістаў. Такая зарыентаванасць дзейнасці мастацкага кіраўніка на творчую індывідуальнасць артыста, на яго здольнасць да самавыяўлення і сталася, відаць, зарукай няўхільнага ўзыходжання да вяршынь.

Вострa адчуваючы сучаснасць, Валянцін Дудкевіч не толькі адпавядае запатрабаванням часу, але і стварае тую мастацкую навізну, якой, трэба меркаваць, належыць будучыня. І ў гэтым заключаецца асаблівая роля маэстра і яго ансамбля ў развіцці нацыянальнай культуры канца XX стагоддзя.

**Таццяна МДЗІВАНІ**

*На здымку: у цэнтры — народны артыст Беларусі Валянцін ДУДКЕВІЧ.*

КІНО

# Спадзяванні ў Таццянін дзень

***Я люблю бываць у "Таццяны". Утульны пакой гэтай незалежнай кінавідэастудыі ў Саюзе кінематаграфістаў уяўляецца мне скрыжаваннем часоў: старадаўні гадзіннік, сучасныя камп'ютэры, пажоўклыя афішы, карціны з дзіўнымі жаночымі постацямі — усе гэтыя рэчы мяжуюць разам... "Прыходзьце зранку, калі яшчэ няма мітусні", — параіла мне дырэктар незалежнай кінавідэастудыі "Таццяна" І. Пісьменная. Сустрэлі мяне І. Пісьменная і Б. Лобан (гэта яе карціны ўпрыгожваюць сцены студыі). "Даеш Таццянін дзень даўжынёю ў год", — згадаліся мне радкі з пажоўклай кінаафішы.***

**— У маі распачнецца юбілейны V Міжнародны фестываль жаночага кіно...**

**І. Пісьменная.** Гэты год вельмі складаны, таму мы хочам зрабіць невялікі фестываль. На мінулым кінафэсце нас вельмі падтрымаў швейцарскі фонд культуры "PRO HELVETIA", была магчымасць здымаць некалькі залаў і паказваць паасобна тры наміnацыі — ігравое, дакументальнае, анімацыйнае кіно. Сёлета мы арандуем толькі адзін кінатэатр — так робяць многія фестывалі. У V Міжнародным фестывалі жаночага кіно (МФЖК) возьмуць удзел прыкладна 60-70 фільмаў з Еўропы, Амерыкі, Азіі, Японіі. Гэта нямнога. Наогул сёлетні фестываль мае пэўны накірунак — кіно Усходняй Еўропы. Мы спадзяёмся, што да нас прыедуць кінематаграфісткі з Польшчы, Балгарыі, Румыніі, Чэхіі, якія амаль не ўдзельнічалі ў папярэдніх нашых кінафэстах. З 16 па 20 мая Мінск будзе сапраўдным еўрапейскім горадам.

Сёлета ў нас зноў будзе мужчынскае журы. Гэта ўжо традыцыя — жаночае кіно ацэньваюць мужчыны. У гэты раз у журы будзе М. Хуцыеў. Магчыма, прыедзе галандскі рэжысёр Т. Окерсан, а таксама — В. Рубінчык, якога мы лічым нашай "сяброўкай".

***З гісторыі фестывалю.***

*І Міжнародны фестываль жаночага кіно "Сакавіцкія кошкі" адбыўся ў сакавіку 1991 года. У ім удзельнічала толькі дзевяць кінематаграфістак з Беларусі і Расіі. Аднак фестываль зрабіўся папулярным (ён і дагэтуль адзіны ва Усходняй Еўропе), ужо ў III МФЖК (май 1995 года) бралі ўдзел 79 кінематаграфістак з 18 краін СНД, Еўропы, Амерыкі, Сярэдняй Азіі. Да жаночых фільмаў ніколі не ставіліся абыякава рэжысёры У. Мяншоў, М. Калік, В. Рубінчык, В. Нікіфараў, М. Пташук, В. Рыбараў, А. Карпаў, М. Ждануўскі, Ю. Хашчавацкі, І. Волчак, М. Тумеля.*

**— Цікава, каго з беларускіх жанчын-рэжысёраў будзе сёлета ацэньваць мужчынскае журы?**

**І. Пісьменная.** Справа ў тым, што зараз яшчэ працуе адборачная камісія. Я займаюся адборам дакументальнага кіно, Б. Лобан — анімацыйнага, а Т. Логінава — ігравога. У конкурснай праграме дакументальнага кіно плануе ўдзельнічаць малады рэжысёр І. Васільева. Нам спадабалася яе карціна. Зусім нядаўна паказвала ў студыі свой дэбютны фільм "Уцёкі" К. Анціпенка. Яна спрабуе рабіць аўтарскае, незвычайнае кіно. У першай сваёй карціне Карына паспрабавала расказаць пра тое, што яе хвалюе, — чатырнаццаціхвілінная стужка насычана глыбокім філасофскім зместам. Са сталых рэжысёраў возьме ўдзел Г. Адамовіч. Сёлета яна прапанавала нам вельмі цікавы фільм "Канікулы для сіраты". Зусім нядаўна прынесла анкету рэжысёр-дакументаліст Н. Гаркунова. Яе новая стужка "Мой пачатак" зроблена па матывах аўтабіяграфічнай кнігі М. Шагала "Маё жыццё". Нашы жанчыны-рэжысёры проста малайчыны! Пагадзіцеся, што ні на адным фестывалі не бывае чатырох прадстаўнікоў з адной краіны. Мы сваім не адмаўляем.

**Б. Лобан.** А вось жанчын-аніматараў удзельнічае не так многа. Два гады — гэта зусім маленькі прамежак і многія проста не паспяваюць зрабіць новыя стужкі, таму ўдзельнічаюць толькі праз фестываль. Сёлета Беларусь будуць прадстаўляць Т. Жыткоўская, Л. Гапузава, А. Турава. Л. Гапузава, як аўтар сцэнарыя і прадзюсер анімацыйнага фільма М. Тумелі.

**І. Пісьменная.** Што тычыцца ігравых карцін, то іх будзе не больш за пятнаццаць. Т. Логінава толькі вярнулася з Берлінскага кінафестывалю, прывезла цікавыя нямецкія карціны.

***З гісторыі фестывалю.***

*Беларускія жанчыны-рэжысёры паспяхова спаборнічаюць з калежанкамі з іншых краін. Гран-пры за лепшы ігравы фільм "Я — Іван, ты — Абрам" атрымала рэжысёр Й. Зоберман (III МФЖК, 1995 год). Спецыяльным прызам за лепшы дэбют III МФЖК ганаравана рэжысёр-дакументаліст Г. Адамовіч (стужка "Пакахай мяне чорненькім"). Прыз за лепшы анімацыйны фільм "Месяц" атрымала А. Пяткевіч (II МФЖК, 1993 год).*

**Б. Лобан.** Дарэчы, мы вельмі спадзяёмся, што прыйдзе той час, калі мы будзем запрашаць на наш фестываль толькі арыгінальныя карціны, якія дагэтуль не "пракатваліся" ні на адным кінафэсце. Пра гэта марыць кожны сур'ёзны фестываль.

**І. Пісьменная.** Думаю, што пасля V МФЖК адбудзецца нейкі пераварот, мы ўсё забудзем і нібыта пачнём спачатку, пастараемся, каб наш фестываль істотна адрозніваўся ад іншых. Першы крок мы ўжо зрабілі — пачалі запрашаць маладых рэжысёраў. Нам проста неабходны прарыў у другое вымярэнне, можа, не ў віртуальную рэальнасць, хаця пры нашым жыцці, лепш апынуцца ў ёй. Калі я кажу "пры нашым жыцці", то я не маю на ўвазе нашыя цяжкасці, бо нашыя цяжкасці — гэта нашыя радасці. Сустракацца з калегамі, глядзець іх фільмы — гэта сапраўдная духоўная падтрымка для нас. Ну няма грошай ці ёсць грошы, ад гэтага больш шчаслівым не зробішся, толькі фестывальных дзён будзе менш ці больш. Мы спадзяёмся, што сёлета нам дапаможа Саюз кінематаграфістаў. Прынамсі, ён абяцаў нам дапамогу, якую мы не атрымлівалі ад яго ніколі. Спадзяёмся і на Міністэрства культуры. Шмат гадоў мы дармова дапучалі яго да спісу заснавальнікаў фестывалю, не патрабуючы нічога...

**Б. Лобан.** І Саюз кінематаграфістаў таксама.

**І. Пісьменная.** А рабілі фестываль намаганнямі сямі чалавек. Напрыклад, на Берлінскім кінафестывалі працуе дзве тысячы чалавек, а на фестывалі ў Салатурне (Салатурн — гэта невялікі швейцарскі гарадок, дзе толькі трыццаць тысяч жыхароў) — каля тысячы. Пры гэтым Швейцарыя не мае ніводнай кінастудыі. А яшчэ нам вельмі дапамагаюць газеты.

**— Можа, ужо на V МФЖК мы ўбачым вашу дакументальную трылогію "Хто зможа вярнуць Еву ў рай"?**

**І. Пісьменная.** Зараз нам збіраецца дапамагчы маскоўскі фонд Макартураў, і мы, нарэшце, скончым гэту карціну. Праўда, здарылася так, што загінулі нашы галоўныя гераіні — Г. Старавойтава і Т. Дудко. У цяжэйшым становішчы знаходзіцца і Т. Віннікава, з якой мы ніяк не можам звязацца, бо яна ўвесь час знаходзіцца пад аховай. Усё гэта вельмі сумна, але для кіно, я баюся сказаць гэта слова, — цікава. Бачыце, на самай справе не так проста вярнуцца ў рай, шлях у рай высланы не ружамі. Пра ўсё гэта мы яшчэ будзем казаць у сваім фільме.

Сёлета студыя плануе запусціць дзве карціны сумесна з рэжысёрам Ю. Хашчавацкім. Адзін фільм мае назву "Дзеці рызыкі XXI стагоддзя". Другая стужка — "Нічые" будзе рабіцца па кнізе С. Алексіевіч "Чарнобыльская малітва".

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

УРАЖАННЕ

# Пяць "чорцікаў" і сіла кахання

У гэтым лялечным спектаклі ўсё прыгожае. Прыгожа і някідка выгараджана прастора сцэны — блакітнымі пласцінамі-шыбінамі, што стварае падабенства лёдавых сценаў. Прыгожа качаюцца па доле белыя шары і зіхцяць бенгальскі агонь у руцэ Снежнай каралевы. Сама яна настолькі вабная, што ад яе стройнага стану, карункавай шапачкі і пушыстай муфтачкі не адарваць вачэй. Прыгожа рухаюцца нават д'яблы ў пачварных масках (дзеці імгненна ахрысцілі іх "чорцікамі"). У воранаў незвычайныя, раскошныя крылы. Двойчы паўтораны эфектны прыём размахвання санкамі (з Каем) і карэтай (у ёй едзе Герда); гэта выдатна перадае імклівасць, неадольнасць руху. Музыка ўвогуле вышэй пахвал, яна "цягне" на маленькі балет, дзе ў кожнага з асноўных герояў — свая выразная запамінальная тэма.

Я пішу пра спектакль Дзяржаўнага тэатра лялек **"Гісторыя Снежнай каралевы, расказаная ёю самой"** (аўтар п'есы і рэжысёр А. Ляляўскі, мастак-пастаноўшчык А. Фаміна, кампазітар У. Кандрусевіч, балетмайстар В. Рэпіна).

Ад пачатку, як і належыць, увагу дзяцей прыцягвае галоўная гераіня-апавядальніца — Снежная каралева. З ёй суперніччаюць д'яблы, якія зладжана скачуць па сцэне і задаюць спектаклю тэмп і рытм. Потым адзін за адным на сцэне з'яўляюцца новыя незразумелыя персанажы — не то проста бабуля, не то ведзьма (у праграмцы — "Старушка, умеющая колдовать"), русалка, дзеля якой выносяць акварыум з рыбкамі, нейкія паненкі ў белым ("Умершие девушки"), шаманка з бубнам ("Женщина, заклинающая духов"), усходнія персанажы, з якіх адзін падобен на ёга, і г. д.

А дзе ж маленькія героі — Кай і Герда, спытаеце вы. Дзе гісторыя самааддання кахання, здольнага растапіць нават злядзянелае сэрца? На жаль, гісторыя гэтая абазначана адно на словах. Кая і Герду выносяць у вялікіх каробках, перад намі толькі сімвалы хлопчыка і дзяўчынкі — звычайныя "пупсы", адзін блакітны, другі ружовы. (Галасы гучаць з фанаграмы.) Ім з самага пачатку дадзена роля статыстаў. З такой трактоўкай можна было б пагадзіцца, калі б не адно істотнае "але": на вобразе Герды ў казцы Андэрсена ляжыць вялікая сэнсавая нагрузка. Дзяўчынцы шмат што трэба перадолець, каб знайсці Кая і забраць яго ад Снежнай каралевы. Аднак ад вобраза, створанага ў спектаклі, не выпадае чакаць чагосьці значнага: лялька ёсць лялька, у яе свой традыцыйны імідж, трывала замацаваны ў дзіцячай свядомасці. Да таго ж — хіба можа нерухомая дробная істота суперніччаць з жывой сексапільнай жанчынай? (Невыпадкова ў фінале плача не Герда, а Снежная каралева (В. Белаш), і самымі сапраўднымі слязамі!)

У гэтым, мне думаецца, галоўны "пракол" рэжысёра. Нядуалае мастацкае вырашэнне пары Кай — Герда абумовіла сабой і іншыя няўдачы, якімі спектакль па ходу дзеяння пачынае абрастаць, як снежны ком. Нялёгкі шлях Герды ў Лапландыю выглядае непераканаўча. Згубілася сярод іншага яе малюсенькая лодачка, цяжка зразумець, дзеля чаго так многа людзей, якую ролю адыгрываюць яны ў падарожжы дзяўчынкі. Тое, што мы бачым на сцэне, болей нагадвае канцэрт, чым звязную дзею. П'есы як такой не існуе, ёсць толькі шэраг персанажаў, якія праяўляюць сябе парай няўцямных фраз, песняй альбо скокамі. Нават Разбойніца прайшла без належнага эфекту, бо для яе не прыдумана ніводнага выразнага дыялога. Старанна перанесеныя з арыгінала галубы і паўночны алень мала чым дапамагаюць спектаклю.

У такім выпадку застаецца адно — "выезджаць" на тым, што Т. Гаробчанка ў аглядзе дзіцячых спектакляў назвала "агрэсіўнай візуальнасцю". Ад пачатку да канца скача і крыўляецца кампанія "чорцікаў" ("дьявол и его отражения"). Яны то суправаджаюць дзеянне, то выходзяць на пярэдні план, і настолькі запаланілі сабой прастору сцэны — пяцёра мужчынаў усё-такі! — што без усялякага сумнення запомняцца маленькім гледачам больш за ўсіх. Чаму яны пры канцы адпаўзаюць ад беднай распранутай лялькі, застаецца няясным. Адступілі перад сілай кахання? Памятаючы "Алавяная салдаціка", можна падумаць, што ў тэатра лялек з каханнем увогуле праблемы (як, дарэчы, і з Андэрсенам).

Не ўсё выверана і ў вобразе "халоднай красуні". Калі яна звезла хлопчыка з дому, то павінна, па ідэі, знаходзіцца з ім у сваім лёдавым палацы. Яна ж як бы ўсюдысіная: і з Каем бавіць час на канапе, і Герду бярэ на рукі падчас яе падарожжа. Ды яшчэ і люляе, шкадуе нібыта. Дык злая яна, скажыце, ці добрая? Шасцігодкі яшчэ не здольны бачыць паўтонаў — толькі чорнае і белае...

Урэшце ўсё скончылася добра. Каханне перамагло, прыляцелі анёлкі (ці амуры?), "салодкай парачцы" на той жа канапе "Неизвестный во фраке" (В. Шакаліда) падносіць букет ружаў. Снежная каралева дорыць яму партрэт дацкага казачніка, а сама адпраўляецца падарожнічаць па Еўропе. Прыемная справа, праўда? Былі б грошы...

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

## Свой голас

Аўгінні КАВАЛЮК — 65



**Першыя пробы пяра Аўгінні Кавалюк у свой час ухваліў Міхась Васілёк — тады будучая паэтэса вучылася ў Гродзенскім педагагічным інстытуце імя Янкі Купалы. А нарадзілася Яўгенія Трафімаўна непадалёку ад Гродна, у вёсцы Стральцы. Універсітэт скончыла ў 1959 годзе. Абставіны склаліся так, што вымушана была развітацца з Беларуссю. З 1959 па 1978 год настаўнічала ў Рызе (Латвія), пасля да 1982 года там жа працавала ў Міжгаліновым інстытуце павышэння кваліфікацыі спецыялістаў народнай гаспадаркі Латвіі. У 1987 годзе пераехала ў Санкт-Пецярбург, дзе і жыве па сённяшні дзень.**

**З першымі вершамі А. Кавалюк выступіла яшчэ ў 1952 годзе на старонках раённай газеты. А першай яе кнігай стаў зборнік для дзяцей "Белае дзіва", што выйшаў у 1964 годзе. Прыхільна была сустрэта чытачамі і крытыкай першая "Дарослая" кніга А. Кавалюк "Маўклівыя скарбы", якая пабачыла свет у 1966 годзе. Яўгенія Трафімаўна з'яўляецца таксама аўтарам кніг "Крона бурштыну" (1974), "Імгненняў след" (1987). Перакладае з латышскай мовы.**

**Лірычная гераіня А. Кавалюк — наша сучасніца, якая жыве ярка, дзейсна. Паэтэса вялікую ўвагу надае маральна-этычнай праблематыцы, апявае каханне, любоў да роднай зямлі.**

**З днём нараджэння, шаноўная Яўгенія Трафімаўна! Доўгіх год жыцця Вам і новых творчых поспехаў!**

## Чалавечы боль і жыватворнасць слова

**На пачатку сакавіка ў Гомельскай бібліятэцы імя Герцэна прайшла сустрэча чытачоў з беларускай пісьменніцай Святланай Алексіевіч. Яе знакамітыя кнігі "У вайны не жаночы твар", "Апошнія сведкі", "Цынкавыя хлопчыкі", "Зачараваныя смерцю", "Чарнобыльская малітва" ўвайшлі ў двухтомнік, які летась выпусціла маскоўскае выдавецтва "Остожье". Гэта пранізлівая споведзь пра чалавека, пра самыя глыбіні яго псіхалогіі, якая выяўляецца ў экстрэмальных умовах.**

**Кожная сустрэча са Святланай Алексіевіч, лаўрэатам некалькіх аўтарытэтных, у тым ліку і міжнародных прэмій, — гэта з'ява. Увабраўшы ў сваім сэрцы спрасаваны з цягам гадоў нясцерпны чалавечы боль, пісьменніца сваім талентам пераплавіла яго ў жыватворнасць мастацкага слова, якое кранае сваёй гарачынёй і шчырасцю, выклікае нашы роспач і роздумы.**

**Адбылася гаворка, у якой чытачы і пісьменніца імкнуліся вызначыць сэнс існавання чалавека, спасцігнуць сучасную рэчаіснасць...**

**Асэнсаванню часу і чалавека ў ім прысвечана і новая кніга Алексіевіч, аб рабоце над якой таксама ішла гаворка. "Цудоўны алень вечнага палявання" — такая назва чарговай кнігі людскіх споведзяў. На гэты раз даследуюцца лёсы закаханых, найвялікшыя перажыванні душы жанчыны і мужчыны.**

**Чытачы выказалі Святлане Алексіевіч пажаданні творчай нязгаснасці і захавання мужнасці ў яе самаадданай працы.**

**Алег АНАНЬЕЎ**

*"ЛіМ"—ФОТА*



*Нэлі Шчасная "Аўтапартрэт"*

**Фота Э. БЫХАЎЦА**

## "Улады павінны зразумець..."

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

этнакратычным плане, і найперш у дачыненні да нацыянальных адраджэнняў у бліжэйшым да Расіі замежжы, а ў самую першую чаргу да нацыянальнага адраджэння сваёй найбліжэйшай саюзніцы Беларусі, якая пакуль свае задачы не вырашыла і ўвогуле знаходзіцца сёння ў сітуацыі, калі вырашаць іх вельмі складана. Да беларускага нацыянальнага адраджэння Расія дагэтуль праяўляла дзіўныя з гледзішча здаровага сэнсу, а тым больш культурнага і палітычнага, няўвагу і абыякавасць. Прычым такую няўвагу праяўляла розная Расія. Расія Жырыноўскага, Зюганава, які ўзяў на ўзбраенне камуністычнай партыі працы буйнога расійскага філосафа, палітолага, але, як кажуць, махровага манархіста Івана Ільіна. І, на жаль, Расія Гайдара і Чубайса.

Дарэчы, калі я спытаўся нядаўна ў брата Анатоля Чубайса — Ігара Чубайса, які сёння ўзначальвае адзін з расійскіх часопісаў і займае выразна русафільскія пазіцыі, чаму яны нічога не пішуць на тэму ўкраінскага, беларускага нацыянальнага адраджэння, ён адказаў мне — нам бы з самімі сабою разабрацца... Але хіба магчыма разабрацца з самім сабою, не зважаючы на тое, што вакол нас?

Гэта, на маю думку, тыповы сіндром вялікадзяржаўнасці. Маўляў, мы самадастатковая сістэма... У канцы 20-га стагоддзя ўжо няма і не можа быць самадастатковых, замкнутых этнасістэм.

Адным словам, усе расійскія колы, у тым ліку і афіцыйныя, апынуліся ўбаку ад праблемаў вашага нацыянальнага адраджэння, ад абароны гінучай мовы самага блізкага этнасу, якую, я перакананы, Расія павінна абараняць. Абараняць існуючую на гэтай мове этнакультуру, як адну з апошніх чыстых крыніц славянскай культуры. Мы аказаліся ўбаку ад удзелу свайго ў абуджэнні і пашырэнні этнакультурнай самасвядомасці сапраўды брацкага народа, якая сёння крытычна і небяспечна аслабленая! Гэта менавіта Расія, Расія розная — ад правых да левых, ад грамадскіх колаў да афіцыйных, — павінна быць крэўна зацікаўленая ў захаванні блізкага этнасу. Гэта менавіта Расія павінна сёння ўголас спытаць у кіруючай беларускай эліты: "Што ж вы, браткі, робіце?!..."

Хочацца верыць, што над палітычнай кан'юнктурай пераважыць сапраўдная брацкая дружба нашых народаў, якая, я ў гэтым упэўнены, не згіне ні пры якіх палітычных рэжымах і ўладах.

**Гутарыў Алесь ЛІХАВЕЦ**

## ГУЛЬНЯ Ў ХОВАНКІ

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

"Прыцiхні. Надакучыла з табой спрачацца. Няўжо не абрыдла ўсё пасыпаць сажыстым парашком? Мы ж адно цэлае. Ці не так? — Ён не адрывае вачэй ад ракавіны, у якую цурчыць струмень халоднай вады з крана.

"Памыляешся. — Пляшывы карлік у мазгу аж захліпваецца ад здушлівага смеху. — Кожны сам па сабе. Цяпер няма зліцця ў адно ў людскіх натурах. Ні ў кога! Чаму ж ты павінен быць выключэннем? Мы падзелены на белае і чорнае. А дзённая шэрасць масак — гэта ўсяго толькі547 кактэйль."

Ён і сам адчуваў побач з сабою паласу светлага спакою і вязкую глыбіню ачмурэлай цемры. Яно (белае і чорнае) нібы дзяліла яго цела і душу напалам. У тыя дні, калі святло перамагала і адсоўвала густую аўчыну цёмнага, ён весялеў, вочы ажывалі, парасткам з-пад маскі прабівалася жывая, чалавечая ўсмешка. Прыцішваўся і паскудна-надакучлівы голас карліка ў галаве. Але, вось, па невядомай прычыне ў яго мяняўся настрой. быццам няпрошаны і гуллівы вецер прыносіў з-за небасхілу навальнічную хмару і закрываў ёю іскрыстае вока сонца. Ён мяняўся і яму, здавалася, што нацягвае на ўсю сваю істоту задубелы і заплеснявелы, пабіты моллю кажух. Чорны кажух абыякавасці, злосці і яхідства. І яшчэ ён не любіў людзей з халоднымі далонямі і масляніста-бегаючымі зрэнкамі. Лепш пустата ў вачах, чым віхляста-вінаваты позірк. Гэта нішто іншае, як гульні ў хованкі самога з сабою...

Званок у дзверы. Цягучы і доўгі. Званок разганяе цішыню глыбокага вечара па кутках кватэры. Але ён нікога не чакае і таму нерухома сядзіць за кухонным сталом з цыгарэтай у зубах. Лёгкі дымок тытуню шчыпле ноздры, павісае на вейках і распаўзаецца пад столлю. Званок не змаўкае. Позна ўжо. У такі час можа турбаваць толькі сусед па лесвічнай пляцоўцы. Відаць, што праспаўся. Гарэць вантробы, а патушыць няма чым.

"Не, толькі не гэта. Абрыдла слухаць алкагольную ачмуранасць таўстуна. Ягоныя праблемы няхай застануцца для яго невырашальнымі. — Ён няспешна, абыякава падыходзіць да дзвярэй і адключае званок-назолу. Цішыня, спалохана азіраючыся, зноўку выпаўзае з куткоў і запаўняе кватэру. Ён ляніва, быццам сыты кот, тэпае да ракавіны, выключае танюткі ручаёк з крана, гасіць святло на кухні і прабіраецца па слепаватай прыхожай да канапы. Яна не заслана. Кладзецца, нацягвае да самага падбародка ватнюю коўдру і змружвае вейкі. Самыя шчаслівыя хвіліны за цалюткі дзень. Сон бязважкай пуховай пярынай накрывае цела. Ён усміхаецца змроку і цемры. Ён шчаслівы...

МЕРКАВАННЕ

Ігнат ДУБРОЎСКІ

# Дай галоднаму вуду, а не рыбу



ГУТАРКА ў гэтым артыкуле пойдзе пра некаторыя, на маё перакананне, важныя пытанні перабудовы сельскай гаспадаркі, аб праграме яе рэформы.

Стратэгічную задачу вызначыў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнка ў сваім выступленні на ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным 155-годдзю Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі: "Ператварыць сельскую гаспадарку ў дынамічна развітую галіну нацыянальнай эканомікі, забяспечыць харчовую бяспечнасць дзяржавы, захаваць і мадэрнізаваць сацыяльную інфраструктуру вёскі". На нарадзе ў Гродне ў сакавіку 1998 года ён удакладніў сваю канцэпцыю рэформы сельскай гаспадаркі, выказаўся за захаванне і далейшае развіццё калгасаў і саўгасаў, фермерскіх гаспадарак. "У калгасах і саўгасах сфарміравалася найбольш спрыяльнае асяроддзе чалавечага пражывання з развітой сацыяльна-культурнай, адукацыйнай і медыцынскай інфраструктурай". "Не трэба так рэфармаваць вёску, каб забыць усё тое, што мы накапілі за апошняе стагоддзе, дзесяцігоддзі савецкага перыяду".

Гэта рэальнае, навукова абгрунтаванае вызначэнне стратэгічнай задачы. Трэба толькі распрацаваць метады, канцэпцыю яе вырашэння. Для гэтага неабходна даць навуковую ацэнку стану сельскай гаспадаркі ў гістарычным аспекце і ў перспектыве яе развіцця.

Прэзідэнт у сваіх выступленнях неаднойчы звяртаўся да вучоных і спецыялістаў сельскай гаспадаркі выказаць свае думкі, свае прапановы на распрацоўку форм рэарганізацыі сельскай гаспадаркі, распрацоўку механізму па ператварэнні яе ў дынамічна развітую галіну нацыянальнай эканомікі. Хачу і я выказаць свае прапановы па вырашэнні гэтай важнай праблемы.

Складваецца ўражанне, што за спіной Прэзідэнта ідзе разбурэнне калгасаў і саўгасаў шляхам дзялення іх маёмасці на асабовыя долевыя паі. Долевыя паі — нішто іншае, як разнавіднасць акцый.

Прывяду адзін прыклад такой рэформы. Мінсельгасхарч перавёў калгас імя Калініна Нясвіжскага раёна на асабовыя долевыя паі. Гэты калгас — адна з лепшых гаспадарак Беларусі, якая не мае ніякай патрэбы ў перабудове. Ураджаі збожжавых культур тут складаюць 40—50 цэнтнераў з гектара, надоі — каля 6 тысяч кілаграмаў малака ад каровы за год. Калгас мае прадпрыемствы па перапрацоўцы сваёй сыравіны. Вырабляе на сваіх прадпрыемствах звыш 40 відаў мяса-малочнай прадукцыі.

Маёмасць калгаса падзялілі не па роўнай долі, а ў залежнасці ад велічыні стажу. Быў вызначаны мінімальны. У каго працоўны стаж быў ніжэй мінімальнага, той пазбаўляўся права на долевыя паі. У калгасе імя Калініна каля 300 калгаснікаў не атрымалі долевых паёў, гэта пераважна моладзь. Адпрэчана ад кіраўніцтва гаспадаркай самая працаздольная, самая актыўная частка працоўнага калектыву, тая яго частка, якая вызначае лёс гаспадаркі.

Самае галоўнае багацце, якога дасягнуў калгасны лад пры савецкай уладзе, — гэта стварэнне працавітых, маналітна-дружных калектываў. У гэтых калектывах усе члены былі раўнапраўныя. Праведзеная перабудова ў калгасе імя Калініна разбурыла дружны згуртаваны калектыў калгаснікаў, сацыяльную справядлівасць замяніла дыферэнцыяцыяй на багатых, бедных і безмаёмасных парабкаў. А ў друку заявілі, што калгас імя Калініна захаваўся як калектыўная гаспадарка. Цяпер гэта гаспадарка не калгас, яна грунтуецца не на калектыўнай уласнасці, а на складчыне прыватнай уласнасці, цяпер тут будзе гаспадарыць капітал, а не працоўныя.

Чаму б для правядзення падобнага эксперыменту не ўзяць калгас, які стаіць на грані банкруцтва, падзяліць яго маёмасць на паі і пераканацца, памагае ці не такая рэформа яго ўздыму? Дык не, бяруць багаты калгас, які ўзняў эканоміку, пераадолеў крызіс, а рэфарматары дасягнутыя поспехі на аснове заканамернасцяў калгаснай уласнасці прыпісваюць супрацьлеглай сістэме і паказваюць, якія высокія вынікі дае долевая сістэма. Гэта не навука, а кашчунства.

Што ж уяўляе сабой сельская гаспадарка, як галіна вытворчасці, сёння? Характэрнай яе рысай з'яўляецца **незавершанасць вытворчасці**. Яна адносіцца да галін, здабываючых сыравіну, не дае гатовай для спажывання прадукцыі.

**Незавершанасць сельскагаспадарчай вытворчасці адвечна была і застаецца вялікай бядой сялянства.** Аднаасобная сялянская гаспадарка, у сілу сваіх дробных памераў, не ў стане была арганізаваць перапрацоўку сваёй сыравіны. З'явіліся пасрэднікі, якія за бясцэнак скуплялі ў сялян сыравіну, перапрацоўвалі яе на сваіх саматужных прадпрыемствах і па высокіх цэнах прадавалі гатовую прадукцыю спажыўцам. Праз нізкія цэны на сыравіну пасрэднікі пераганялі ў сваю карысць да дзвюх трэціх частак вартасці, створанай сялянамі.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, у перыяд нэпа, сяляне пры актыўным удзеле таго ж прафесара Чаянава сталі ствараць кааператыўныя таварыствы па перапрацоўцы сельскагаспадарчай сыравіны — малочна-мясныя, бульбяна-крухмальныя, па першаснай апрацоўцы лёну, пладова-гароднінныя і іншыя. І ў Беларусі арганізацыя такіх таварыстваў мела шырокую распаўсюджанасць. Асноўнай мэтай таварыстваў па перапрацоўцы сыравіны было — "выдаліць пасрэднікаў між спажыўцом і вытворцам", сцвярджаў вядомы рускі эканаміст А. Чаянаў.

Як пацвярджае вучоны, прыбытак сялянскіх гаспадарак праз перапрацоўку сваёй сыравіны на сваіх кааператыўных прадпрыемствах павялічўыся ў два-тры разы. Перапрацоўчая кааперацыя змагла за кошт сваіх накапленняў ствараць крэдытныя кааператыўныя таварыствы, перайсці на таннае самафінансаванне сельскай гаспадаркі.

З калектывізацыяй сельскай гаспадаркі ўсе кааператыўныя прадпрыемствы па перапрацоўцы сельскагаспадарчай сыравіны былі перададзены дзяржаве.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны ў калгасах і саўгасах сталі стварацца цэхі або дробныя прадпрыемствы па перапрацоўцы сваёй сыравіны. Але ствараліся яны не на кааператыўнай аснове, а як ўнутрыгаспадарчыя, і не вырашалі ўсёй праблемы перапрацоўкі сыравіны.

Зараз у нас існуе сістэма "аграпрама". Але гэта фікцыя, ніякага "аграпрама" ў нас няма. Ёсць "агра" і ёсць "прам". Яны не прадстаўляюць сабой арганічна цэласнай сістэмы. Узаемаадносіны іх больш антаганістычныя. "Прам" адкрыта абірае "агра" праз непарытэт цэн. "У нас ёсць таксама рэзервы, якія сёння "з'ядаюцца" перапрацоўшчыкамі, так званымі сумежнікамі", — адзначае Прэзідэнт.

Ёсць і прамое рабаўніцтва калгасаў і саўгасаў нарыхтоўчымі пунктамі. Як ні чысці, як ні сартуй збожжа ці бульбу, альбо льнотрасту, на прыёмным пункце ацэняць яе як недаведзеную да кандыцыі і паменшаць колькасць здаваемай прадукцыі.

Як жа звязаць у адзін ланцужок вырошчванне сельскагаспадарчай сыравіны і яе перапрацоўку? Як пазбавіць калгасы і саўгасы ад бязвыплатнага абдзірання, якое завяло іх у зацяжны крызіс? **Ёсць адзінае выйсце — рэфарміраваць сельскую гаспадарку з незавершанага ў завершаны тып вытворчасці, якая будзе выпускаць не сыравіну, а гатовую да спажывання прадукцыю і паўфабрыкаты.** Карацей кажучы, трэба адпрэчыць усялякіх пасрэднікаў па перапрацоўцы і перапродажу сельскагаспадарчай сыравіны. Яе павінны перапрацоўваць самі сяляне.

Такое ператварэнне сельскай гаспадаркі можа быць дасягнута шляхам арганічнага аб'яднання, зліцця ў адно гаспадарчае цэлае, у адну непадзельную сістэму сельскую гаспадарку і перапрацоўчую прамысловасць на кааператыўнай аснове. Калгасы, саўгасы, фермерскія гаспадаркі арганізуюцца ў кааператыўныя таварыствы па відах перапрацоўваемай сыравіны: мяса-малочныя, крухмала-бульбяныя, ільноперапрацоўчыя і іншыя таварыствы. Гэтым таварыствам перадаюцца адпаведныя дзяржаўныя прадпрыемствы па перапрацоўцы сельскагаспадарчай сыравіны. Памеры такіх таварыстваў будуць вызначацца сыравіннымі зонамі перапрацоўчых прадпрыемстваў.

Членамі таварыстваў стануць калгасы, саўгасы, фермерскія гаспадаркі, як юрыдычныя асобы. Гаспадаркі гэтых юрыдычных членаў таварыстваў — раслінаводства, жывёлагадоўля — застаюцца самастойнымі, вядуць свае галіны па-ранейшаму незалежна. Яны аб'ядноўваюцца ў таварыствы толькі для перапрацоўкі сваёй сыравіны. Агульнай кааператыўнай уласнасцю кожнага таварыства будзе адно перапрацоўчае прадпрыемства. Кожны калгас, саўгас, фермерская гаспадарка, як юрыдычныя асобы, будуць членамі некалькіх таварыстваў, у залежнасці ад колькасці відаў сыравіны.

Юрыдычныя члены таварыстваў не прадаюць сваю сыравіну сваім перапрацоўчым прадпрыемствам, а здаюць як давальную сыравіну на перапрацоўку. Прыёмныя пункты перапрацоўчых прадпрыемстваў прымаюць сыравіну, заносяць яе на асабовы рахунак гаспадаркі, вызначыўшы колькасць, якасць і кошт сыравіны. Цяпер нярэдка на закуп сыравіны не хапае сродкаў, заводы стаяць, а ў полі гніе бульба, псуецца льнотраста. Перапрацоўка сыравіны на кааператыўных прадпрыемствах выключае патрэбу ў грашах на яе закуп. А гэта эканомія трыльёнаў і трыльёнаў рублёў.

Рэалізацыя гатовай прадукцыі можа весціся праз гандлёвыя кропкі саміх таварыстваў у гарадах і населеных пунктах, або збывацца аптовым гандлёвым арганізацыям. Пасля перапрацоўкі і рэалізацыі гатовай прадукцыі здатчыку выплачваецца кошт здадзенай сыравіны і адпаведна прапарцыянальная частка прыбытку з вылічэннем на ўтрыманне прадпрыемства, развіццё яго, удасканаленне тэхналогіі. Падаткі ад прыбыткаў перапрацоўкі выплачваюць дзяржаве юрыдычныя члены аб'яднанняў.

Трэба адзначыць, што існуюць два тыпы першасных вытворчых кааператываў.

**Першы тып** — працоўныя вытворчыя кааператывы, у аснове якіх размеркаванне прыбытку робіцца прапарцыянальна перапрацаванай сыравіны, гэта значыць на працоўнай аснове. Уступныя паявыя ўзносы ў такіх кааператывах (таварыствах) маюць характар стварэння сродкаў для арганізацыі гаспадарчай дзейнасці. У такіх кааператывах "капітал — служка, а не гаспадар. Таму і кіраванне справамі такое, што кіруюць не прадстаўнікі капіталу (...), а працоўныя гаспадаркі, для абслугоўвання патрэб якіх узнік і існуе кааператыў" (А. Чаянаў).

**Другі тып** вытворчага кааператыву заснаваны на прынцыпах прыватнай уласнасці. У кааператыве гэтага тыпу рашаючае значэнне маюць памеры паёў або кошт акцый. Тут, карыстаючыся тэрміналогіяй Чаянава, гаспадаром з'яўляецца капітал, а працоўныя — яго служкі. Такая кааперацыя для перабудовы нашай сельскай гаспадаркі непрымальная. Пры сучасным нізкім узроўні прыбыткаў калгасаў і саўгасаў усе яны пойдуць на выплату дывідэндаў. Пры нізкім узроўні дывідэндаў будзе масавы продаж акцый. У чые рукі яны трапяць, можна вызначыць беспамылкова. Акцыянерныя таварыствы (кааператывы) у сельскай гаспадарцы дадуць магчымасць "адмываць" накрадзеныя ў дзяржавы і нарабаваныя ў народа грошы.

Галоўнай прычынай крызісу, заняпаду сельскай гаспадаркі з'яўляецца непарытэт цэн. Цэны на прамысловыя вырабы, якія скарыстоўваюцца ў сельскагаспадарчай вытворчасці, занадта высокія, а цэны на прадукцыю сельскай гаспадаркі заніжаны — да ўзроўню сабекошту і нават ніжэй. Гэтай галоўнай прычыне адсталасці сельскай гаспадаркі спадарожнічаюць і іншыя аб'ектыўныя і суб'ектыўныя прычыны эпізадычнага характару.

Дыспарытэт цэн — гістарычная з'ява, ён уласцівы не толькі Беларусі і краінам СНД, ён быў і ў Савецкім Саюзе. Разбурэнне СССР абвастрыла разбежку цэн. Была няроўнасць цэн і да рэвалюцыі, у царскай Расіі. Больш за тое, дыспарытэт цэн мае глабальны характар, ён праяўляецца амаль ва ўсіх краінах свету. Многія краіны даюць сельскай гаспадарцы салідныя датацыі, каб пакрыць страты ад няроўнасці цэн.

Узнік дыспарытэт цэн у той даўні старажытны перыяд развіцця чалавечага грамадства, калі прамысловасць аддзялілася ад сельскай гаспадаркі. Дробныя аднаасобныя сялянскія гаспадаркі па прычыне нізкай тэхнічнай асновы і абмежаваных эканамічных умоў не маглі перапрацоўваць сваю сыравіну. У выніку гэтага з'явіліся пасрэднікі па перапрацоўцы раслiннай і жывёлагадоўчай сыравіны. У сілу гэтага сельская гаспадарка пайшла па шляху развіцця незавершанай вытворчасці. Такой застаецца яна і сёння. Перапрацоўчыя прадпрыемствы набылі манапольнае права дыктаваць цэны на сельскагаспадарчую сыравіну. Гэтыя прадпрыемствы аддзялілі сельскую гаспадарку ад спажывецкага рынку. Яна набыла застойны, прыгнечаны характар развіцця.

Працэс інтэграцыі перапрацоўчай прамысловасці з сельскай гаспадаркай — гістарычны працэс глабальнага маштабу. Ён не мог пачацца раней з прычыны нізкага тэхнічнага ўзроўню гэтай галіны вытворчасці. Цяпер, калі сельская гаспадарка дасягнула высокага тэхнічнага ўзроўню, з укараненнем аўтаматызацыі, камп'ютэрызацыі, электроннай тэхнікі, настаў час пераходу яе ад незавершанай да завершанай вытворчасці, да перапрацоўкі сыравіны самой сельскай гаспадаркай з непасрэдным выхадам на спажывецкі рынак.

Працэс пераходу сельскай гаспадаркі ад незавершанай вытворчасці да вытворчасці гатовай для спажывання прадукцыі пачаўся і ў нас, але развіваецца ён стыхійна. Калгасы і саўгасы сталі самі, па сваёй ініцыятыве, ствараць цэхі і прадпрыемствы па перапрацоўцы сваёй сыравіны. Але не на кааператыўнай аснове, а ўнутрыгаспадарчыя, што не вырашае ўсёй праблемы выхаду сельскай гаспадаркі з крызісу.

Старшыня Наваградскага райвыканкама А. Ліс заяўляе, спасылаючыся на свой вопыт, што сёння ў раёне ўстойліва трымаюцца і развіваюцца тыя калгасы і саўгасы, якія пабудавалі прадпрыемствы і маюць гандлёвыя кропкі ў горадзе. "Па нашых падліках, — заяўляе А. Ліс, — такія гаспадаркі, толькі дзякуючы перапрацоўцы сваёй сыравіны і продажу гатовай прадукцыі, маюць 50-60 працэнтаў рэнтабельнасці". Такіх прыкладаў можна прывесці шмат. Ці не вызначаюць гэтыя прыклады шлях, па якім павінна ісці перабудова ўсёй сельскай гаспадаркі?

Цяпер практыкуецца прымацаванне слабых калгасаў да прамысловых прадпрыемстваў. Такія мерапрыемствы, як і дзяржаўная грашовая дапамога, забяспечваюць правядзенне пасяўной і ўборачнай кампаній, а далей з'явяцца тыя ж пасрэднікі і за бясцэнак забяруць сыравіну. Такая дапамога ідзе ў большай меры на карысць пасрэднікам, чым калгасам. Ёсць народная прымаўка: "Калі хочаш накарміць рыбай галоднага — не давай яму рыбы, а дай вуду". Маючы вуду, ён заўсёды будзе з рыбай. Так і тут. Лепш было б, каб прамысловасць дапамагла слабым калгасам і саўгасам пабудаваць перапрацоўчыя прадпрыемствы. Яны праз год выйшлі б на шлях устойлівага ўздыму вытворчасці.

Мінсельгасхарч мяркуе аб'явіць банкруцтва і правесці санацыі заняпалых калгасаў. Такая цяжкая аперацыя нічога не дасць, бо яна не ліквідуе галоўнай прычыны ўпадку вытворчасці — непарытэт цэн. Застануцца і пасрэднікі, якія "з'ядаюць" прыбыткі калгасаў. У выніку такой перабудовы можа здарыцца, што праз дватры гады гэтыя ж калгасы зноў давядзецца аб'яўляць банкрутамі і праводзіць санацыі. Так было пры савецкай уладзе. З калгасаў спісвалася запазычанасць дзяржаве, а праз два-тры гады запазычанасць вырастала зноў, бо прычына, якая вяла да запазычанасці — непарытэт цэн, — заставалася дзейнічаць па-ранейшаму. Ці не лепш у калгасах, якія стаяць на мяжы краху, замест санацый будаваць перапрацоўчыя прадпрыемствы?

Варта было б правесці такі эксперымент: арганізаваць два кааператыўныя таварыствы, аднаму з іх перадаць ільнозавод, другому — мяса-малочны завод. Упэўнены, што праз адзін год яны далі б станоўчыя вынікі.

Мінсельгаспрам мяркуе правесці акцыяніраванне перапрацоўчых прадпрыемстваў. Гэта можа толькі пагоршыць становішча сельскай гаспадаркі. З'явяцца акцыянеры — фізічныя асобы, якіх Чаянаў называў "п'яўкамі" і якія будуць высмоктваць сокі з сельскай гаспадаркі. Становішча не палепшыць і перадача 40 працэнтаў акцый вытворцам. На руках у фізічных акцыянераў застанецца 60 працэнтаў акцый. Львіную долю дывідэндаў забяруць яны. Грошы гэтыя ўжо ніколі не вернуцца ў сельскую гаспадарку, яны будуць вымывацца з сельскагаспадарчага фінансавага патоку і скарыстоўвацца на разбэшчанае жыццё, на будаўніцтва катэджаў, на Канарскія астравы. Акцыяніраванне будзе спрыяць абвастрэнню крымінальнай абстаноўкі ў краіне, спрыяць адмыванню "брудных" грошай.

Працоўная вытворчая кааперацыя начыста выключае ўсялякіх пасрэднікаў — ад дзяржаўных перапрацоўчых прадпрыемстваў да жулля. Яна будзе спрыяць далучэнню сельскай гаспадаркі да шырокага спажывецкага рынку, што павялічыць прыбыткі калгасаў, саўгасаў, фермераў у 2-3 разы і тым у значнай меры выраўняе дыспарытэт цэн. Адпадзе неабходнасць кожны год збіраць грошы на правядзенне пасяўных і ўборачных кампаній. Прыбыткі ад перапрацоўкі сельскагаспадарчай сыравіны не будуць вымывацца з фінансавага патоку, а цалкам пойдуць на павелічэнне вытворчасці, павышэнне аплаты працы сялян, на паляпшэнне сацыяльна-культурных умоў жыцця вёскі.

Арганічнае аб'яднанне перапрацоўчых прадпрыемстваў з калгасамі, саўгасамі, фермерскімі гаспадаркамі не кампанія, а працяглы працэс, якім павінна кіраваць дзяржава. Такое аб'яднанне запатрабуе пераносу перапрацоўчых прадпрыемстваў з буйных гарадоў на перыферыю. Аб'яднаць вытворчую дзейнасць перапрацоўчых прадпрыемстваў можна і мэтазгодна ў два-тры гады. Перанос жа гэтых прадпрыемстваў з гарадоў у сельскую мясцовасць будзе доўжыцца дзесяцігоддзі. Перанос іх будзе ажыццяўляцца па меры зносу тэхнічнага абсталявання гарадскіх прадпрыемстваў і па меры будаўніцтва новых у вясковай мясцовасці.

Перанос указаных прадпрыемстваў палепшыць экалогію гарадоў, рэзка скароціць транспартныя выдаткі на перавоз сыравіны, скароціць страты сыравіны, значна павялічыць кармавыя фонды сельскай гаспадаркі за кошт адходаў вытворчасці.



ЧАСАПІС

## *Праўдзіва і сумленна*

Міхасю КЛЕБАНОВІЧУ — 65



**Менавіта так назвала сваю рэцэнзію на кнігу Міхася Клебановіча "Ранішняе сонца", з якой выступіла ў трэцім нумары часопіса "Полымя" за 1983 год, Тацццяна Шамякіна, тым самым падкрэсліўшы не толькі мастацкія вартасці прозы пісьменніка, а і яго прынцыповасць у адлюстраванні рэчаіснасці. А словы, вынесеныя ў загаловак водгуку крытыка, добра стасуюцца і да ўсяго жыццёвага і творчага шляху М. Клебановіча.**

**Нарадзіўся будучы пісьменнік у вёсцы Грэск цяперашняга Слуцкага раёна. У 1957 годзе скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта і быў накіраваны на тэлебачанне. Працаваў рэдактарам ваенных перадач, старшым рэдактарам рэдакцыі сельскагаспадарчых перадач, старшым рэдактарам рэдакцыі "Тэлефільм", членам сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі галоўнай рэдакцыі "Тэлефільм". Ярка праявіліся прафесійныя і арганізатарскія здольнасці М. Клебановіча на пасадзе галоўнага рэдактара сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі рэспубліканскага тэлебачання і Дзяржтэлерадыё Беларусі.**

**Пачынаў М. Клебановіч свой творчы шлях з карэспандэнцый, замалёвак, нарысаў, напісання сцэнарыяў тэлевізійных перадач. У 1962 годзе на тэлебачанні была пастаўлена яго п'еса "Апляўха". Да жанру апавядання, аповесці звярнуўся ў канцы 1960-х гадоў. Друкаваўся ў часопісах "Полымя", "Нёман", "Беларусь". Згаданая кніга "Ранішняе сонца" выйшла ў 1981 годзе. Творы М. Клебановіча прываблваюць псіхалагічна выпісанымі, па-сапраўднаму народнымі характарамі, добрым веданнем аўтарам жыцця беларускай вёскі, дакладным адчуваннем мовы.**

**Вядомы М. Клебановіч і як сцэнарыст некалькіх дакументальных фільмаў, а тэлефільм "Размова пра зямлю" ў свой час быў адзначаны прэміяй на Усесаюзным фестывалі.**

**Віншуючы Міхаіла Іванавіча з 65-годдзем, зычым яму далейшых жыццёвых і творчых поспехаў!**

## *Традыцыйная, штогодняя*

**У перадсвяточныя і святочныя дні ў Палацы мастацтваў праходзіла выстава, прысвечаная 8 Сакавіка. Усе ўдзельнікі выставы — жанчыны. Гэта выстава традыцыйная, праводзіцца не першы раз. Такім чынам, Беларускі саюз мастакоў адзначае Міжнародны жаночы дзень.**

**Хоць выставу і нельга назваць мастацкай падзеяй года, зацікаўленага гледача яна не расчаравала б. Што ні кажы, а ментальнасць — адзін з асноўных, вызначальных элементаў творчасці. Жаночая ментальнасць своеасаблівым чынам адбіваецца ў палотнах, графічных аркушах, дэкаратыўна-ўжытковым мастацтве гэтай выставы. Жанчын звычайна менш цікавіць палітыка і ўвогуле сацыяльная тэматыка. Іхнія творы больш "цёплыя", нават калі гэта краявід альбо нацюрморт.**

**6 сакавіка кіраўніцтва Беларускага саюза мастакоў наладзіла для "лепшай паловы" творчага саюза сустрэчу і фуршэт. Пранікнёнае слова на сустрэчы ад імя мужчын БСМ сказаў сп. Г. Буралкін. Ад "братняга" Саюза архітэктараў выступіў сп. Я. Кавалеўскі. Аналагічная выстава, некамерцыйная і "несправаздачная" характару, плануецца і на наступны год.**

**П. В.**

1799-1999

# Францішак Багушэвіч і Пушкін

Гэтыя два імёны ніколі яшчэ ў нашым літаратуразнаўстве не ставіліся побач. А дарэмна! Францішак Багушэвіч лічыў Пушкіна найвыдатным паэтам. Менавіта так ён назваў Пушкіна ў невялікім допісе, змешчаным у пятым нумары часопіса "Kraj" за 1887 год, калі грамадскасць Расіі адзначала пяцідзесятыя ўгодкі з дня трагічнай смерці вялікага рускага паэта. Вільня, у якой жыў тады Багушэвіч, таксама рыхтавалася адзначыць гэтую трагічную дату. Пра гэта ён і паведаміў у часопісе "Край": "Памяць найвыдатнейшага расійскага паэта будзе ўшанавана ў дзень яго смерці жалобным набажэнствам у царкве Св. Духа, а можа, нават і ў Пятніцкай царкве, дзе Пётр Вялікі хрысціў яго дзеда Ганібала". Нататка была падпісана любімым Багушэвічавым журналісцкім псеўданімам В. Huscicz.

Паблізу Вільні была яшчэ адна мясціна, якая нагадвала пра Пушкіна, — сядзіба малодшага сына Пушкіна Грыгорыя, які ў канцы XIX стагоддзя пераехаў з Міхайлаўскага пад Вільню. Багушэвіч часта шпацыраваў у прадмесцях горада, таму добра ведаў і гэтую мясціну. Яму было цікава, што род Пушкіна так моцна знітаваны з Беларуссю. Пушкіны на Магілёўшчыне, Пушкіны ў Цялушы, Пушкіны пад Вільняй, Пушкіны — па ўсёй Беларусі... Казалі, што і ягоны Дуброўскі з Беларусі. І само прозвішча ад беларускага слова "пушачка" — круглага пляскатага карабка з-пад гуталіну, вазеліну...

Пушкін ведаў Беларусь, беларусаў,называў іх "народом издревле нам родным..."

У 1899 годзе святкавалася сотая гадавіна з дня народзінаў Пушкіна. Багушэвіч тады жыў у Кушлянах. Рэха юбілею праз газеты даходзіла і да яго. Пачытаўшы юбілейныя весткі, паморшчыўся ад немачы, пашкадаваў, што не ў Вільні, не разам са сваімі пабрацімцамі, і што не можа далучыцца да ўрачыстасці. Адно льга было — узяць пушкінскі томік, пагартаць, асвяжыць у памяці водар яго паэзіі, што ён і зрабіў, калі аціх на хвіліну-другую боль нырак...

У 1948 годзе колішняя сядзіба сына Пушкіна пад Вільняй была абвешчана Літаратурным музеем А. Пушкіна. Там неаднойчы ладзіліся вечарыны і выставы ў гонар і Ф. Багушэвіча. Так, прыкладам, было ў красавіку 1965 года. Віленскія "Вечаровыя навіны" ("Вакарынес наўенос") тады пісала: "Сёлета ў сакавіку споўнілася 125 гадоў, калі нарадзіўся беларускі паэт Францішак Багушэвіч, які жыў і працаваў ў Вільні. Літаратурны музей імя А. С. Пушкіна з гэтай нагоды арганізаваў выставу "Ф. Багушэвіч у Вільні". На выставе экспануецца шмат новых дакументаў, якія дасталі з Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва Літоўскай ССР, ад даследчыка жыцця і літаратурнай дзейнасці Ф. Багушэвіча Г. Кісялёва і іншых крыніц. Сярод экспанатаў — зборнік Багушэвічавай паэзіі "Смык Беларускі" і "Дудка Беларуская"... Нататка заканчвалася так: "Творчасць і дзейнасць сына братэрскага беларускага народа Ф. Багушэвіча ўнесла немалы ўклад у агульнае змаганне ўсіх прыгнечаных народаў царскай Расіі супраць сацыяльнай няроўнасці, вартая ўвагі нашага грамадства". Аўтар нататкі — К. Петкавічэне, навуковая супрацоўніца Літаратурнага музея імя А. С. Пушкіна.

Гэты свой дослед я задумаў даўно. А калі што задумаеш, то спакваля да цябе і патрэбныя звесткі прыйдуць. Гартаў неяк "Нашу Ніву" за 1913 год і натрапіў там на артыкул "Ліст да брата". Аўтар публікацыі, разважаючы пра ўклад Ф. Багушэвіча ў духоўнае жыццё беларусаў, беларускага народа, параўноўвае яго з укладам Пушкіна ў расійскую культуру. "Быў час, калі не акрэплае маскоўскае грамадзянства, пасля татарскай навалы дрыжэла і калыхалася, тады там таксама было модным не прызнавацца да свайго народа, — прыклад — цар Іван Грозны перад чужаземным, на іх запытанне, — ці ён сам масковец, — даводзіў, што маскоўцы — гэта "холопы", а ён — Іван Грозны — нямецкага роду.

Але паднялся вялікі артыста слова — Пушкін, і ён складае, узмацоўвае, паліруе, а далей, развярнуўшыся на ўсю шырыню сваёй творчасці, падносіць свету кветкі маскоўскай мовы. Словы з-пад яго пяра сыпяцца так спрытна і ёмка, як сыпяцца зярняты з-пад рук сейбіта. Ламаносаў у гушчэрні цёмнай пушчы толькі расставіў вехі, а Пушкін пайшоў па гэтых вехах, пралажыў шырокую і роўную дарогу. Цяпер па ёй нават дзеці без ніякай апаскі ходзяць на Парнас. А памятаеш, як нясмела і з якім страхам наш "палясоўшчык" Тарас прабіраўся на гару Парнас? Вядома, ён папаў туды першы раз. За ім пайшоў туды Мацей Бурачок, каторы першы цвёрда і ясна паведаў усяму свету, што наша мова, якую завуць "мужыцкай", завецца Беларускай, і што яна такая ж людская і панская, як французская, ці нямецкая або яшчэ якая. Ён першы паведаў свету аб яе грамадзянскай роўнапраўнасці паміж іншых моў усяго чалавецтва.

З той пары прайшло шмат дзесяткаў гадоў, але пасеянае слова праўды не прапала, а лягло ў добрую глебу і цяпер дало тысячы ўсходаў у сэрцах грамадзян нашай бацькаўшчыны".

Пушкіна турбаваў лёс Расіі, лёс расійскага народа. Гэта ён у першай чвэрці мінулага стагоддзя сказаў: "Усе нашы веды, усе нашы паняцці з маленства атрымалі мы з кніг замежных, мы прывыклі думаць на чужой мове... Вучонасць, палітыка і філасофія яшчэ па-руску не гаварылі: метафізічнай мовы ў нас зусім не існуе... і лянота наша ахвотней выказваецца на чужой мове, якой механічныя формы даўно ўжо гатовыя і ўсім вядомыя". Ці ж не гэтыя думкі гучаць у палымянай Багушэвічавай прадмове да "Дудкі Беларускай"?

Паэзію Пушкіна Багушэвіч больш глыбока спазнаў на ўроках рускай славеснасці, калі вучыўся ў гімназіі. Гэта зрабіла на стрыманую, ураўнаважаную, матэматычна-прагматычную душу юнага Францішка непаўторнае ўражанне. Паэзія Пушкіна размякчыла ягоны прагматызм. І ўжо з тае пары поруч з матэматыкай жыло ў Францішкавай душы паэтычнае слова. Праўда, слова гэтае прарастала на краёвым грунце, краёвых тэмах, адпаведных гэтай зямлі, гэтаму народу, яго гісторыі. Гэта і зрабіла Багушэвічаву постаць самабытнай і непаўторнай для Беларусі. Але Пушкін ёсць Пушкін. Ніхто з ім спаборнічаць не збіраўся. Ніхто не прэтэндаваў на яго п'едэстал. Проста павінны былі нарадзіцца таленты з тутэйшага народа, якія мусілі сказаць слоўка ад імя гэтага народа пра яго патрэбы, мары, надзеі. Так

ПАМЯЦЬ

# "Краты... свет засланілі"

Валянцін Таўлай пражыў усяго трыццаць тры гады, з якіх амаль сем правёў у турмах. Тым не менш, ён пакінуў пасля сябе значную творчую спадчыну, асаблівае месца ў якой займае паэзія, рэвалюцыйная сваім зместам і пафасам, важкая думкамі, роздумам аб жыцці тых, хто воляй абставін вымушаны быў жыць пад сацыяльным і нацыянальным прыгнётам, змагацца і за свае правы, і за свабоду, шчаслівую будучыню. Якраз ёсць нагода ўспомніць Валянціна Паўлавіча добрым, спагадным словам: нарадзіўся паэт 85 гадоў назад.

Творчасць В. Таўлая цесна звязана з барацьбой беларускага народа ва ўмовах Заходняй Беларусі. Спалучэнне глыбока сімвалічнае: пачатак літаратурнай дзейнасці В. Таўлая па часе амаль супаў з пачаткам яго рэвалюцыйнай барацьбы. У 1928 годзе на старонках газеты "Сіла працы", што выходзіла ў Вільні, былі надрукаваны першы верш чатырнаццацігадовага аўтара, тады вучня Віленскай беларускай гімназіі, а праз год яго, члена падпольнай камсамольскай арганізацыі, выключаць з гімназіі за ўдзел у вучнёўскай забастоўцы.

Няцяжка здагадацца, пра што пісаў малады паэт. Прага абнаўлення свету і жыцця хвалявала яго. Верш так і называўся — "Жаданне". Мужная, праўдзівая паэзія.

***Гром, — загрымі! Віхор, — завый!***<br>***Пад бляск маланак агнявы***<br>***хай задрыжаць прасторы неба:***<br>***скрануць Зямлю з падвалін трэба!***

***Хай затрашчыць пад буры шквал***<br>***ланцуг, які Зямлю скаваў:***<br>***на гром нябёс — маланак гоман —***<br>***народ Зямлі адкажа громам!***

Не маглі не хваляваць паэта і матывы кахання, дружбы, сяброўства. Аднак і каханне ў яго творчасці неаддзельнае ад барацьбы. Гучыць споведзь пакалення змагароў. Гэта голас тых, хто гібеў у Лукішках, каго ламаў ды не мог зламаць гродзенскі астрог. Гэта прызнанне юнакоў, якія абліваліся крывёю на барыкадах. Падалі і зноў падымаліся. Каб змагацца, кахаць і ненавідзець:

***І зноў загарэліся нашы зоры —***<br>***аднак не пабачымся мы:***<br>***дарога мая напаткнулася ўчора***<br>***на шэрыя сцены турмы.***

Верш называецца "Дзяўчыне". І гэтыя радкі пра яе таксама: "Змоўк салавей. Прамінуў светлы май. Знікла і шчасце, і воля. Краты мне свет засланілі. Бывай!.."

***Юнацтва, каханне і — турма.***<br>***О!.. Гэта не рукі дзяўчыны —***<br>***на нарах і душна, і цесна.***<br>***Хачу я пяшчоты і песні...***<br>***І песціць мне сэрца ўспаміны.***

Твор пісаўся ў верасні 1929 года ў слонімскім астрозе. Правёў да суда амаль год. А калі Віленскі апеляцыйны суд даў два гады знявалення, здолеў эмігрыраваць у Савецкі Саюз. Працаваў у рэдакцыі "Звязды", вучыўся на вячэрнім аддзяленні літфака БДУ. Са жніўня 1932 года В. Таўлай зноў у Заходняй Беларусі. Схоплены агентамі дэфензівы ў 1934-ым, ён у сакавіку трыццаць шостага прайшоў як адзін з удзельнікаў "працэсу шаснаццаці", калі польскія ўлады судзілі найбольш вядомых заходнебеларускіх літаратараў. Атрымаў восем гадоў турмы.

Хрэстаматыйным стаў яго твор "Лукішкія вершы", напісаны ў 1935 годзе ў адным з самых жорсткіх астрогаў Польшчы. Нават калі б В. Таўлай больш нічога не напісаў, гэтага верша дастаткова, каб яго імя назаўсёды прапісалася ў беларускай паэзіі:

***Я сам і пасядзець магу,***<br>***а вершам — часу шкода:***<br>***шумець ім трэба на сцягу***<br>***і калыхаць паходы.***

***Глядзі ў ваўчок як дзень, так ноч, —***<br>***не ўбачыш, чорт зіркаты,***<br>***што я заўзята і даўно***<br>***пілую вершам краты.***

У творчасці В. Таўлая значнае месца займаюць паэмы "Песня пра сухар" і "Таварыш", якія, праўда, былі закончаны толькі пасля вайны. У апошнім творы герой, што паказаны пад абагульненым прозвішчам Вязень, праходзіць сапраўдную школу рэвалюцыйнай загартоўкі. Безнадзейна хворы на сухоты, ён жыве адзіным жаданнем — стаць байцом інтэрнацыянальнай брыгады, якая змагаецца з франкістамі:

***— Я чакаць... не магу, таварыш...***<br>***там сцякаюць... крывёй сябры...***<br>***даваляй... сакратар, мне... адразу...***<br>***на іспанскі ФРОНТ... у Мадрыд...***

З астрога В. Таўлая вызвалілі 22 верасня 1939-га. Неўзабаве пачаў працаваць у лідскай раённай газеце "Уперад", а ў гады вайны стаў сувязным партызанскага атрада, потым разведчыкам спецгрупы "Буравеснік". Вясною 1942 года па шчаслівай выпадковасці застаўся жыць, восенню 1943-га трапіў у фашысцкі палон. У 1944—1945 гадах быў адказным сакратаром навагрудскай раённай газеты "Звязда", потым старшым навуковым супрацоўнікам і намеснікам дырэктара Літаратурнага музея Янкі Купалы. Выступаў і як нарысіст, крытык, літаратуразнаўца.

Працаваў, гледзячы далёка наперад. А сэрца, спакутаванае ў засценках, зблелае ад надзвычайнага фізічнага і маральнага напружання, білася ўсё слабей і слабей. В. Таўлай трапляе ў бальніцу. Паміраe доўга, цэлых паўгода, не згадваючыся аб гэтым.

27 красавіка 1947 года паэта не стала. Ён так і не паспеў пабачыць сваю першую кнігу — "Выбранае" выйшла праз некалькі месяцаў. Хоць у 1928 годзе ў Вільні была выдадзена на шапірографе яго паэма "Непераможная".

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

што Пушкін — гэта з'ява адна, а Багушэвіч і ўсе ягоныя пабрацімцы — другая. Гэта добра ўсведамляў і Ф. Багушэвіч, калі спазнаваў паэзію ўсіх сваіх папярэднікаў: Адама Міцкевіча, Уладзіслава Сыракомлі, а таксама Пушкіна, Крылова...

•

У 1996 годзе кінарэжысёр Міхась Ждановускі паводле свайго сцэнарыя зняў дакументальны фільм "За Кушлянамі снег". Фільм, як вынікае з назвы, пра Багушэвічавы Кушляны, пра самога паэта і пра таго, хто апякуецца песняровай сядзібай, — Алеся Жамойціна і ягоную сям'ю. Але для ўсіх нечаканкай у згаданым фільме быў пачатак. Фільм пачынаецца — з якіх вы б падумалі слоў? — з пушкінскага "Памятника":

***Я памятник воздвиг себе нерукотворный,***
***К нему не зарастёт народная тропа...***

Гледача напачатку гэтыя радкі насцярожваюць. Прычым тут Пушкін? Але насцярожанасць гэтую тут жа здымае стваральнік фільма.

Пушкін — вялікі рускі паэт. Ён глыбока ўсведамляе сваю веліч, таму ў яго і такая ўпэўненасць: да яго імя не зарасце народная сцяжына. Свой "Запавет" ёсць у Тараса Шаўчэнкі. Ён трохі іншай танальнасці, але таксама з дзяржаўным разуменнем сваёй асобы, сваёй пастаці для свайго народа. Ф. Багушэвіч таксама напісаў свой "Тастамент". Але паслухайце, як ён гучыць:

***І вяртайцеся з песняй да хаты,***
***Не трэба больш мяне кратаць...***

Што гэта? Поўная безвыходнасць? Закрытая тэма? Закрыты лёс паэта, народа?

Запаветы розныя, як і розныя менталітэты народаў, этнасаў. Тым не менш, рэжэсёр, ён жа і аўтар фільма, палічыў патрэбным распачаць стужку пра Багушэвіча, пра ягоныя Кушляны пушкінскімі радкамі. М. Ждановускі не меў пад рукою якіх-небудзь літаратуразнаўчых нататак пра повязь Багушэвічавай мастацкай пастаці з пушкінскай. І ўсё ж, расказваючы пра Багушэвіча, ён неяк выйшаў на Пушкіна, адштурхнуўся ад Пушкіна, каб расказаць пра песняра мужыцкай долі, аўтара "Дудкі Беларускай", ягоныя Кушляны. Мабыць жа, інтуітыўна адчуў, што Багушэвічава пастаць — такая ж велічная, як і пушкінская, і яны маюць поўнае права стаяць у адным шэрагу з такімі выдатнымі імёнамі, як Шаўчэнка, Дастаеўскі, Горкі...

Францішак Багушэвіч, пэўна, меў шмат і іншых меркаванняў пра Пушкіна, яго творы, але яны да нас не дайшлі. Мы маем толькі адно яго азначэнне: А. Пушкін — "найвыдатнейшы расійскі паэт". Але і гэтага дастаткова, каб вачыма Багушэвіча зірнуць на постаць вялікага рускага паэта і ягоныя творы.

**Уладзімір СОДАЛЬ**

# Пра бацькаўшчыну не забыўся...

Уладзімір Клішэвіч — ці не адзін з прадстаўнікоў беларускай паваеннай эміграцыі, хто, як кажуць, і за саветамі прыязджаў на Радзіму. Прытым рабіў гэта неаднойчы. А для гэтага трэба было мець смеласць, бо "чыстай" біяграфіі ён не меў. Студэнтам літаратурнага факультэта Мінскага педагагічнага інстытута ў 1936 годзе быў рэпрэсіраваны і сасланы на Калыму. У жніўні 1940 года разам з іншымі вязнямі У. Клішэвіча накіравалі ў Мінск на дадаследаванне, дзе ён і сустрэў вайну. У час акупацыі жыў у Слуцку, рэдагаваў "Газэту Случчыны". У 1944 годзе, калі пачалося вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, выехаў у Германію, праз чатыры гады перабраўся ў ЗША. У 1949 годзе рэдагаваў ратапрынтны часопіс "Беларусь", пазней працаваў выкладчыкам у каледжы ў штаце Індыяна.

З першымі вершамі У. Клішэвіч выступіў у 1931 годзе ў акруговай і раённай перыёдыцы. У час вайны друкаваўся ў беларускамоўных газетах, што выходзілі з дазволу немцаў. Адзін з аўтараў зборніка "Песня Случчыны" (Слуцк, 1943), альманаха "Ля чужых берагоў" (Мюнхен — Нью-Йорк, 1955). У 1964 годзе ў Саўт-Рыверы (ЗША) выйшла кніга паэзіі "Далячынь", у 1965 (Лондан) — паэма "Васіль Каліна". У 1970—1975 гадах У. Клішэвіч часта друкаваўся ў газеце "Голас Радзімы", якая ў 1973 годзе ў сваёй бібліятэчцы выпусціла яго кнігу "Сняцца сны мне залатыя".

Памёр 14 лістапада 1978 года ў Лос-Анджэлесе (ЗША). Нядаўна з дня нараджэння паэта споўнілася 85 гадоў.

**Сяргей ВЯРГЕЙЧЫК**

ВАНДРОЎКІ

# На шведскіх крэсах

## САБОР

Швецыя пачынаецца... з Даніі. Не толькі таму, што начны паром на Балтыцы вітаюць агні дацкага вострава Барнхольм. Мы мінаем яго і выходзім на прыстань у Мальмё — фабрычна-шэрым цэнтры вобласці Сконэ. Адсюль і да самага Кальмарскага замка спрадвеку панавалі дацкія манархі. Пасля вайны 1645—48 гг. шведы ўзнялі над гэтымі паўднёвымі тэрыторыямі свой залаты крыж. Срэбны крыж датчан адступіў за вузкі праліў Эрэсун. Яшчэ амаль сто гадоў даны і юты (ад гэтых плямён назва краіны Danmark і паўвострава Jutland) час ад часу спрабавалі адваяваць згубленую лусту зямлі. Але свеі (адсюль архаічная назва Швецыі — Svealand) не толькі адбівалі наезды, але і высаджваліся на дацкі бераг. Аднойчы ў тумане па лёдзе перайшлі праліў і ледзь не захапілі Капенгаген. Сталіцу тады выратавалі студэнты, якія па калені ў снезе ў сваіх чорных універсітэцкіх камзолах і капелюшах атакавалі захопнікаў...

Чорнае і белае. Нашы ўяўленні пра каларыт Скандынавіі — багатыя кантрастамі і нюансамі сціплай у сваёй прыгажосці паўночнай палітры. Экспрэсіяністычны выбух жывапісу Эдварда Мунка аглушае сваёй нечаканасцю. За ім у дваццатым стагоддзі ў скандынаўскім мастацтве не пераводзяцца апантаныя каларысты. Што яшчэ раз засведчыла рэтраспектыўная выстава аўтапартрэта ў горадзе Лунд. Гэта — адзін з буйнейшых універсітэцкіх цэнтраў Паўночнай Еўропы. Тут вучацца беларускія студэнты, працуюць нашы навукоўцы. Мэрыя сустрэла нашу дэлегацыю Фонду падтрымкі дэмакратычных рэформ імя Льва Сапегі з бел-чырвонабелым сцягам. Шведы, відаць, памятаюць, пад якімі сцягамі змагаліся харугвы Яна Хадкевіча пад Кірхгольмам.

Сабор — душа і сэрца старажытнага Лунда. Будаўніцтва гэтага фарпоста каталіцызму пачалося ў 1080 годзе, калі кароль і духавенства імкнуліся вырвацца з абдымкаў "старэйшага брата" — немцаў, якія пярэчылі стварэнню нацыянальнай царквы. Неўзабаве Лунд стаўся сядзібай арцыбіскупа ўсяе Даніі.

Магутныя муры будаваліся, калі не пачаліся яшчэ крыжацкія выправы ў Палесціну. Шэрыя адшліфаваныя квадры кладзіся слой за слоем, радкамі велічнай каменнай кнігі гісторыі. Раманскі стыль, прынесены з поўначы Германіі, вызначаў прыкметы духоўнага адзінства народаў германскага кораня. Што дазволіла пазней утварыць Ганзейскі саюз (у арбіту якога быў уцягнуты і наш Полацк). Крыштальная вытанчанасць форм скляпенняў, строгі лінейны лад і рытміка нервюраў і аркад заваражваюць сваёй першабытнасцю. Так уражваюць арганныя мелодыі Перацина Вялікага, шэдэўры сярэдневяковай архаікі. Яшчэ не саспела гатычная поліфанія Баха, а яны ўсе роўна дарагія нам. Як настальгічны ўспамін аб нечым незваротным, даўнім...



*Карлскруна. Цэнтральная плошча.*

## ВЯРТАННЕ

...Снег чыстай старонкай накрыў разгорнутую інкунабулу горада. Не зразумеўшы эфектны прыём нябеснага рэжысёра, на дарозе замітусілася камунальная служба. Проза будняў нагадала, што гэта Швецыя і адна са сталіц лютэранства. Лунд паўтарыў лёс Смаленска, Вільні, Беластока. Падабенства яшчэ і ў тым, што жыхары ўсяго краю Смоланд дагэтуль размаўляюць на дыялекце, у якім нашмат больш дацкага, чымсьці шведскага. Раздражнёны ўпартасцю смоландцаў Густаў, заснавальнік дынастыі Вазаў, называў іх "бандай здраднікаў".

Начышчаны прыбіральшчыкамі, як паркет, брук накрэсліў цёмную артэрыю руху. Дынаміка яго стрыманая, яшчэ адно сведчанне нардычнай флегмы. Аўтамабілі і людзі мінаюць адзін аднаго ветліва, не тоўпяцца. Мабыць, фінальны гістарычны эпізод на высокай хуткасці ў Лундзе звязаны з Карлам XII. Ён праскакаў па гэтай дарозе, вярнуўшыся на родны бераг пасля паразы апошняга шведскага гарнізона ў Памераніі, праз 16 год беспярыпыннага заморскага змагання і турэцкага палону.

На цэлы месяц Лунд стаўся прытулкам найтрагічнейшай пастаці Паўночнай вайны. Што мроілася яму на фоне цішыні? Панарама ўспамінаў ажыўляла батальныя сцэны беларускага акта трагедыі: аблога Гродна, дзе ў начным баі на мосце праз Нёман Карл забіў двух рускіх райтараў... Хаўрус з Сапегаўскай канфедэрацыяй, марш наўздагон за Пятром: Смаргонь, Радашковічы, Мінск, Галоўчын, Магілёў, Касцюковічы...

## ШПІЛІ І МОРА

Крыханстад — архітэктурная мініяцюра дацка-шведскага рэнесансу і класіцызму. Нават гарматы, што стаяць насупраць былога армейскага штаба, здаюцца цацачнымі. Але ўспамін зноў вяртае да дарослых гульняў. У гэтым доме на цэнтральнай вуліцы ў 1709—10 гг. жыў у эміграцыі вялікі князь ВКЛ Станіслаў Ляшчынскі. Яшчэ адна недапісаная глава нашай гісторыі.

І зноў сустрэча з морам. Тут, ля вострава Эланд, мы ўрэшце дасягнулі старой мяжы двух каралеўстваў. За стагоддзі датчане 29 разоў штурмавалі Кальмарскі замак, але толькі аднойчы паспяхова.

Гіганцкі сілуэт засціне паўнеба. Суровая геаметрыя мурову і вежаў завяршаецца пасівелай бронзай шпіляў. Мора дыхае холадам. Хвалі і замак — дзве стыхіі ў вечным суседстве.

Ля дарогі вясёлыя домікі пад крыжастымі нацыянальнымі сцягамі. Мы набліжаемся да Карлскруны, буйнейшага на працягу вякоў ваеннага порта Швецыі. Цяперашнія капітаны не раўня старым марскім ваўкам. Нядаўна тут адшумеў скандал. Аказалася, што маладыя афіцэры замест таго, каб назіраць за морам і шукаць савецкія падлодкі, выкарыстоўвалі звышдакладную оптыку, каб падглядваць за дзяўчатамі на пляжы.

Урачыстая класіцыстычная гармонія цэнтральнай плошчы выратоўвае славу марской сталіцы. Бронзавы Карл XI угледаецца на ўсход, нібыта ведаючы маршруты сагі свайго больш знакамітага сына.

Мы пакідаем шведскі бераг з думкай аб тым, што гісторыя нашай краіны магла б скласціся зусім інакш.

**Валеры БУЙВАЛ**

КОНКУРСЫ

# "Слядамі гісторыі"

Рэгіянальная асацыяцыя выкладчыкаў гісторыі і грамадскіх дысцыплін "ДОБА" (Львоў), Архіў найноўшай гісторыі, Беларускі гуманітарны фонд "Наша Ніва" (Мінск) пры падтрымцы Міжнароднага фонду "Відродження" (Кіеў) арганізуюць украінска-беларускі конкурс вучнёўскіх даследчых прац "Слядамі гісторыі", у якім могуць удзельнічаць старшакласнікі і навучэнцы сярэдніх навучальных устаноў Украіны і Беларусі.

**На конкурс трэба даслаць свае пісьмовыя працы-роздумы на тэмы (на выбар):**

1. Помнік — гэта праява грамадскай волі, калі толькі ён не навязаны таталітарным рэжымам. Ці павінны мы гэтыя сведчанні мінулага разглядаць толькі пад палітычным пунктам гледжання?
2. Наколькі правільным ёсць сцверджанне пра тое, што помнікі "не падманваюць", "не маўчаць"? У такім разе, ці дапамагаюць яны лепей зразумець гісторыю?
3. Падчас бітваў, асабліва XX ст., шмат нашых суайчыннікаў ваявала ў складзе розных, часам варожых, сіл. Як мы цяпер павінны ставіцца да помнікаў, пастаўленых у іх гонар?
4. Сёння існуе яшчэ шмат помнікаў, якія сімвалізуюць аджылыя палітычныя ідэі. Ці мусім мы іх знішчаць, пакідаць недатыкальнымі ці пераносіць у іншае месца?
5. Ці дапамагаюць нам сёння помнікі не забываць мінулае? Магчыма, мы павінны шукаць іншыя формы захавання духу мінулых часоў?
6. Якія помнікі патрэбны нашаму грамадству сёння?

**Вашыя даследаванні павінны:**

- мець аб'ём да 8 старонак друкаванага ці 12 старонак рукапіснага тэксту;
- абапірацца на мясцовы матэрыял;
- выяўляць асабістае стаўленне да грамадскіх з'яў і працэсаў;
- можна прыкладаць здымкі, малюнкі, цікавыя дакументы ці іх ксеракопіі.

Удзельнікам конкурсу трэба дадаткова, на асобным аркушы, падаць звесткі пра сябе: імя, прозвішча, год нараджэння, месца навучання, хатні адрас (абавязкова з паштовым індэксам), тэлефон, а таксама пра свайго кансультанта (калі ён маецца): імя, прозвішча, адрас, тэлефон.

**Па выніках конкурсу аўтары 25 самых цікавых прац з беларускага і 25 з украінскага боку:**

- пабачаць свае працы апублікаванымі;
- будуць запрошанымі да ўдзелу ў міжнароднай маладзёжнай канферэнцыі "Чалавек-Час-Помнік", якая адбудзецца ў кастрычніку 1999 года ў Львове;
- стануць удзельнікамі разнастайнай культурнай праграмы;
- атрымаюць каштоўныя падарункі;
- атрымаюць магчымасць у будучым узяць удзел у іншых міжнародных праектах.
- вынікі конкурсу будуць вядомы ў верасні 1999 года;
- дасланыя на конкурс матэрыялы не вяртаюцца;
- да ўдзелу ў конкурсе заклікаюцца аўтары з разнастайнымі палітычнымі і грамадскімі поглядамі.

**Просім даслаць Вашы працы да 30 чэрвеня 1999 года на адрас:** *а/с 71, Мінск 220123 (з пазнакаю "Конкурс "Слядамі гісторыі"). Даведкі па тэл. 229-55-69 (Ірына Коваль).*

**Калектыў Дзяржаўнага прадпрыемства "Выдавецтва "Юнацтва" смуткуе ў сувязі са смерцю былога супрацоўніка КУРБЕКІ Леаніда Сцяпанавіча і выказвае глыбокае спачуванне яго родным і блізкім.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае шчырае спачуванне пісьменніку Івану КУРБЕКУ з прычыны смерці брата Леаніда.**

УГОДКІ

# Подзвіг Кабзара

***9 сакавіка — 185-я ўгодкі з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі, паэта і мастака, палымянага патрыёта Украіны, які быў і застаўся навек яе пільным зрокам, яе чуйным слыхам, яе неўміручым голасам, яе сумленнем.***

***З'яўленне балады "Прычынна" (1838) засведчыла, што на інтэлектуальным небе Украіны заззяла яркая зорка паэзіі Тараса Шаўчэнкі. Прыгадаем метафарычнае Багдановічава азначэнне: "Ёсць зоркі, якія настолькі блізкія адна да адной, і так роўна зліваюць сваё святло, што здаюцца нам адным непарыўным цэлым. Двайнымі зоркамі называюць гэтыя свяцілы. Іх доля стала доляю музы Шаўчэнкі і ўкраінскай народнай паэзіі: двайною зоркаю ззяюць яны ў свеце мастацтваў і красы". Ён жа, Максім Багдановіч, першы з беларусаў вызначыў сутнасць паэзіі Кабзара, адзначыў яе красу і сілу, яе буйны маштаб, у асобе Шаўчэнкі ўбачыў паэта, "які ў формах строга нацыянальных выявіў агульначалавечы змест, прымушаючы чытача перажываць цэлую гаму самых разнастайных пачуццяў, пачынаючы ад страснага гневу і абурэння і канчаючы пачуццямі любові і ўсёдаравання".***

***Глыбока па-народнаму, з болем шчымлівым паэт прапаведуе здаровую, трывалую мараль, прагне чысціні людскіх стасункаў, справядлівасці. Вяршыняю яго любові сталася Бацькаўшчына, Украіна, за яе ён выступіў супраць сістэмы зла, якая ўзаконіла нацыянальны прыгнёт. За што быў жорстка пакараны.***

***Ёсць такое азначэнне — подзвіг Шаўчэнкі. З такім разуменнем жыццёвага і творчага шляху генія нельга не пагадзіцца. Доўгая няволя, турма, фізічныя і маральныя пакуты не зламалі творцу, хоць і ўкарацілі жыццё. А гэта і ёсць подзвіг, бо гэта — перамога чалавечага духу над неверагоднымі нягодамі і цяжкімі выпрабаваннямі і ўдарамі лёсу.***

***Прапаную чытачам "ЛіМа" некалькі сваіх перакладаў з Кабзара.***

**Васіль ЖУКОВІЧ,**
**сябра рады таварыства "Беларусь—Украіна"**

Тарас ШАЎЧЭНКА



●

*Калісь дурною галавою*
*Я думаў: "Горачка са мною!*
*Як давядзецца ў свеце жыць?*
*Людзей і Госпада хваліць?*
*У дрыгве калодаю гнілою*
*Валяцца, старыцца ды гніць,*
*Памерці й следу не пакінуць*
*На абакрадзенай зямлі...*
*О гора! Як яго спыніць?*
*І як сябе я захаваю?*
*Штодня пілаты распінаюць,*
*Марозяць, скварацъ на агні!"*
21 ліпеня 1859
Чаркасы

●

*Ды навошта мне жаніцца?*
*Нашто заручацца?*
*Будуць з мяне, маладога,*
*Казакі смяяцца.*

*Ажанюся, яны скажуць,*
*Голы ды галодны,*
*Маладую волю страціў,*
*Стаўся несвабодны.*

*Яно й праўда.*
*Што ж рабіць мне?*
*Навучыце, людзі.*
*Хіба йсці да вас у наймы?*
*Ці да ладу будзе?*

*Не, не мне валы чужыя*
*Пасвіць, заганяці;*
*І не буду паважаць я*
*Цешчу ў чужой хаце.*

*У жупане у блакітным*
*Красавацца буду*
*На коніку вараненькім*
*Прад казацкім людам.*
*Знайду сабе чарнаброўку*
*У стэпе пры даліне —*
*Высокую магіланьку*
*На той Украіне.*

*На вяселле таварыства*
*Прыйдзе — як да брата,*
*Не забудзе самапалы,*
*Выкаціць гармату.*

*Як таварыша адправяць*
*У новую святліцу,*
*Стрэлам зброі як належыць*
*Урачыста зліцца.*

*Як паложаць атамана*
*Спаць у новай хаце,*
*І гармата загалосіць*
*Голасна, як маці.*

*І гукацьме, і крычацьме*
*Не адну гадзіну.*
*Разнясе такую славу*
*На ўсю Украіну.*
Першая палова 1849
Косарал

●

*Не жаніся ды з багатай —*
*Жыць не дасць у хаце,*
*Не жаніся і з бяднячкай, —*
*Спаць не будзеш, браце.*
*Ажаніся з вольнай воляй,*
*З казацкаю доляй;*
*Будзь з такой, якая будзе, —*
*Хай сабе і з голай.*
*Ды ніхто не дакучае*
*І не разважае,*
*Дзе баліць, з якой прычыны,*
*Ніхто не пытае.*
*Удвух, кажуць, і паплакаць*
*Бы лягчэй, бядача;*
*Ды не слухай: лягчэй плакаць,*
*Як ніхто не бачыць.*
4 кастрычніка 1845
Міргарад

●

*Думы мае, мае думы,*
*Верныя адзіна,*
*Хоць вы мяне не кідайце*
*Пры ліхой гадзіне;*
*Шызакрылыя галубкі*
*Мае, прылятайце*
*З-за Дняпра з-за шырокага,*
*У стэпе пагуляйце*
*З кіргізамі гаротнымі,*
*Яны ўжо ў няволі,*
*У галечы, ды ўшчэ Богу*
*Моляцца на волі.*
*Прылятайце ж, мае думы,*
*Цёплымі слаўцамі*
*Прывітаю вас, як дзетак,*
*І заплачу з вамі.*
Другая палова 1827
Орская крэпасць

●

*Не так тыя ворагі,*
*Як добрыя людзі —*
*І абкрадуць шкадуючы,*
*Плачучы асудзяць,*
*І запросяць цябе ў хату,*
*І будуць пытацца*
*У цябе ды пра цябе ўсё,*
*Каб пасля смяяцца,*
*Каб з цябе смяяцца,*
*Каб цябе дабіці...*
*Без ворагаў можна ў свеце*
*Як-небудзь пражыці.*
*А вось дабрадзеі*
*Знойдуць цябе ўсюды,*
*Нават на тым свеце*
*Цябе не забудуць.*
Другая палова 1848
Косарал

●

*На Вялікдзень на саломцы*
*Малыя гулялі,*
*Забаўляліся пад сонцам*
*Дый хваліцца сталі*
*Абноўкамі. Таму к святу*
*Гожую пашылі*
*Вышыванку. А той стужку,*
*А той бант купілі,*
*Каму шапачку — па модзе, —*
*Боты — цуд дый годзе, —*
*Каму світку... Адна толькі*
*Сядзіць без абноўкі*
*Сіратцінка, ручаняты*
*У рукавы схавала.*
*— Даравала мне матуля...*
*— А мне справіў тата...*
*— А мне хросная кашулю*
*Шыла й вышывала.*
*— А я ў папа абедала, —*
*Сіротка сказала.*
Першая палова 1849
Косарал

## Сон

Марку ВАЎЧКУ

*На паншчыне пшаніцу жала,*
*Стамілася; не адпачыць*
*Пайшла ў снапы — пашкандыбала*
*Івана-сына пакарміць.*
*Дзіця спавітае крычала*
*У халадочку за снапом.*
*Распавіла, падсілкавала,*
*Папесціла; і нібы сном,*
*Над ім сядзеўшы, задрамала.*
*І сніцца ёй той сын Іван*
*І гэткі гожы, і багаты,*
*Не адзінокі, а жанаты*
*Ён з вольнай, бачыцца,*
*бо й сам*
*Ужо не панскі, а на волі;*
*І на сваім вясёлым полі*
*Яны сабе пшаніцу жнуць,*
*А дзетачкі абед нясуць.*
*І усміхнулася нябога,*
*Прачнулася — няма нічога,*
*На сына глянула, ўзяла*
*Яго ціхенька спавіла*
*І, цівуна згадаўшы злога,*
*Капу ўшчэ дажынаць пайшла.*
13 ліпеня 1858
С.—Пецярбург

●

*Пабраліся з любоўю, ласкай,*
*Памаладзелі, падраслі.*
*Гаёк, садочак развялі*
*Наўкол хаціны. І па-княску*
*Квітнелі. Дзетак гадавалі,*
*Раслі яны ды вырасталі...*
*Дзяўчатак маскалі ўкралі,*
*Хлапцоў у маскалі забралі.*
*А нас — няйначай — развялі*
*Нягоды, лёсы не з'ядналі.*
5 снежня 1860
С.—Пецярбург

●

*Усё адно мне, я ці буду*
*На Украіне жыць, ці не,*
*Ці ўспомніць хто,*
*ці ўсе забудуць*
*Мяне ў халоднай чужыне —*
*Усё адно чамусьці мне.*
*У няволі вырас, між чужымі*
*І, неаплаканы сваімі,*
*У няволі, плачучы, пamру,*
*І ўсё з сабою забяру,*
*Малога следу не пакіну*
*На нашай слаўнай Украіне,*
*На нашай — не сваёй зямлі.*
*Каб памянуць, не скажа сыну*
*Ягоны бацька: — Памаліся,*
*Маліся, сынку: за Украіну*
*Яго замучылі калісь. —*
*І ўсё адно мне, а ці будзе*
*Той сын маліцца, а ці не.*
*Ды не ўсё роўна для мяне,*
*Як Украіну злыя людзі*
*Прыспяць і, як агонь шугне,*
*Яе, абкрадзеную, збудзяць...*
*Ох, не ўсё роўна для мяне!*
У каземаце
1847

ПОШТА

# Радасць паэтычнага натхнення

У гісторыі Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта мінулы год быў адзначаны знамянальнай падзеяй — 10-годдзем літаратурна-творчага аб'яднання "Натхненне". Карані яго адыходзяць у даваенныя гады, калі ў Магілёўскім педінстытуце працаваў літаратурны гуртох, які паслужыў школай мастацкай творчасці для многіх вядомых беларускіх паэтаў і празаікаў: Васіля Матэвушава, Міхася Шумава, Міколы Гаруновіча, Якуба Усікава, Пятра Шасцерыкова, Георгія Шчарбатава і інш.

За 10 гадоў на пасяджэннях "Натхнення" можна было пачуць вершы, апавяданні і песні на пяці мовах — беларускай, рускай, украінскай, літоўскай і польскай. Надоўга запомніліся слухачам натхнёныя радкі ўкраінкі Наталлі Чараднічэнкі, літоўкі Маргарыты Малушайтэ, паляка Веслава Рэглінскага, які вывучаў рускую мову ў магілёўскай ВНУ, а прыехаўшы на радзіму, выдаў паэтычны зборнік, прэзентацыя якога прайшла ў сценах універсітэта. Адбылася на пасяджэнні літаб'яднання і прэзентацыя зборніка Васіля Даўгалёва.

Члены літаб'яднання друкуюць свае творы ў часопісах і газетах "Крыніца", "Полымя", "Маладосць", "Першацвет", "Знамя юности", "Настаўніцкая газета", "Наша ніва", у абласных і раённых перыядычных выданнях; іх творчасць прадстаўлена ў зборніках "Прыдняпроўскія хвалі", "Самое важное", "Вусны" і "Квадра".

Значнае месца ў рабоце літаб'яднання надаецца літаратурнай вучобе. Адчуць напрамак сучаснага літаратурнага працэсу, удасканальваць літаратурнае майстэрства ў розны час гуртkоўцам дапамагалі выкладчыкі Магілёўскага педінстытута Я. Усікаў, З. Міроненка, І. Вінаградава, М. Міхайлаў, Л. Шакірава, М. Абабурка, Я. Клімуць і інш.

На рэспубліканскім семінары маладых паэтаў і празаікаў у розны час выступалі Сяргей Украінка і Алена Сугака. У 1997 годзе па выніках абласнога конкурсу творчай моладзі літаб'яднанне было адзначана спецыяльным дыпломам, а студэнты-гісторыкі Аляксей Бірукоў і Аляксандр Рыбачонак занялі І месца. У 1998 годзе шырока было прадстаўлена "Натхненне" ў рэспубліканскім конкурсе маладых талентаў "Дэбют". Першыя месцы ў намінацыі "Паэзія" занялі студэнты філалагічнага факультэта МДУ Наталля Міхальчук і Наталля Каршакова, у намінацыі "Байка" — студэнтка факультэта дашкольнага выхавання Таццяна Барысік.

Літаб'яднанне выпусціла ў свет тры зборнікі прозы і паэзіі: два — у 1994 годзе, а апошні — "Блізка да сэрца" — у 1998.

**Сяргей СОМАЎ**


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-8204
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462
навін — 284-8462
мастацкага афармлення — 284-8204
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 236-6071





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3866.
Нумар падпісаны ў друк 11.3.1999 г. у 17.30.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 1153/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12